**АЛЕСЬ САЛАВЕЙ**

# НЯТУСКНАЯ КРАСА

**ВЕРШЫ**

## МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

Далёка ад зямлі прадзедавых загонаў
ён песьціў у душы гармонію паўтонаў.
Ды сэрца рвалася на волю, на прастор —
туды, дзе гуў лясун, шумеў спрадвечны бор,
і сон вадзяніка, і зорных ночаў лоні.
мінуўшчыны сьляды і коньнікі Пагоні,
мадонаў вобразы, случанкаў паясы.
О, васількова край бязьмежнае красы!
Адведаў шыр тваю — ды ёю дыхаў мала...
А вечнасьць разам зь ім цябе не пакідала,
і памятаць заўжды — апошні быў зарок
а зь ім — нясьвяны дар — ацьвецены в я н о к.
1948.

## НА ЧЫСТЫМ АРКУШЫ

Александрыйскі верш! Ты пад рукой Максіма
гучнеў і ажываў — з табой жыла радзіма:
і ейны колішні, і ейны прыйшлы дзень,
нятускная краса і сіл зямных струмень.
І зь імі ты ня змоўк. А думка рвецца птахам:
сягаць, ісьці з табой праводна-зьнічым шляхам —
туды, дзе йшлі бацькі, куды йшчэ не дайшлі.
Ня зьбіся-ж, верны сын, — шмат зблытаў на зямлі.
Дык будзь, мой чуйны верш, прасьвядай і спамогай.
Дарэмна не скажы і пра мяне самога:
«На чыстым аркушы, прад вузенькім вакном
прыгожа літары выводзіць ён пяром...».
1947.

## АДЗІНОЦТВА

Пазбаўлены ўсяго, цярпеньнем сум падпершы,
знаходжу супакой — яго прыносяць вершы.
Глядзіцца сьлепа ў ноч халодных шыбаў шкло.
Мітужны каганец — і ўцеха, і сьвятло.
Ды цемры акіян ня можа кроплю гэту
майго агню ўтапіць. Чужы і вам, і сьвету,
ня гасну я ў нудзе, у сьценях нябыцьця —
наслань зьнямеласьці ня стне майго чуцьця.
Яно знайшло ў сабе і дол, і шлях уласны —
над імі зазігцеў дзяньніцы позірк ясны.
Разьвейваецца змрок. Займаецца зара.
Ідзі-ж насустрач ёй — пара табе, пара!
1947.

---

Клён шапацеў на сьцямнелым двары —
поўніўся радасьцю весьняй.
Сьветлаю, квола-пяшчоткаю песьняй
вабілі зоры згары.

— «З нашаю зоркай сустрэцца-б... Няма... —
вусны твае мне шапталі. —
Разам сустрэцца-б...» — Ды ў зорныя далі
ты палящела сама.

— «Стрэнемся! Тут я ня буду адзін!» —
голас імкне за табою.
...Кажнае раніцы з клёну журбою
капаюць кроплі сьлязін.
1943.

---

Нязмоўкная слава
імкненьням і ўзьлётам высокім.
Усходам, як сьпель, поўнасокім —
расіцца яскрава.

На мужным узьлёце
пагляд свой пястуе дзяньніца...
Ня ўспыхнуць — навекі спыніцца
у марнай сукроце.

Там сьветласьць ня ясьне,
дзе прысак тускнее ў нязгодзе.
Хай зьнічыць, хай сонцам усходзе —
ніколі ня згасьне!
1947.

---

Вянкі, табе вянкі,
аздобная краса!
Буйней, ідзі ў вякі,
зь няволі ўваскрасай!

Табе нязгасна жыць
у сэрцах у людзкіх.
З табой не засушыць
вянкоў, вянкоў маіх.
1945.

---

Што ўчора мінула — ніколі
ня пройдзе шляхамі наўкольля.
А сяньня — да крозаў посьпех.
А заўтра — збытога посьміх.

Зьяўляйся-ж і станься красою,
разьліся блакітнай плюсою —
і яснай усьмешкай раньня
вянок твой мне ў вочы гляне.
1945.

## ДОМІК У МЕНСКУ

1.

Цьвіці, вясна мая, цьвіці!
З табой парываў пошуг поруч.
Няхай зьнікае ў нябыцьці
глухіх часін туга і горыч.

Бязьмежжа ніваў калыхай,
пашлі ім весьлівыя сокі —
зямлі і неба дар — няхай
узносіць іх узрост высокі.

З тваёй ацьвецелай красой
насіцьму ўсьцешаную мрою:
на гул, аздоблены расой,
ступлю з праддзённаю зарою.

Прайду па ім гаспадаром,
паклон пашлю багацьцю ніваў,
сустрэну песьняю свой дом —
вяшчуняй спору й плённых жніваў.

Цяпер-жа — немань, ноч над ім,
тугой засмучаным харомам,
ахутаў далі зманны дым,
спакой трывожаць высі громам.

Жуда пад вокнамі брыдзе,
кручча сядзіць на шэрых стрэхах...
Ты засталася у бядзе,
мая пакіненая ўцеха!

2.

А з тым харомам-домам я
маленькі дом успамінаю:
над самай Сьвіслачай стаяў,
ці сяньня ён стаіць — ня знаю.

Я ў ім пражыў аднюткі дзень
і ёй у ім глядзеў у вочы.
З вакна зайздросьціў нам прамень,
як мы, на розьвіт неахвочы.

Я голас ейны ў доме чуў —
той звон крыніц, нібы срабрысты.
Я з насалодаю адчуў
ягоны сьпеў крыштальна-чысты.

Пабачыў працу ейных рук
на ўзорах, ёю вышываных.
Я чуў — на вуліцы голскі брук
змаўкаў, нібы зачараваны.

Мне помніць доўга дзень у тым
у доме простым, а раскошным.
Я мілым быў і дарагім
ягоным госьцем — мо й апошнім.

Бязьмежна ўдзячны дому й дню —
няўтоме рук і сьціплай працы:
пазнаў я зь імі прасьціню
пышнейшай над усе палацы.

3.

Мы нарадзіліся наўзбоч
здавольлем выпешчаных сьцежак.
Сьляпіла вочы цемра-ноч,
сьвятлом нам быў маленькі ўзьмежак.

Мы працярэбвалі шляхі
да межаў дзён, заўсёды ясных, —
ды адшпурляў віхор ліхі
да ночаў вечных і заўчасных.

Ня песьціў зваблены пагляд
зарніцаў раньніх і вячорных —
хмурнеў суровы гул гармат
сьцяной дымоў — густых і чорных.

Нязгаснасьць радасьці здалёк,
як зьніца, клікала, будзіла —
ды прыбліжальны мужны крок
гняла антыхрыстава сіла.

Мы ня спыняліся, яе
вось-вось імклівa дасягалі...
Нястомна зло ланцуг куе
і ня сьціхаюць штормаў хвалі.

Куды ні глянь — на растанёх
прапекла крыж пакут прыгнула.
І тое, чым-бы жыць я мог, —
адным-аднюткім днём мільгнула.

4.

Пакінуў з болесьцю яго —
ізноў паклікалі дарогі.
А дому йшчэ ні аднаго
я не знайшоў — так сьвет убогі.

Як шоўк — ля дому на двары
краса мураваў аксамітных.
Як жвір — заморскія каўры
маіх прытулкаў нявыбітных.

Ля дому ў пуні моцны сон,
як пух — і сена, і салома.
Як грант — чужы начлег-прыгон,
не адпачынак — толькі ўтома.

Ці-ж у маёй бядзе цяжкой
магільны холад камяніцы
замене сьціплы мой пакой
у вокнах з позіркам дзяньніцы?

Ці-ж у мужчынскіх сподних твар
пад голас эпохі маляваны,
замяніць мне яе — той чар,
ні з кім у сьвеце незраўнаны?

І той, хто страціў дом-харом,
пазнаў ля сьцен чужых і ўпартых:
палац з раскошай і дабром
яго, найбеднага, ня варты.

5.

І з росным ранкам, зь ясным днём,
і на зары, і на паўдзёньні,
«адзіны дом, каханы дом» —
няўціхна сэрца б'ецца-звоне.

Граніц мінаючы драты,
брыдзе мой лёс гарбатым дзедам.
«Каханы ты, адзіны ты» —
уторац сэрцу думкі сьледам.

Званочкі-краскі, васількі.
Ці-ж то яны? Яны-ж — далёчы.
Між іх мільгаюць матылькі.
А ў думках — толькі дом і вочы.

Рамонкі — безьліч, безьліч іх!
Адна краса — палі і ўзьмежкі.
А мне здаецца — вочаў тых
глыбокі смутак і... усьмешкі.

Маркотны шлях. І пад ступой
скрыпяць пяскі, бы сьнег аб полаз.
Я не спаткаюся з табой
і больш ня чуцьму ейны голас.

Ізноў палі. І бялізна
садоў-гаёў; на сэрцы — склока:
вакол вясна, цьвіце вясна,
а вы... ня блізка — так далёка...

6.

«Драўляны дом, блакітны дом!
Маіх найлепшых мар прытулак.
Ці так-жа ўсё сваім вакном
глядзіш на вузенькі завулак?

«Ці шчасьцем ты сваім багат,
ці шашаль сьцены твае губіць?
Ці так-жа ўсё зялёны сад
тваю ідылію галубіць?

«Скажы ты мне, скажы ты мне,
дзе зараз тая, што начамі
малілася сваёй вясьне —
такая... зь сінімі вачамі?

«Ці ёй цяпер, як і тады,
ад нечага ўсё сумна, цяжка?
Як пражывае маладым
свой век прыгожая мапашка?

«Што зь ёй цяпер? Свой ціхі сум
яна ў вачох па мне ці носіць?
Гаротнасьць цяжкіх яе дум
каго разьвеяць яна просіць?

«Дрыўляны дом, пястуй свой сон,
гадуй у садзе свой спачынак.
Ты мар найлепшых пантэон,
адзіны дум маіх прыпынак».

7.

О, незабыўныя радкі
майго калегі М. Сяднёва!
Вы дум цьвяцістыя вянкі,
цытую вас я слова ў слова.

Я з вашым аўтарам пра вас
успамінаў у Беластоку,
і з вамі я тужыў ці раз
ля водаў Рыскае затокі;

і праз далейшыя шляхі
былі вы песьняю адзінай;
ступаў я з вамі празь імхі
лясоў Эстоніі гасьцiннай;

і пры насланi — дымных днёх —
былі вы зьнічкай успаміну,
жылі ўва мне ў трывожных снох
і ў бомбасховішчах Бэрліну.

Ды Reich'у згін не пахіснуў
і не паставіў на калены;
мяне ад вас не адхіснуў
і стогн руін агністай Вены.

Як з вамі я, вы ідзяцё
за мной па скалах Альпаў хмурых.
І вы, як дом, — маё жыцьцё,
мая нясьхільнасьць у віхурах.

8.

Як дом над Сьвіслачай-ракой —
найсьціплы скарб мае сталіцы,
так згадка — плач тугі, якой
цяпер трымцяць і вёснаў гліцы.

Адпорны сіберным вятром —
ён частка цэлага харому,
ды мне цяпер — бы сам харом,
нібы мой дом самога дому.

Яна-ж у ім — яна жыла,
мо й сяньня зносе ў ім няўцеху,
і пад крывавым пеклам зла
ня знае радасьці і сьмеху.

Мо ў тундрах, мо сярод пяскоў
нясе пакрыўдны зьдзек сваволі —
і па сьлядох яе бацькоў
далей грыміць ланцуг няволі...

Туга салодкая мая
даўно зы мною не сябруе,
а ў сэрцы джгаліць, як зьмяя,
і ў ёй, нібы ў агні, гару я.

І дакарае мне: — «Чаму-ж
і дом, і ў ім яе пакінуў?
Няхай-бы ты — і сьмел, і дуж —
харобрым рыцарам загінуў». —

9.

Ты дакарай мне, дакарай,
мая туга — неўтаймаванасьць!
Бясслаўна я пакінуў край.
А дзе-ж ахвярная адданасьць?...

На дол, сьцякаючы крывёй,
спадала чэрапная каска.
Ішла-паўзла на зьмену ёй
чырвонасплюшчаная маска.

Адна прад сконам: — «O, mein Gott!» —
і сьмерць на месцы спатыкала.
— «Даешь! Дави его, вперед!» —
другая побач не змаўкала.

А дом... Яна — ці-ж гэта сон? —
сказала ветліва і цьвёрда:
— «Ідзі!» — бы грайкіх струнаў звон
прагуў распачлівым акордам.

— «На край і неба, і зямлі
ідзі, а злыбедам ня дайся.
Адтуль, дзе толькі ў снох былі,
непераможаным вяртайся». —

Яна сказала ў доме мне —
і я паслухаўся наказу.
...Была вясна. Маёй вясьне —
заўсёды жыць, бы казцы-сказу.

10.

А беларуская вясна —
я не знайшоў нідзе ёй роўных.
Краса на ўсёй зямлі — адна,
ды шмат у ёй аздоб чароўных.

І рознасьць іхная ў вясьне —
і ў тэй вясьне харому-дому...
Як першы цёплы дзень блісьне,
марозу весьцячы утому, —

гарыць крыштальны, чысты сьнег,
і дзень, як сонца, — прамяністы.
Ледзь кропля звонкая зы стрэх
спадзе, маўляў змарагд агністы, —

і ажывае сьвет красы:
і дол, і неба — зоры й зоры;
і прачынаюцца лясы,
гамоняць рэкі і вазёры;

сьнягі струменямі вады
да іх імкнуцца нястрымліва,
плывуць і крышацца ільды,
пад сонцам таюць зігатліва.

Яшчэ руцьвянаю травой
ня ўскрыты ўзрэчча і прылескі,
а пад нябёснай сінявой
цьвітуць блакітныя пралескі.

Пяшчоту весьніх абыймоў
зямля ўздыхае шырай-шырай.
Шпакі вяртаюцца дамоў —
ня вабіць іх далёкі вырай;

лятуць у свой харом — у ім
найбольш, як дзе, цяпла й раздольля...
І з днём праменна-залатым
п'юць дрэвы сок сьвятла й здавольля.

Цьвіце, адцьвітвае гарэх.
Сьнягі зыйшлі. А дол — пад беляй:
Сё пух асінавы, бы сьнег,
кладзецца лёгкаю пасьцеляй.

11.

Дымнее пахкая ральля —
ёй сейбіт зерне дорыць-сее.
Пчала сьпяшае да вульля.
Блакіт насупліва хмурнее.

Разважна крочыць першы гром
за хмарна-змрочнымі дзьвярыма.
Зямля, абмытая дажджом,
буяе пышнасьцяй кілімаў.

Зноў адчыняе дзьверы выш,
рвучы суцэльле хмар на болкі, —
зіяе зь іх праменны сьпіж
дугой шматколернай вясёлкі...

12.

Вясна праводзіла ў шляхі,
дзяліла смутак разьвітаньня.
Над ёй глуміліся штыхі —
зьняслаўцы ейнага сьвітаньня.

І прэч, губляючы сяброў,
сьпяшалі захаду вандалы.
І зноўку несьлі зьдзек і кроў
сыны усходняе навалы.

Агнём пяклі адны адных
і агрызаліся агнямі.
Распачы крык, апошні ўздых —
нат ночы зблыталіся з днямі.

Як лістапад, спадала з дрэў
вясна, адцьвілая заўчасна;
і сам харом шугаў-гарэў,
гарэў, здавалася, нязгасна;

схаваўся ў дыме і агні
і дом зруйнованай сталіцы...
І доўга йшчэ ў далячыні
займаўся полыск паланіцы.

Жаўрэў крывёю небакрай —
куды ні йшоў я і ні ехаў...
Вялік шырокі сьвет-бяскрай —
бясконцы шлях пакут-няўцехаў.

13.

За дом, за пышную вясну
ішоў і йду, і ня спынюся.
Павекаў стомных ня зымкну
у нясьціханай завірусе.

Мае цярністыя шляхі
вядуць да дзён, заўсёды ясных, —
не адшпурне віхор ліхі
да ночаў цёмных і заўчасных.

Шукае спрагнены пагляд
зарніцаў раньніх і вячорных.
Сьціхае срогі гул гармат
і кане дым — густы і чорны.

О нездарма зара здалёк
мяне і клікала й будзіла:
пад прыбліжальны мужны крок
трасецца злыдніцкая сіла.

Са́мо сабе ланцуг куе
прапекла й зло пад штормаў хвалі.
Я ня згубіў зары — зь яе
вачэй ня зводзіў у навале.

І на апошніх растанёх
хай ня зымкаюцца павекі,
каб тое, чым я жыць ня змог,
было маім — маім навекі.

14.

І з росным ранкам, зь ясным днём —
і на зары, і на паўдзёньні —
цябе я помніў, дом-харом,
цябе я помню і сягоньня.

Твая аздоба пекнаты —
і панад полем, і на полі.
Каханы ты, адзіны ты,
ты мне ня быў чужым ніколі!

Ішоў праз далеч нацянькі,
ступаў апоўдні, апаўночы,
у жыце бачыў васількі,
мне ў іх яе зіялі вочы.

Стаптаў ці мала мурагоў,
пераступаў, мінаў узьмежкі —
да незабыўных берагоў
мяне вялі яе усьмешкі.

І верыў: ёй ня быць рабой!
І прыйсьце блізкае вяшчую:
няўхільна ўбачуся з табой
і голас ейны зноў пачую.

Сустрэне цьвецень-бялізна
усіх садоў, адыйдзе склока.
Вакол вясна, цьвіце вясна —
і вы так блізка, недалёка.

15.

Цьвіці, вясна мая, цьвіці!
З табой парываў пошуг поруч.
Няхай зьнікае ў нябыцьці
глухіх часін туга і горыч.

Бязьмежжа ніваў калыхай,
пашлі ім весьлівыя сокі —
зямлі і неба дар — няхай
узносіць іх узрост высокі.

З тваёй ацьвеценай красой
зьдзяйсьняю ўсьцешаную мрою:
на луг, аздоблены расой,
іду з праддзённаю зарою.

Прастую ў даль гаспадаром,
паклон нясу багацьцю ніваў.
Цябе вітаю песьняй, дом, —
вяшчуняй спору й плённых жніваў.

Пад сонцам сьветла-маладым
і нада мной, табой — харомам —
ня засьціць неба трутны дым,
блакіт разьвеяў хмары громам.

А поруч нас яна ідзе,
аб ёй і водгалас — як рэха...
Цябе ня кіпуў у бядзе,
мая нястрачаная ўцеха!
1944—1945.

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ**

# СОН-ТРАВА

**(Як павяліся казачнікі на сьвеце).**

Лёг аднойчы адзін бялявы хлапчук-падпасьвіч на поплаве ля ручая, статак прыглядаючы, вырваў, што падкруцілася яму пад руку, травінку, паспрабаваў панюхаць яе ды гэттака-ж і заснуў: гэна сон-трава яму надарылася. Пячэць гарачае сонца яму ў галаву, сьляпень, гудучы, сеў на ягоны твар; ды нічога ня чуе хлапчанё, моцна сьпіць, і сьняцца яму сны векапомныя.

Сьніць хлапец, як Іван-каралевіч імчыць цёмным лесам на шэрым ваўку. Стары ўжо воўк; цяжка, із хрыпатам сапець ён, пена зьлятае зь ягонае сьсівелае мызы, узмоклі й пацямнелі ад поту худыя бакі, і чуваць Івану-каралевічу, як глуха тыхае вернае ваўчынае сэрца. Ды хоча воўк адслужыць яму апошнім разам службу сваю. Тры дні й тры начы бег ён шорсткімі лапамі праз пушчавыя сьцяжынкі, бліскаючы сваймі зялёнымі вачыма, а чацьвертым днём прыймчаў Івана-каралевіча да садоў караля Даламата, дзе на залатым дрэве вісела дзівосная клетка із Жар-птушкаю. Падцікаўся каралевіч, згроб асьцярожненька клетку — і грымнуў у паветры мілы звон срабрыстых бомаў-званочкаў, склікаючы старожу. А казаў-жа шэры воўк Івану-каралевічу: «Не чапай клеткі, вазьмі адно толькі Жар-птушку, а не — бяда будзе!»

Або сьніць хлапец, як задумаўся ў чыстым полейку Савур-магут; перад ім белы гарушчы камень, ад таго ад камяня йдуць тры дарожанькі, і напіс на камяні высечаны: паедзеш направа — каня згубіш, паедзеш налева — без капейчыны застанешся, паедзеш нацянькі — сам жывы ня будзеш. І едзе магут нацянькі. Пачаста злазіць ён із каня, прыпадае вухам да сырое зямлі, услухаецца: ці-ткі ўжо ня гудзець маці сырая зямля, ці-ткі ўжо ня рушыць адкуль вайска нязьлічоная. Ды ня чуваць ані, і хоць загуба жджэць магута, ды не ў баі яна яму канаваная.

І сьніць ён Алёнку — маленькую дзяўчынку з тых, што па сёлах меншых браткаў няньчаць. Жала маці іхная жыта сьпелае, і пайшла Алёнка з браткам Іванькам да матухны, ды заблукаліся яны ў жыце высокім, і ў чужы бок забрыялі. І стаўся Іванька баранчыкам, а Алёнка з каменем на шыі ляжыць у сінім віры рачным. І жаласна просіць-моліць баранчык на беразе рэчкі: «Алёнухна, сяструхна Алёнухна! Выйдзі, выплыві да мяне на беражэчак. Агні паляць гарушчыя, нажы точаць сталёвыя, хочуць мяне зарэзаці». Ах, як адказала сястрыца Алёнухна: «Ня ўсплыць мне на вольны сьвет. Камень цяжкі на дно мяне цягне, плечы прысыпалі пяскі сыпкія, косы русыя з багавіньнем перапляліся».

Ато сьніць хлапец караністы дуб; шызы арол сядзіць на сырым дубе, а ў капцюрох у яго — злы крумкач. Ён ня біў — усё выпытваў: а што дзеецца ў родным у краі. Адказаў яму крумкач, гэтак кажучы: «Як пад кусьцікам пад ракітавым, там забіты ляжыць удалы малойчычак. У галавах у яго стаіць матухна, па бакох — сястра з маладой жанкой. Маці ўсплакала — быццам буры б'юць, а сястрычанька — ручаі цякуць, маладая жонухна — бы раса пала. Узыйдзе сонейка — расу высуша».

Скончыўся гэты сон — і ўжо сьніць дзівосную Фэнікс-птушку. Калышыцца Фэнікс-птушка на галіне дрэва цьвітушчага, вочы зачыняе, пер'е распушчае, песьні расьпявае. Хто зачуе яе — забудзецца той на бацьку-маці, усё пакіне, і нічагусенька ўжо яму на сьвеце ня трэба, абы толькі, не адрываючыся, слухаць дзівосныя песьні. А й жаласна-ж пяець Фэнікс-птушка, усё па мінулым, незваротна загубленым і страчаным журыцца:

> Не сьвяціць сонцу за ўвясну зырчэй,
> Не кахаць душы за былое гарачэй.

А вось і голы, занесены сьнегам лес. Шэрань завісла на чорным суччы, кракаюць галодныя вароны, а ўгары сьцюдзёным блескам пералівающца зоры. Пуста, безьлюдзь у лесе, толькі пад ялінкай аднэй прытулілася бедная дзяўчынка Марынка. Завёз яе сюды бацька за намовамі злое мачыхі, дый кінуў адну-аднюсенькую ў лесе. А то-ж ніколі нікому Марынка не аськірзнулася, ні ў чым ня ўпікнула — ціхая яна, безадказная дзяўчынка была. Сядзіць яна пад ялінкаю згорніўшыся, а сівы Мароз зямлю студзіць, дзеўчыну зябіць, у дрэвах палусквае, Марынку із зьдзекам выпытвае: «А ці цёпла табе, дзеўчынка? А ці цёпла табе, красная? — «Цёпла, цёпла, Марозухна».

Сьніць хлапец, як маці сына ў далёкую дарожаньку выпраўляла, зарокі клала, такоўска яго навучала: «А й надыйдзе час сьмяротны твой, абярніся на айчыну слаўную, і бі ёй чалом сяма сем разоў, разьвітайся з крывічамі й родзічамі, прыпадзі грудзьмі да сырое зямлі й засьні сном моцным, няпробудным».

А йшчэ сьнілася, як прысукала да дзеўчыны гора злашчаснае. Яе маці ў калысцы люляла, а ўжо гора над ёю стаяла. Дзеўчына ад гора замуж пайшла, а гора за ёю зь дзеткамі. Дзеўчына ад гора ў цёмны лес, а гора бяжыць і дарогу паказвае. Дзеўчына ад гора ў магілу пайшла, а гора яе сырою зямлёю засыпала.

Гэтак сон за сном ідзець, адзін аднаго паганяе, і не прачнуцца-б хлапчуку-падпасьвічу цэлы век, каб адно не пастух. Загледзеў ён, што падпасьвіч сьпіць, а жывёла тымчасам разбрыдаецца, падыйшоў і ладна-ткі яго ў злосьці скалануў. Выпала з рук у хлапчука сон-трава, і абудзіўся ён. Ды ня йдуць сны сьнёныя з думу ў яго. Пачаў ён людзём іх казаць, а людзі каля яго сьмяюцца: «Годзе табе байкі баіць. Ты-б ляпей статак даглядаў».

Ды не паслухаўся іх хлапец. Кінуў ён хату сваю, усё пакінуў, і цэлае жыцьцё сваё хадзіў па зямлі, сны свае дзівосныя расказваючы. Ды іншы чалавек пасьміхнецца й рукой махне, а каторы й рады паслухаць, сам кліча яго й дары дорыць. А бывала й так, што паслухае-паслухае яго чалавек і пачне журыцца няма ведама па чым. Усё чуе ён, як далёка дзесь, за марамі сінімі, за барамі шчырымі, бяжыць, засопшыся

шэры воўк; бача, як разгортваецца абрус-самабрус; як пяюць гусьлі-самагуды, струны ціха выгаворваюць:

Падзьмі, падзьмі, пагодухна немаленькая,
Разьдзьмі, разьвей рабіначку кучаравенькую

Ня знойдзе сабе спакою такі чалавек, будзе ён цэлае жыцьцё сваё журыцца, пра ўсё гэта людцам расказваць; і не з адным чалавекам, ня з двума здарылася так, а шмат тысячаў іх блукаюць па нашай зямлі, дзівосныя казкі-байкі баячы.

Гэтак і павяліся казачнікі на сьвеце.

Нязахаваны беларускі тэкст з выдрукаванага расейскага аднавіў **С. С-а.**

---

# У МЕСЯЧНЫХ СЕЦЯХ

Літаратурна-сцэнічны мантаж із Багдановічавых вершаў і іхных варыянтаў

Змантаваў **С. СМУТНІЦА.**

ПАСТАЦІ:

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
ЗАЧАРАВАНЫ
ЛЯСУН
РУСАЛКА-КАЗЫТКА
ВАДЗЯНІК
МАЛАДЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
РУСАЛКІ. ЗЬМЕІ.

I.

**СЬМЕРЦЬ ЗЬМЯІНАГА ЦАРА.**

На сцэне цёмна. У цішыні чуваць шолах. Крыху вывідняюцца на фоне глухога ляснога закутку зыбкія абрысы зьмеяў із Старым Зьмяіным Царом у залатой каронцы пасярод іх.

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
Цемень. Сосны. Елкі. Мох. Кара.
Сьмерць прыйшла ўжо да мяне...
Разгарыся, вячорная зара
У туманнай вышыне.

ХОР ЗЬМЕЯЎ
Разгарыся, вячорная зара
У туманнай вышыне.

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
Цёмнай ночы страшна у жальбе
Паміраць. Шуміць трава,
Глуха дзяцел у дрэва б'е,
Гучна гукае сава.

ХОР ЗЬМЕЯЎ
Глуха дзяцел у дрэва б'е.
Гучна гукае сава.

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
А памрэш — прыцiснуць грудзі пласты
Гліны. Ўстану-ж на яру,
Падыйму галоўку праз кусты,
Гляну ў неба і памру.

ХОР ЗЬМЕЯЎ
Падыймі галоўку праз кусты,
Глянь у неба і памры.

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
Скоціцца карона, пабяжыць
Залатая ў шэры мох
Чорны крот магілку прыйдзе рыць,
Дрогне вецер на кустох.

ХОР ЗЬМЕЯЎ
Чорны крот магілку прыйдзе рыць,
Дрогне вецер на кустох.

СТАРЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР
Месяц бырзьне хваляй серабра,
Расой блісьне ў нізіне...
Разгарыся, вячорная зара,
У туманнай вышыне.

ХОР ЗЬМЕЯЎ
Разгарыся, вячорняя зара,
У туманнай вышыне.

Зьмеі нікнуць. Прабіваецца чырванаваты водблеск далёкае вячорнае зары, крыху больш разьвідняючы сцэну.

II.

**ДА ВАС, СОСНЫ, ЕЛКІ.**

Выходзіць-прабіраецца праз дрэвы чалавек — **Зачараваны,** спыняючыся на авансцэне.

ЗАЧАРАВАНЫ
Хмурныя, цёмныя гудуць і шэпчуць елі.
Бор чырванее на яснай зары.
Грудзі вольна дышуць, кроў калышацца ў целе,—
Ціха цалую мяккі мох на кары.

Сэрца гарачае да камля прытуляю,
Ясныя сьлёзы на смалу ціха льлю,
У неба сінеючыя вочы падыймаю, —
Дзіўнае штось душу калыша маю.

Даўней цураўся я вас, сосны, ёлкі,
У месьце, пыльным і душным, праклятым жыцьцё прайшло,
А цяпер бачу я зялёныя іголкі,
Чую, як глуха тутніць дзяцел у дупло.

А цяпер бачу — неба борзда дагарае,
Сам у гэтым сьвятле ледзьве-ледзьве гарыш;
Ноч ідзе, месяц тонкі, белы выплывае
Там, дзе падняла ель зялёны свой крыж.

У часе апошняе звароткі пачынае прасякаць празь вяршаліны дрэваў белае месячнае сьвятло.

III.

**ЗАЧАРАВАНЫ.**

На заднім пляне, між дрэваў пад месячным сьвятлом, што пакрысе нарастае, вывідняецца-мігаціць водная прастора возера ці рэчкі. Адтуль, таксама нарастаючы, даносіцца лёгкі сьпеў дзявочых — ці то русалчыных, ці то самых лёгкіх вагарак вады — галасоў.

Сонца ціха скацілася з горкі,
Месяц выплыў у небе і сьвеціць
Аглядае бахматыя зоркі,
Цягне з возера срэбныя сеці.
Ў іх русалкі заблыталі косы,
Рвуць бліскучыя, яркія ніці.
Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча русалкам: «Засьніце».

У часе сьпеву Зачараваны, які прытуліўся да яліны, адлучаецца ад яе і, цягнучыся на галасы, робіць колькі крокаў у іхным кірунку. Напярэймы яму бясшумна зьяўляюцца белыя постаці русалак, аплятаюць яго карагодам пад ціхі сьпеў тае самае мэлёдыі, але напала-

віну (першыя два радкі звароткі) бяз словаў, а тады з крыху адмененымі словамі апошніх радкоў:

Ноч плыве над зямлёй, сее росы,
Ноч шапоча: «Засьніце! Засьніце!»...

Гэтак абводзячы Зачараванага вакол сцэны, прыводзяць яго зноў пад тую самую яліну, ля якое ён і апушчаецца, напоў-лежма, на зямлю, абапёршыся на камель дрэва.

ЗАЧАРАВАНЫ

Сон цёмны ўсё мацнее,
Мне дзьме жыцьця рушэньне
Засьнеце, ўсе надзеі!
Засьнеце, ўсе хаценьні!
Ўжо памяць я губляю
Пра добрае і злое,
Ня ведаю, ня знаю...
О, здараньне благое...
Я быццам-бы калыбка,
Каторую калыша
Чыясь рука няшыбка...
О, дайце цішы... цішы...

РУСАЛКІ (тымчасам абсеўшы яго паўкругам, запяваюць сьціха).

Падыймі угару сваё вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ўсе трывогі зямнога жыцьця.
Ціха хмару блакіт закалыша,
У душы адрасьце пара крыл, —
Узьляціць яна ў сінюю вышу
І ў струмнёх яе змые свой пыл.
Там ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Там няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэта хмара — дыван-самалёт!

ЗАЧАРАВАНЫ (паўтарае сваё):

Я — быццам-бы калыбка,
Каторую калыша
Чыясь рука няшыбка...
О, дайце цішы... цішы...

IV.

## ЛЯСУН.

У часе апошніх словаў колькі русалак разыйшліся па лесе, рэшта сядзяць, як раней. Адна з тых, што адыйшлася, варочаецца з-за сцэны да гуртка й апавядае-пяе:

РУСАЛКА

Сосны ,елкі, хвоя, хвошчы,
Цёмны мох
Чую я — лясун касматы
Там залёг.
Паваліўся ён на хвоі,
на кары,
І ўсім калышыць, рушыць
У бары.

(яшчэ з аднэй русалкай за руку выбягае за сцэну).

РУСАЛКІ (па кароткіх моўчках прыслухоўваньня, запяваюць сьціха, нахіляючыся да Зачараванага).

Чуеш гул? Гэта сумны, маркотны лясун
Пачынае няголасна граць:
Пад рукамі яго, разважаючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Танкаствольныя сосны зьвіняць.
І ці трэба казаць, чаму сьціхла рака,
Не шасьцяць у палёх каласы,
І аб чым шапаціць галасок вецярка,
Што зіяе-дрыжыць на лісьці лазьняка. —
Кроплі сьлёз ці халоднай расы?

ЗАЧАРАВАНЫ (прыўзьняўшыся й прыслухоўваючыся ў часе іхнага сьпеву, калі скончылі):

Ліецца па бары шырокі, поўны шум,
Гудзіць паміж гальля старых сасон сувора, —
І ціхне на душы змаганьне хворых дум
Пад гук спакойны, роўны бору.
Там, пэўна, ціха калыхае лясунка,
Сьпяваючы над ім, старая лясуніха.
Пад сьпеў суворы, вольна ўзрослага сынка
Абміне дум разьбітых ліха!
Ён зможа тут усё спазнаць і перажыць, —
І кажны трэск, і стогн, і звонкі птушы сокат;
Душы яго знаёмым, родным мусе быць
І гук грымот і траўкі шопат.
Няхай яго дні ў даль бязьмежную сплывуць, —
Ня страша сьмерць таго, хто жыў так цэльна,
вольна!

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў душы ўспляснуў агонь. Яго заліла муць...
І сэрцу беднаму так больна!

(ападае ізноў. Русалкі, зноў нахінуўшыся да яго, пяюць, як раней).

РУСАЛКІ

Падыймі у гару сваё вока,
І ты будзеш ізноў, як дзіця,
І адыйдуць-адлынуць далёка
Ад душы ўсе трывогі жыцьця.
Ёй ня трэба ні шчасьця, ні ласкі,
Ў ёй няма ні нуды, ні клапот.
Ты — царэвіч цудоўнае казкі,
Гэна хмара — дыван-самалёт!

2-ая РУСАЛКА (варочаючыся з-за сцэны да гуртка, апавядае-пяе, як раней 1-ая).

Бор шумеў, навяваў зводны сон,
А у ім ціхі гул раздаваўся
Гэта ў небе лясун калыхаўся
На вяршынях вялізных сасон.
Яму месяц маркотны сьвяціў,
Падымалі крыжы ў неба елі, —
І у сіняй нябёснай купелі
Душу дзікую ён ахрысьціў.

3-ая РУСАЛКА — із сьмехам выводзіць з-за сцэны напоўсоннага Лясуна, які працірае вочы, пацягаецца й разглядаецца.
Ціха хіхочуць зь яго русалкі.

ЛЯСУН

Я спакойна дрымаў пад гарой між кустоў,
Лес прыціхнуў — ні шуму, ні сокату.
Ажно чую ў цішы нада мной звон падкоў,
Чую гул мяккі конскага топату.
Ці ня гукнуць, каб рэха па лесе прайшло,
Каб з касьцямі, ў кавалкі разьбітымі,
Нехта біўся ў крыві, каб мне можна было
Усю ноч рагатаць пад ракітамі?!

Кідаецца з рогатам на русалак, якія разьбягаюцца ад яго, толькі адну ён ловіць і цягне з сабою ў лес із тым самым рогатам, выбухі якога чуваць ад часу да часу і ў цягу наступнае сцэны.

ЗАЧАРАВАНЫ

Загарэліся крывёю вочы. Мкнецца
Зь цёмнай елкі гук жуды і сьмеху
І далёка голас аддаецца, —
Пракацілася па лесе рэха.
Дрыжучы увесь, канца чакаеш ночы,
Ўсё здаецца — ўстаў Лясун вялікі, —
Чырванеюць зьлітыя крывёю вочы,
Не змаўкае сьмех глухі і дзікі.

Русалкі зноў зьбіраюцца вакол яго карагодам, пяюць, падводзячы бліжэй да бліскучай пад месяцам вады на заднім пляне.

РУСАЛКІ

Заціхае і рогат і гоман,
Месяц белы заплаканы сьвеціць
Як шырока ён кінуў на Нёман
Залацістыя й срэбныя сеці.
Ў іх русалкі заблыталі косы,
Рвуць бліскучыя яркія ніці,
Ноч плыве над зямлёй сее росы,
Ноч шапоча русалкам: «Засьніце».

V.

## ТУТ ПЛЫВЕЦЬ, ВЕЕЦЬ ХМЕЛЕМ ВЯСНА.

З вады выходзіць Русалка-Казытка, зьбіраюцца ля яе рэшта русалак.

Зачараваны застаецца адзін.

РУСАЛКА-КАЗЫТКА

Сумна мне ў глыбіне, ў цішыне,
Спамінаю я на дне аб вясьне
Тут плывець, веець хмелем вясна,
А там холад, цішына, глыбіна...

(усе русалкі паўтараюць апошнія два радкі).

Я вясною пляснуся-скалыхнуся,
Зеляною муравою ўбяруся
Выйду, белая, зь цёмнай вады, —
Бачу — ў лес ідуць людзкія сьляды;
Кіну-рыну я за імі з ракі,
Асьвяцеце вы мне шлях, аганькі!

РУСАЛКІ

Кінем-рынем мы за імі з ракі,
Асьвяцеце вы нам шлях, аганькі!

РУСАЛКА-КАЗЫТКА

А людзей я знайду, абыйду,
Вочы ўсім ім зацямню, адвяду,
І туды, дзе лягла цемень, мгла,
дзе зялёны крыж свой ель падняла, —
Ўсіх туды зацягну-завяду:
«Вы пацешце ды мяне маладу!»
Як пачну абдыймаць, цалаваць, —
Будуць біцца, заціхаць, заміраць.
А я гучна сьмяюся, рагачу,
Абхвачу іх, ня пушчу, казычу!

РУСАЛКІ

Кінем-рынем мы за імі з ракі
Асьвяцеце вы нам шлях, аганькі!

РУСАЛКА-КАЗЫТКА

Сумна мне ў глыбіне, ў цішыне
Спамяну я на дне аб вясьне

РУСАЛКІ

Тут плывець, веець хмелем вясна,
А там холад, глыбіна, цішына.

Русалка-Казытка, згледзіўшы Зачараванага, пакідае Русалак, якія паранейшаму, із сьпевам бяз словаў, вядуць карагод, набліжаецца да Зачараванага, надзіць яго рукамі. Ён пакорна падаецца-йдзе за ёю із сцэны.

VI.

## ВАДЗЯНІК.

РУСАЛКІ (У карагодзе ля вады, 1-ая запявае, іншыя паўтараюць другі раз).

Срэбнымі рожкамі мгліцца
Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца, —
Рушыцца ў ім Вадзянік
Вадзянік! Вадзянік! Вадзянік!

ВАДЗЯНІК (паказваецца памалу з вады, відаць між дрэваў, абліты сьвятлом месяца; Русалкі расьсядаюцца й кладуцца перад ім).

Сівавусы, згорблены, я залёг між цінай
І гадамі грэюся, сплю на дне ракі.
Твар травой аблытаны, быццам павуцінай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі.
Над вадой ля берагу ціха сьпіць асока,
Ды лаза зялёная жаліцца-шуміць,
Хвалі ціха коцяцца і бягуць далёка, —
І усё навокала сном адвечным сьпіць.

РУСАЛКІ — паўтараюць апошнюю зваротку («Над вадой ля берагу»...).

ВАДЗЯНІК

Спакойна мне там, пад вадою;
Залягу ля млыну на дне;
Апруся на кола рукою, —
Млын казку старую пачне.
Кругі завіруюцца жорнаў,
Трасецца хадырна сьцяна,
А думы — як колас бязь зёрнаў, —
Усё мяне цягне да сна.
Бяспамятна кола піхаю,
Хінуся да дна галавой
І ўжо я дрымлю, засынаю
Пад шум гэтай пушчы глухой...

РУСАЛКІ — паўтараюць яшчэ раз зваротку «Над вадой ля берагу»... Тымчасам Вадзянік памалу апушчаецца-хаваецца. Русалкі далей цягнуць мэлёдыю бяз словаў.

VII.

## МЕСЯЧНЫМ ШЛЯХАМ.

На сцэну выходзіць Зачараваны з Русалкай-Казыткай за руку.

ЗАЧАРАВАНЫ

Быць можа, пуціна жыцьця
Лягла пярсьцёнкам, друг,
І я ў краіне забыцьця
Ня раз раджаўся, як дзіця,
Прайшоўшы поўны круг.
Быць можа, я ня скончу жыць,
Бо ў ім няма канцоў.
Зноў шлях знаёмы пабяжыць,
І ўсё, што мозаг мог забыць,
Пераажыву я зноў.
Быць мо ў прасторы беза дна
Ўвесь час мой круг ляціць,
І навіна ўсяго адна,
Што ў іншым месцы пуціна
Інакш мо заблішчыць.
І ў новым сьвеце пройдзе ўсё
Былое прада мною...
Што-ж: хай канчаецца жыццё,
Хай зноў зварушыцца чуцьцё,
Мінулой пуціной.

Абое зноў праходзяць із сцэны.

РУСАЛКІ (ізноў карагод ля вады, таксама 1-ая запявае, усе іншыя паўтараюць другі раз).

Срэбнымі рожкамі мгліцца
Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца,
Рушыцца ў ім Вадзянік.

1-ая РУСАЛКА — спыняючы карагод, прыслухоўваецца.

Хто там быццам гаворыць у цёмнай вадзе?
З кім ён гэтую гутарку сьціпіна вядзе?

РУСАЛКІ — паўтараюць яшчэ раз гэтую зваротку («Хто там...»). з-за сцэны, з боку вады, ліецца дуэт Зачараванага й Казыткі.

ЗАЧАРАВАНЫ

Месяц выплыў над змрочнай, заснулай зямлёй
І павёў мяне ў сінюю даль за сабой

КАЗЫТКА

І прывабіў да мглістай халоднай вады, —
Сэрца білася рыбкай у сеці гады.

ЗАЧАРАВАНЫ

Але месяц правёў праз раку сьветлы шлях.
І разьвеяўся з сэрца дрыжачага жах

КАЗЫТКА

Вось яна, залатая мая пуціна!
За табой дзіўны край, дзе пануе вясна!

ЗАЧАРАВАНЫ

Доўга, доўга цябе я чакаў і шукаў
Але вось час жаданы нарэшце настаў

КАЗЫТКА

І нарэшце я ў царсьцьве вясьняным жыву,
Бачу яву у сьне, бачу сны наяву...

ЗАЧАРАВАНЫ

І пайду я па шляху, пайду аж да дна:
Хай агорне мяне цішына, глыбіна

РАЗАМ

Пойдзем, пойдзем па шляху, пайдзем аж да дна
Хай агортае там цішына, глыбіна.

1-ая РУСАЛКА

Срэбнымі рожкамі мгліцца

Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца, —
Рушыцца ў ім Вадзянік.

Усе русалкі паўтараюць яшчэ раз апошнія два радкі.

У хвалях гуляць выпушчае
Зь віру зьмяю за зьмяёй;
Вось іх грамадка ўсплывае
Срэбнай бруіцца луской!

Усе русалкі паўтараюць яшчэ раз апошнія два радкі.

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сьціскацца, круціцца
Гэтак да раньня гуляць.

Усе русалкі паўтараюць яшчэ раз апошнія два радкі.

Срэбнымі рожкамі мгліцца
Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца, —
Рушыцца ў ім Вадзянік.

Усе русалкі паўтараюць яшчэ раз апошнія два радкі.

VIII.

### ЗЬМЯІНЫ ВЫРАЙ.

Выпаўзаюць зьмеі з Маладым Зьмяіным Царам начале.

МАЛАДЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР

У цёмным небе — карагоды
Сіняватых зорак
У цёмным небе сьвеціць месяц
Залатым сярпом

ХОР ЗЬМЕЯЎ

Мы выходзім зь цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы цёплы вырай
Цягемся-паўзём

МАЛАДЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР

У полі, ў лесе нам усюды
Праляглі дарожкі!
Стужкай рушымся між пушчы,
Насамперад — Я.
Зігацяць мае кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным блескам адлівае
Ўся луска мая

ХОР ЗЬМЕЯЎ

Зігацяць твае кароны
Залатыя рожкі
Цёмным блескам адлівае
Ўся луска твая.

МАЛАДЫ ЗЬМЯІНЫ ЦАР

Нам ня тр,ба ні ад чога
Ўночы абароны;
А спаткаем чалавека —
Порт расьсьцеле ён
Залаты ражок яму
Скіну я з кароны
І па белай палатніне
Дальш мы папаўзём.

ХОР ЗЬМЕЯЎ

Залаты ражок яму
Скінь яму з кароны
І па белай палатніне
Дальш мы папаўзём.

Зьнікаюць.

РУСАЛКІ-КАРАГОД

Срэбнымі рожкамі мгліцца
Зь цёмных нябёс маладзік;
Возера плешча, бурліцца, —
Рушыцца ў ім Вадзянік

1-ая РУСАЛКА

У хвалях гуляць выпушчае
Зь віру зьмяя за зьмяёй;
Вось іх грамадка ўсплывае,
Срэбнай ірдзіцца луской

2-ая РУСАЛКА

Будуць яны ўсю ноч віцца,
Ў хвалях хрыбтамі блішчаць;
Будуць сьціскацца, круціцца
Гэтак да раньня гуляць.

1-ая РУСАЛКА

Сьвецячы блескам чырвонца
Праз парадзелую мглу,
Пусьціць, усходзячы, сонца
Ў іх залатую іглу.
Згіне зьмяя за зьмяёю,
Зьнікне зь нябёс маладзік.
Доўга па іх пад вадою
Будзе ўздыхаць Вадзянік.

Усе русалкі паўтараюць апошнюю зваротку.
Нікнуць. Першыя залатыя сонцавы іглы праз парадзелую мглу.

---

**МАКСІМ БАГДАНОВІЧ**

# МАДОННА

**(ЭТУД).**

Ці не дазволіце вы мне, голубе мой, падсесьці да сэміх на лавачку? Дабро тут у вас: і цянёк ёсьцека, і людзтва па алеі няшмат туляецца, і Волгу вярстоў на пяць відаць... ды й самі, як я пагляджу, хлапчына сымпатычны. Калішто подля аколку шапачкі т-ркаваць — студэнт які-колечы, трэба думаць. Ну, а я... «прайдзісьвет» — найахватней дражню я сябе; найулюбёнейшае гэта слоўка маё.

Не падумайце адно, што я зь нейкае жыцьцёвае памяркоўнасьці назоўчык такоўскі вышукаў. Ёсьць, ёсьцека, ведаеце, у душы чалавечай гэткае пачуцьцё, што гэтак і падштырхвае цябе наперад забегчы, у вочы зазірнуць і хвастом паматаць: «Што, дзей, я значу? Я — птушка нізкога лёту». І навошта, дарэчы кажучы, робіцца гэта? З боязі аднае, каб збоку хто да яго з тымі самымі словамі не заадрысаваўся. Ну, а калішто сам сябе гэтак атэставаў, — крыўды, здэцца, і быць ня можа; горш бо не прадражняць. Яшчэ нат можна згладнелае самалюбейка падсьціцтць. Бо, даражэнькі хлопча мой, іншы бліжні, з дабрыні душы свае, гэттака-ж вам і скажа: «Гэта ўжо самі, Іване Іванавічу, таго... дарма сябе бэсьціце»... Рэч бывалая.

Цяперака зірнеце адно на часінку ў галіну філёлёгіі. Прайдзісьветам я сябе дражню, трымаючы ў памяці спрадвечнае славянскае значаньне слова гэтага — надта-ж ужо добра яно асярэдзіну істоты мае намацвае. Грунту цьвярдога пад нагамі ня маю я ў жыцьці сім, во што. Зрэшты, як калі хто з нашае братаўні хоча выказацца якнайцьвяцісьцей, дык «гораду спаганятым» сябе кліча. Памятаеце, у Міхайлоўскага, у «Кар'еры Аладушкіна», у вапошнім разьдзеле — «Казкі Тавалгіна» завецца? Высока-мастацкую мясьцінку даў нябожчык. Ну, ды гэта набок.

Што ёсьць прайдзісьвет? Чалавек, што нярухомай маемасьцяй не валодае, дый рухомасьць у яго адпаведная да гэтага. Але галоўна — нярухомасьць. Аселасьці, знакам тым, нямаш. Цяперака папытаюся я ў саміх — што, апрыч крыўды, маглі ўкласьці ў гэтае слова людзі, што маюць, у горшым разе, аднапаверхавы ці двупаверхавы там? Само сабою, нічога. Надумаецца, скажам, Настуля або Касюля за каго-колечы з нашага брата замуж зайсьці, а мамачка зараз-жа да яе: «Схамяніся, за каго-ж ты йдзеш? За прайдзісьвета!» Тая й сама бача, што крышачку пудлу дала, неадум свой, ведама, паправіць, ну а да слова тымчасам грэблівасьць усё ліпне й ліпне, так што пад канец карэннае істы ягонае й зусім пачалі ня бачыць. А само сабою слова гэтае ані не сараматное.

Зрэшты, ведаеце, да чаго я гутарку гэтую ўшчаў? Апавяданьнейкам мне хочацца пачаставаць саміх. На-

довечы прыстаў наш параплаў, параплавам я еду, і цяперака, прыкладам, адно на гудок ягоны чакаю, — дык прысталі мы, кажу, ля Бабайкаў — прыстань такая ніжэй ад Яраслаўлю ёсьць. Народу набралася даволі густавата і, між іншага, было дзяўчо адно... самазвычайнае басаногае дзеўчанё, гадкоў восем ці дзевяць там — суніцы прыйшла продаць. Сама — дзіцянё, зь лялькамі-б ёй яшчэ гуляць, але, аднак, ужо малое трымае на руках. Самі, гадаю я, гэткіх нянькаў сотні на сваім вяку папабачылі. Дык вось, гэтая самая дзяўчынка адно здарэньне прыпомніла мне сабою, — добрае было здарэньне, дармо, што я на яго зусім, бадай, забыўся. Год зь дзесяток мо ніколі не ўспамінаў, а гэттака раптам заварушылася ўсё ў памяці, паўстала, быццам перад вачыма і, ведаеце, цалюткі дзень карцела мне пра гэтае здарэньне каму-небудзь расказаць. Мо й назольна гэта крышку... дык-жа ў саміх, як я пагляджу, усёдна занятку ніякага нямашака... дык ужо выбачайце на старога.

* * *

Здарылася гэта год із дванаццаць таму. Расею я тэю парой мусіў пакінуць, апыніўся ў Дрэздэне, атаўбаваўся ў ім і, само сабою, пачаў у тамтэйшую мастацкую галерэю ўчашчаць. Шмат добрага й нат прасьвятленнага давялося мне пабачыць, але за ўсё найлепшыя былі Мадонны. Гэта, зрэшты, і ў кажным, маламальна поўным зборы старадаўнага эўрапейскага мастацтва так бывае. Дый самі ведаеце, трэба думаць, што Мадонны гэтыя — соль усяго малярства тагачаснага, а таму, знакам тым, і ўсялякага, бо наўдачу ці можна сказаць, што адтуль малярства далёка адыйшоўшыся. Ну, там у драбніцах тэхнікі, можа стацца, і ёсьць штонебудзь новае, папраўдзе кажучы, мала цямлю я ў гэных штуках. Але каб глыбінёю ўкладзеных у вабразы ідэяў мы сярэднявечча перавысілі, — гэта, скажу я самім, вялікае пытаньне. Як ні будзь, ня відаць штосьці гэтага... сплытчэньне нейкае пайшоўшы. Ну, а тамака — віры, да дна не дасягнеш. Узяць хоць-бы тых-жа Мадоннаў: гэткая, хлопча мой, у іншых зь іх шырачэнная думка тоіцца — на тры абшчэпы. Дубы такое вялічыні сотні год стаяць — ня валяцца, паגатове ідэі. Гэтая, як ні будзь, выстаяўшы, і да нашых дзён у цэлым сваім харасьцьве дажыла. Толькі выказаць ісьту ейную — штука ня зусім лёгкая.

Пачну я хоць ад таго, што дарма было-б мець сярэднявечнае малярства за рэлігійнае пераважна, як ні здаецца гэта на першы пагляд.

Рэлігійнасьць гэная ня ў зьмесьце, а ў форме больш была, або праўдзівей кажучы, ці ня ў сюжэтах адных усяго. Традыцыя гэткая існавала, што, бач, мастаку абразы зь біблейнага жыцьця найбольш за ўсё выпадае пісаць. Яны, мастакі тагачасныя, гэтак і рабілі; а калішто душы іхныя ня тым поўніліся, дык што-ж? То-ж бо ўсяроўна гэтыя пабочныя элемэнты да абразоў так ці йнакш прыпіналіся, наводля гэткіх чужаедных расьцінаў красавалі. Хоча, скажам, мастак партрэт свайго замоўніка намаляваць — зьмяшчае яго на абразе кшталтам апостала, ці што. Каханку сваю якую-небудзь Юдытаю ўявіць, або тамака ў ліку жанок-міраносіцаў адмалюе. Заманецца яму свой італьлянскі ці флямандзкі пэйзаж даць, або нат бытавыя абставіны свае — што-ж, і на гэта няма перашкоды, адно каб у вабразе назоў якнайцаркаўнейшы быў. Ну, а адцятыя ідэі тым-жа спосабам спрабавалі ўцелаўляць. Пра адну з гэткіх во ідэяў у нас ход і будзе.

То-ж бо, голубе мой, што скланеньне перад жанчынаю, якое ці не заўсёды найвялікшым рухавіком было, тымі часамі, можна сказаць, да вялікага завайстрэньня дайшоўшы. Трубадуры гэныя, суды каханьня... ну й іншае інакшае... шмат усялякага было... Або хоць Пэтрарку з Дантам вазьмеце. Зрэшты, гэта й самі хіба ня горш за мяне ведаеце. Адно ўсяго я адзначу: калішто самі скланяецеся перад жанчынаю, дык, знакам тым, або дзяўчыні ейнай, або матчыні чалом б'яцё. Ды яно й зразумела — то-ж у гэтых дзьвюх постацях жанчына выступае, трэйцяе-ж, відавочна, і быць ня можа.

А ці не відавочна, спадару мой, — перапыню я на часінку сябе, — ці не відавочна, што, скажам, сонца вакол зямлі ходзе? То-ж, бо, што відавочна. Таму я так кажу, што мастакі, пра якіх ход, перад відавочнасьцяй ня спыніліся. Наадварот, суцэльнасьці, ці што, жадаючы, ці вобраз найвышэйшага харства стварыць імкнучыся, паспрабавалі яны ў вадным аблічы зьліць міжсобку рысы і дзеўчае і матчыннае красы. Зьліць, разумееце, і вобразам гэтым вывяршыць усю будыніну мастацтва, што ўзросшы із скланеньня перад жанотаю й ейным харством.

Крутагалоўны намер быў. Гэттака во традыцыя пісаць Мадонны й прыдалася, бо давала яна гатовыя формы для ўцелаўленьня думкі гэтае. Малюючы яе, сяю Дзеву-Маці, яны лягчэй за ўсё маглі пераказаць гэтую ідэю сваю. І пераказалі, скажу я самім. А як Мадонны гэтыя — недасяжныя вяршаліны мастацтва, Манбляны ягоныя, ці што, дык, знакам тым, як я й казаў, зьліцьцё абодвух бакоў жаноты ў нейкі маналіт — гэта й ёсьць вянец усялякага харства.

Ведама, ня ўсе Мадонны гэтую ідэю ў сабе тояць. Ані не. Наадварот, бальшыня зь іх паказвае проста дзяўчатак, у якіх, Бог ведае чаму, на руках дзіцянё сядзіць. Дый тыя майстры, у чыіх Мадоннаў праз дзявочы твар матчынны выраз праступае, — і яны, кажу я, быць можа, да ўцелаўленьня гэтага зусім бясьсьведама ймкнуліся. Прызнацца сказаць, блага я ў гісторыі ці тэорыі там малярства разьбіраюся, так што аб нічым тутака з пэўнасьцяю казаць не магу. Можа стацца й тое, што я зноўку ўсім ведамую Амэрыку адчыняю, паводля нашае старое славянскае прывычкі «да ўсяго сваім розумам дапасьці». Зрэшты, і дапаў я да гэтага не адразу, не тады, калі быў у галерэі, а ўжо пасьля колькі часу па тым. Пакуль-жа я на Мадоннаў глядзеў, дык хіба толькі яшчэ намацваў гэта і ўсё нешта забытае ўспамінаў... і ўспомніць ня мог.

Дзеля гэтае прычыны ступем адно колькі крокаў па бочнай сьцяжынцы. Ці не здаецца самім, што ўсе мастацтвы — і малярства і музыка асабліўна — тым на нас дзеюць, што зьмушаюць мінуўшчыну ўспомніць? І ці не таму мы іх любім, што яны гэтай строме ўспамінаў так шырокае рэчышча пракладаюць?

Зрэшты, як-бы яно там ні было, а я стаяў перад Мадоннамі, успамінаў і, нарэшце, успомніў.

* * *

Здарэньне, што ўсплыло ў маёй памяці, сталася тэю парою, калі быў я йшчэ толькі студэнтам... не такім, зрэшты, як самі, а студэнтам сэмінарыі. Із званічнае шляхты паходжу сам. Жыў я на сяле ў бацькі й там, між іншага, ад дзяньгубства, із дубальтушкаю паходжваў, летнія дзянькі каратаючы. Сабака ў мяне, само сабою, быў, «Нэра» на мянушку, паўкровак; панок мясцовы, Іван Васілевіч, яшчэ шчанёткам падараваў. Ледзь вывіднее, я, знакам тым, гэтую дубальтушку сваю за плечы, на сабаку сьвісну й махану на ляжнёў ці на бакасаў. На балоце й дзікія качкі вяліся. Ну, ды гэта, зрэшты, да рэчы, ня йдзець.

Выйшаў я гэтак аднойчы здому, да паўдня прабадзяўся, падстрэліў, памятаю, нештачка й назад дамоў заварнуўся. Ісьці давялося праз сяло Стары Майдан. Пара была рабочая, а таму на вуліцы — ані душы. Хіба толькі малыя дзеці ды ўжо сама абымшэлае старосьцце ўдома засталіся — ну й таго нешта ня відаць. Іду я — і раптам чую дзіцячы плак. Зірк — нейкі сапляты пузанок, гады два, пабег быў, напалохаўся майго «Нэра», ды зачапіўся, бразнуўся й ракам да свае нянькі паўзець гудучы. Падпоўз — і ў падолак да яе тварам уткнуўся. А нянька гэная — ну прост дзяўчо год на восем, нахінулася да яго гэтак рупесна, мызінку рукавом уцерла і, ведаеце, рознымі там жаночымі словамі ўгаворваць пачала. Справа жыцьцёвая, колькі разоў ужо бачаная. Але гэттака, памятаю, дужа ўразіў мяне чыста матчынны выраз, што тэю часінаю праступіў на ейным твары.

Шчыра кажучы, дык-жа пяшчотнасьць матчынная, хоць і добрая, праўда, рэч, толькі ўжо занадта прывычная нам, стаўшыся нечым нележным — ад маці, ведама, належным. У яе гэта нешта само сабою разу-

меецца, і таму можа нічыіх сэрцаў і ня кратае, нат увагу да сябе мала прыцягае. Што, запраўды, за дзіва, калі ў маткі й пачуцці матчынныя? А вось калі я іх у рысах дзеўчыны — ды й то ня дзеўчыны, а недалетка-дзяўчаці — угледзеў, гэттака во, у гэтым во якраз спалучэньні, яны і ўразілі мяне, выдаліся мне... цяжка выказаць, чым выдаліся... і дзівосным нечым, і нявымоўна-мілым. А дзяўчо гэтае — абшарпанае, ведаеце, худзенькае, замурзанае. Не хараством аблічча брала яно, а, казаў той... Ня люблю я гучных славаў, але тут, бадай, іншых і не падбярэш. Вышэйшае хараство ў яе было; толькі ўжо пасьля, стоячы перад дрэздэнскімі Мадоннамі ды ўспамінаючы тое здарэньне, уцяміў я, што бачыў якраз тое хараство, якое мастакі намагаліся адбіць у гэтых абразох.

Я ані не захапляюся селавым звычаем пакідаць ледзь ня сысункоў на дагляд малалетак. І тым і гэтым ад гэнага блага бывае. Дзяўчаці-б пагуляць, пабегаць, — а яе заміж таго дзіцянё няньчыць прыганяюць. А ўжо якая там зь яе нянька? Да самой яшчэ дагляд патрэбен. А ўсё-ж, штоб ні казалі, мусіць у такіх няньках задушэўная ўважлівасьць да дзяцей разьвіцца, гатовасьць заўсёды ўсьцерагчы, абараніць, адказ за іх на сябе ўзяць. Вельмі-ж душа ад гэтага пахарашэць можа. Народ наш даўно гэта падглядзеў і назіраньні свае ў казках замацаваў.

Дабро-б, спадару мой, было, каб зьявіўся крытык які з шырокаю душою, што да казак, як да нейкага чыста-літаратурнага матар'ялу падыйшоў-бы, паспрабаваў-бы асноўныя казачныя тыпы назначыць і зноў-ткі з чыста-літаратурнага гледзішча разабраць. Ёсьць, прыкладам, дасканальны тып — дужа я яго люблю — тып харошае славянскае дзеўчыны. Шмат у якіх казках спрабаваў народ гэты тып замаляваць, у сутыку із самамагчымымі абставінамі розныя бакі ягоныя выявіць. Ды цікавейшыя за ўсё казкі пра братку Іванку й сястрыцу Алёнку. Як самі думаеце, хто гэта Алёнка? Гэта й ёсьць тая самая дзяўчынка, пра якую я самім кагадзе апавядаў. Але-ж, якраз такая васьмігодная селавая нянька. Вы хоць-бы на тое самае паўважайце, хто каго бароніць, хто пра каго рупіцца — брат пра сястру ці сястра пра брата? А вазьмеце адно якуюнебудзь створаную казку, выдуманую пісьменьнікам, ці бо чалавекам, дзяўчаткі якога няньчацца зь лялькамі, але ніяк не з малодшымі браткамі й сястрыцамі. Дык-жа ў ёй, у казцы гэтай, пры такіх самых абставінах усё, напэўна, было-б наадварот, і не сястра за брата, а брат за сястру грудзьмі-б паўстаў. Не, гэта, што самі там не кажэце, рыса не выпадковая, здарма яна зьявіцца не магла. Гэттака народ свае назіраньні над жыцьцём выказваў і, на гэтых во нянькаў-недалеткаў пільным вокам зірнуўшы, стварыў вобраз дзеўчынкі з матчыннымі пачуцьцямі — вобраз, як бачыце, з сэрцы тых-жа Мадоннаў.

Цьверда кажу, што тып гэты належыцца вышэй нат за шэкспірскія тыпы паставіць. Ёсьць у Шэкспіра Афэлія, прыкладам, і мовы няма, харошая яна, але наколькі драбнейшы вобраз ейны супраць Алёнкі нашае! Ведама, і сьмяхотным і недарэчным выдасца самім гэтае параўнаньне маё, але падумайце крыху і, можа, самі пачуеце, што гэтыя словы маюць сваю праўду.

* * *

Вось, голубе мой, пра што мне хацелася самім расказаць, ці бо не самім, шчыра кажучы, а кажнаму чалавеку, перад якім можна было-б крышачку душу расхінуць. Як ні крыўда гэта, а бачу я, што ня мог пераказаць усяго, што хацелася... так што самі, бадай, і не зразумееце, чаму мяне так на гутарку пацягнула. Галоўнае-ж, не ўдалося мне ўсю істу рэчы ў належным тоне адмаляваць. Зрэшты, і не спрабаваў гэтага я — дзе ўжо мне там за апавядальніка быць. Ды й тое сказаўшы — нат у найгутарыстага чалавека гаворка, няйначай вунь Волга гэная: напару плытчэе, напару ўбок зварочвае з належнага рэчышча; ну, а напару і чыстай і глыбокай плыняй цячэць.

Незахаваны беларускі тэкст з выдрукаванага расейскага аднавіў **С. С-а.**

---

**РЫГОР КРУШЫНА**

# ПЕСЬНЯ ПЕСЬНЯЎ САЛЯМОНА

Разьдзел I.

Ён мяне цалуе палка
пацалункам сваіх вуснаў!
Твае ласкі ап'яняюць,
за віно мацней і лепей.

Ад тваіх памастаў пахкіх
тхне імя твае алеем;
і цябе дзяўчаты любяць.
Ты цягні мяне, прынаджвай,
пабягом мы за табою; —
цар павёў мяне ў харомы,
будзем шчасна захапляцца,
будзем цешыцца табою,
больш за віны дарагія;
шчыра й годна цябе любяць!
О, дачкі Ерузалему!
хай я чорная, як ночка,
а прыгожая, як зорка,
як вузор шатроў Кідарскіх,
як завесы Салямона.
На мяне вы не глядзеце,
што я смуглая такая;
апаліла мяне сонца.
А сыны мае матулі
на мяне крычэлі гнеўна,
вінаграднікі чужыя
пілнаваць мне наказалі, —
я свайго не пілнавала.
Адкажы мне, ты, якога
сьніць душа мая ў каханьні:
дзе пасеш ты? Дзе заўсёды
апаўдня адпачываеш?
мне навошта быць бадзяжкай
каля стада тваіх сябраў?
Як ня ведаеш аб гэтым,
найпрыгожая з жанчынаў,
дык ідзі сабе па полі,
па сьлядох авец атарных
і пасі тваіх казьлятак
водля шатаў пастуховых.
Прыпадобіў кабыліцы
ў калясьніцы фараона
я цябе, мая каханка.
Як прыгожа твае скроні
выглядаюць спад падвескаў,
твая шыя у маністах;
мы падвескі залатыя
зробім зь блішчыкамі срэбра,
і табе іх падаруем.
Дакуль цар сядзеў за столам,
нард мой веяў сваю вохнасьць.
Пучок міры — мой каханы
ля грудзей маіх красуе.
Нібы кіперава гронка,
мой каханы у нявесты
ў вінаградніках Энгедзкіх.
О, ты любая красуня,
ты прыгожая, бы мара!
твае вочы галубовы.
О, ты любы мой, прыгожы,
і прывэтны! наша ложа —
зеляніна у буйным цьвеце.
Стрэхі хатаў нашых — кедры,
столі нашы — кіпарысы.

## Разьдзел II.

Я жывы нарцыз Саронскі,
залатых далін лялея!
Як між цёрнамі лялея,
так і ты, мая каханка,
між дзяўчатамі красуеш.
Як між дрэвамі ляснымі
яблынь, так і мой каханы
між хлапцамі маладымі.
У цяньку пад ейным вецьцем
я люблю сядзець і мроіць,
а плады ў яе салодкі,
лашчаць сьвежа маё горла.
Ён павёў мяне ў дом балю,
нада мною сьцяг ягоны —
незгасальнае каханьне.
Падмацуйце мяне сокам,
хмельным сокам вінаграду,
супакойце маю смагу
сьпелым яблыкам, бо сяньня
зьнемагаюся ў каханьні.
Пясьць рукі ягонай левай
у мяне пад галавою,
а мяне самую правай
моцна-палка абыймае.
Вас, дачкі Ерузалему,
заклінаю ланяй, сарнай:
ня будзеце, ня трывожце
ціхі сон мае каханай.
Голас любага я чую!
Ён ідзе, бяжыць па горах,
скача-ймчыцца па узгорках.
Сябра мой на сарну схожы,
на аленя маладага.
Вось стаіць ён за сьцяною,
зазірае нам у вокны,
і мільгае ён праз краты.
Мой каханы мне гавора:
Ўстань, мая каханка-любка,
ты, мая красуня, выйдзі!
Вось, зіма ўжо прамінула;
дождж таксама сьціх, ня кропіць;
на зямлі пышнеюць краскі,
надыйшоў і час сьпяваньня,
голас горліцы вясновай
чуем мы ў краіне нашай;
распусьцілі смоквы наквець
і на сонцы водар цьвету
вінаграазьдзяў павявае.
Ўстань, мая каханка-любка,
да мяне, красуня, выйдзі!
Пад шатром маім галубка
у рашчэпе горнай скалы!
пакажы мне, любка, твар свой,
дай адчуць твой звонкі голас,
бо твой голас мне салодкі
і ў красе твой твар прыемны.
Нам злавеце шкодных лісаў
і маленькіх лісянятаў, —
вінаграднікі псуюць нам,
а яны у нас у цьвеце.
Мне належыць мой каханы,
а яму і я таксама;
ён пасе сярод лялеяў.
Пакуль вее прахалода,
і зьбягаюць долу сьцені,
да мяне барждждэй вярніся,
будзь падобны ты да сарны
ці аленя маладога
на распадзінах узгор'я.

## Разьдзел III.

Я шукала ў маім ложы
уначы таго, якога
сьніць душа мая ў каханьні;
я здарма яго шукала,
не знайшла яго ў пасьцелі.
Ўстану-ж я, пайду на горад,
там па вуліцах і плошчах,
па бязьлюдных, цёмных буду
я шукаць таго, якога
сьніць душа мая ў каханьні;
я здарма яго шукала,
не знайшла яго ў завулках.
І той час мяне сустрэлі
гарадзкія вартавыя:
ці ня бачылі мілога,
што душа мая кахае?
Але толькі адыйшлася
я ад іх, маўклівых, строгіх,
як знайшла таго, якога
сьніць душа мая ў каханьні;
ухапілася за рукі
і яго не адпусьціла,
прывяла яго суцешна
ў дом мае радзімай маці,
у матульчыны сьвятліцы.
Вас, дачкі Ерузалему,
заклінаю ланяй, сарнай:
ня будзеце, ня трывожце
ціхі сон мае каханай.
Хто-ж то ўсходзіць ад пустыні,
як слупы густога дыму,
ўся акураная мірай,
і цім'янам, вохным зельлем.
Вось адро тут — Салямона:
шэсьдзесят наўкола дужых
ад Ізраелевых з дужых,
Усе яны мячы трымаюць,
у баёх выпрабаваны,
кажны мае меч пры боку
дзеля страху проці ночы.
Ты зрабіў, цар Салямоне,
для сябе адро-насілы
з найцьвярдзейшых дрэў лібанскіх;
на адры стаўпцы із срэбра,
падлакотні залатыя,
а ягонае сядала
з пурпуровае тканіны;
і нутро у ім прыбрана,
выйшла ў любасьці аздоба
з рук дачок Ерузалему.
Вы пайдзеце, паглядзеце
на яго, дачкі Сьёну,
на цара на Салямона
у вянцы, што ў той дзень шлюбу,
ў дзень, найрадасны для сэрца,
маці сына увянчала.

## Разьдзел IV.

О ты, любая красуня,
ты прыгожая, бы мроя!
і спад кудраў твае вочы
галубовыя сьмяюцца;
валасы твае, як быццам
стада дзікіх коз зыходзіць
з гор, зь вяршыні Галяадзкай;
твае зубы, як атара
гладка стрыжаных авечак,
павыходзіўшы з купальні,
дзе па два ягняці ў кажнай,
і няма між іх бясплоднай;
як пунсовая істужка
твае вусны, з вуснаў — ветласьць,
а пад кудзеркамі шчокі —
сьпеласьць яблык гранатовых:
твая шыя — стоўп Давідаў,
што пастаўлены для зброі

і абвешаны шчытамі,
а шчыты ўсе з царства дужых;
два сыскі твае, як двойні
маладой трапёткай сарны,
што ў папасцы між лялеяў.
Пакуль вее прахалода,
і зьбягаюць долу сьцені,
я пайду на ўзвышша міры
і на ўзгорак ціміяну.
Ты прыгожая бясспрэчна,
мая любая княгіня,
на табе — ніводнай плямы.
Дык за мной зь Лібану, любка!
ты за мной ідзі зь Лібану!
пасьпяшай зь вяршынь Аманы,
з гор Сэніру і Эрмону,
ад лаговішчаў ільвіных
і ад барсавых узгор'яў.
Паланіла маё сэрца,
о, сястра, мая княгіня!
паланіла маё сэрца
адным позіркам прыветным
і адным тваім маністам
на тваёй пяшчотнай шыі.
О, сястра, мая княгіня!
як прыемна з тваіх ласак!
за віно яны найлепей.

Дзіўны пах тваіх памастаў
над усе найлепшы водар.
Сыта мёду з тваіх вуснаў
густа капае, княгіня;
малако і мёд размовы
і той пах твае адзежы
роўны з водарам Лібану.
Ты, сястра, мая княгіня,
сад зачынены, замкнёны,
загароджаная студня,
мураваная крыніца;
гадунцы твае сягоньня —
сад гранатаў, сьпелых яблык,
ён прынаджвае пладамі,
дзе і кіперы, і нарды,
цынамон ,шафран і аер,
тонкі пах алою, міры
і найлепшы водар дрэваў;
ты садовая крыніца —
студня водаў жыватворных,
і патокі хваль зь Лібану.
Узьвей, вецер, ад паўночы,
прынясі свой подых з поўдня,
тхні-павень на сад мой сьпелы, —
і пальлецца пах ягоны!
Хай каханы паспытае
ў гэтым садзе плод салодкі.

## Разьдзел V.

Я прыйшоў у малады мой
сад, сястра, мая княгіня;
і набраў я міры вохнай,
і паеў я соты зь мёдам,
і напіўся я віна там,
з малаком віна хмяльнога.
Ежце вы, сябры, і пеце,
ежце, любыя, удосьць!
Я вось сплю, а маё сэрца
нат ня дрэмле, моцна б'ецца;
чую голас, то — мой любы
гулка стукаецца ў дзьверы:
адчыні мне, мая любка,
адчыні, мая сястрыца,
мая чыстая галубка!
бо прадрогла маё цела,
галава мая ускрыта
ўся сьцюдзёнаю расою,
вогкасьць ночная — на кудрах.
Я ўжо скінула хітон мой;
як-жа зноў мне надзявацца?
я памыла мае ногі;
як-жа мне іх зноў забрудзіць?
Мой каханы праз шчылінку
працягнуў руку сваю мне,
і нутро маё раптоўна
ўсхвалявалася, ўзыйграла.
Я ўсхапілася з пасьцелі
адамкнуць майму мілому,
з рук маіх сьцякала міра,
з пальцаў капала на клямку,
на замок і на завалу.
Адамкнула я мілому,
а мой мілы павярнуўся
і пайшоў назад у цемрадзь.
Ува мне душы ня стала,
калі гутарыў зы мною;
я цяпер яго шукала,
не знаходзіла яго я;
з жалем клікала-гукала,
і ён мне не адгукаўся.
І той час мяне сустрэлі

гарадзкія вартавыя,
мяне зьбілі, мне нанесьлі
акрываўленыя раны;
зь мяне зьнялі пакрывала
людзі, што пілнуюць сьцены.
Вас, дачкі Ерузалему,
заклінаю! пры спатканьні
з маім любым — не маўчэце,
вы скажэце, што я сяньня
зьнемагаюся ў каханьні.
Чым, скажы, твой любы лепшы
за другіх, за іншых любых,
найпрыгожая з жанчынаў?
Чым, скажы, твой любы лепшы,
што нас гэтак заклінаеш?
Любы мой такі прыгожы,
з твару белы і румяны,
лепш за дзесяць тысяч іншых.
Галаву ён мае — зьлітак
самародку залатога;
хваляй падаюць на плечы
кудры чорныя, як воран.
Вочы — быццам галубочкі
ля патоку вод малочных,
дзе купаюцца штодзённа,
і сядзяць у здаваленьні;
шчокі — кветнік пышных ружаў,
грады водарных расьцінаў;
вусны — ў чырвані лялеі,
зь іх цячэ крыніцай міра;
рукі — шулы залатыя,
скрозь тапазамі ускрыты;
і жывот — прыгожай формы,
як разьба з касьці сланёвай;
ногі — з мармару калюмны
ў залатых ступнёх-падножжах;
выгляд велічны, як кедры
і падобны да Лібану;
Вусны — соладзь, і суздром ён —
ветласьць. Вось хто мой каханы,
вось хто сябра мой, кажу я
вам, дачкі Ерузалему!

## Разьдзел VI.

А куды пайшоў твой любы,
найпрыгожая з жанчынаў?
павярнуў куды твой любы?
пашукаем мы з табою.
Любы мой пайшоў у сад свой,

каб у пахкіх красках пасьціць
і зьбіраць сабе лялеі.
Я каханаму належу,
а каханы мне таксама;
ён пасе сярод лялеяў.

Дарагая мая любка,
ты прыгожая, бы Фірца,
твая ветлая усьмешка,
як краса Ерузалему,
а ты грозная з пагляду,
як палкі на полі бітвы.
Ухілі, прашу ласкава,
ад мяне свае ты вочы,
бо яны мяне хвалююць.
Валасы твае, як стада
коз бягучых з Галяаду;
твае зубы, як атара
гладка стрыжаных авечак,
павыходзіўшы з купальні,
дзе па два ягняці ў кажнай,
і няма між іх бясплоднай;
а пад кудзеркамі шчокі —
сьпеласьць яблык гранатовых.
Шэсьцьдзясят царыц я маю
і васьмідзясят наложніц,
і пры тым дзяўчат бязь ліку,
ды адзіная між імі,
мая чыстая галубка;
вызначаецца адзінай
і ў свае радзімай маці.
Як пабачылі дзяўчаты, —
узьнясьлі яе высока,
і уславілі царыцы,
і наложніцы ўсхвалілі.
Хто такая, бы зарніца,
і прыгожая, бы месяц,
яснасьветлая, бы сонца,
але грозная з пагляду,
як палкі на полі бітвы?
Я пайшла у сад-арэшнік
паглядзець на цьвет даліны,
паглядзець, ці зелянеюць
вінаградавыя лозы,
ці ў прысадах расьцьвітае
гранатовых яблын вецьце?
Я ня ведаю, ня знаю,
як душа мая згарала,
мяне магнула, цягнула
да славутай калясьніцы
ўладароў майго народу.

## Разьдзел VII.

Азірніся, Суляміта,
азірніся, азірніся, —
на тваё аблічча глянем.
Вам нашто на Суляміту
пазіраць, як на прыгоствы
карагодаў Манаімскіх?
О, як хараша ступаюць
твае ногі у сандалях,
імянітая дачухна!
Акругленьне тваіх кульшаў —
як цудоўнае маніста,
справа рук тварца мастацтва;
тваё чэрава, бы кубак,
у якім віно заўсёды;
тваё чэрава — акраса,
стог пшаніцы між лялеяў;
два сыскі твае, як быццам
два казьляткі, двойні сарны;
твая шыя у маністах,
як той стоўп з касьці сланёвай;
пад брывамі твае вочы —
эсэвонскія азерцы
каля брамаў Батрабіму;
нос твой — вежа на Лібане,
павярнутая к Дамаску;
галава твая, красуня,
як Карміл, і кудры ўюцца,
валасы твае, як пурпур,
цар захоплены тваімі
завіткамі мяккіх кудраў.
А прыгожая якая,
мілым позіркам прывабна!
Гэты стан твой схожы з пальмай,
твае грудзі — вінагродзьдзі.
І падумаў я: узьлез-бы
я на пальму, ухапіўся-б
за раскошныя галіны;
твае грудзі мне былі-бы
заміж грозьдзяў вінаграду,
і ад ноздраў тваіх водар,
як ад яблыкаў дасьпелых;
твае вусны сакаўныя,
як віно з гатункаў лепшых,
што цячэ да майго сябры,
вусны стомленых салодзіць.
Я належу майму сябру
і ягонае жаданьне
да мяне пакіравана.
Ты прыйдзі, прыйдзі мой любы,
выйдзем мы з табой у поле,
і пабудзем сяньня ў сёлах;
раніцой з табою, дружа,
ў вінаграднікі мы пойдзем,
паглядзём, ці зелянеюць
вінаградавыя лозы,
ці раскрыліся пупышкі,
ці ў прысадах расьцьвітае
гранатовых яблын вецьце;
там я выкажу чульліва
да цябе замілаваньне.
Мандрагоры зацьвілі ўжо
і пусьцілі пах свой вохны,
ля дзьвярэй у нас усякіх
ёсьць пладоў, старых і новых;
заашчадзіла я гэта
для цябе, мой улюбёны.

## Разьдзел VIII.

О, каб ты быў родным братам,
ссаўшы грудзі мае маці!
дык на вуліцы цябе я
пры спатканьні цалавала-б,
і мяне не пасуджалі-б.
Павяла-б цябе ў пакоі,
ў дом мае радзімай маці.
Ты мяне ўсяго вучыў-бы,
я віном цябе паіла-б,
сокам яблык гранатовых.
Пясьць рукі ягонай левай
у мяне пад галавою,
а мяне самую правай
моцна-палка абыймае.
Я з мальбою заклінаю
вас, дачкі Ерузалему, —
ня будзеце, ня трывожце
ціхі сон мае каханай.
Хто-ж усходзіць ад пустыні,
абапёршыся ласкава
на свайго каханка-сябру?
Я пад яблынай цяністай
цябе, любы, пабудзіла:
там цябе пад яснай зоркай
нарадзіла твая маці.
Палажы мяне ў каханьні,
як пячаць на тваё сэрца,
на руку тваю пярсьцёнак,
бо дужэй за сьмерць каханьне;
стрэлы іхныя з жарніцы —
і страшней за пекла зайздрасьць;
стрэлы палка-агнявыя;
і само яно, каханьне,
зыркім полымем палае.
Не згасіць вялікім водам
паланелы жар каханьня,

не заліць яго і рэкам.
А хто даў-бы ўсё багацьце
свайго дому за каханьне,
той з багацьцем быў-бы разам
прэч адрынуты з пагардай.
Ёсьць у нас сястра малая,
шчэ яна сыскоў ня мае.
Што рабіць зь сястрою нашай,
як да нас у госьці прыйдуць,
будуць сватацца за ёю?
Каб яна была сьцяною,
дык на ёй мы збудавалі-б
з срэбра пышныя палацы,
каб яна была дзьвярыма,
дык яе мы тонкай ліштвай
дошак кедравых аклалі-б.
Я сьцяна перад каханым,
і сыскі мае, як вежы;
і таму ў вачох ягоных
дасягла я паўналецьця.
Вінаграднік Салямона
быў красой Баал-Гамону;
ён аддаў той вінаграднік
вартавым, і мусіў кажны
за плады яму аплачваць
срэбра тысячу кавалкаў.
А мой сьпелы вінаграднік
у мяне. Хай, Салямоне,
табе тысяча, а дзьвесьце —
тым, хто ў ім плады пілнуе.
Засьпявай, садоў жыхарка!
Голас твой сябры пачуюць,
дай і мне яго паслухаць.
Да мяне бяжы, мой любы!
будзь падобны ты да сарны,
ці аленя маладога
на узгор'ях бальзамічных.

---

**Н. ЗМАГАРКА**

# БЕЛЫЯ ЯБЛЫНЫ

**АПАВЯДАНЬНЕ**

Алесі ў вадзін дзень надыйшлі два сватаньні. Гэта здавалася бадай немагчымым, бо часам добрая дачка ў маці адных сватоў чакае па дзесяць год. Апрача таго, абодвы сватаньні былі выказаныя ў лістох. Гэта таксама было нязвычайна, бо мужчыны цяпер гэткія сьмелыя, што зазвычай заўсёды імкнуцца паказаць сваю сьмеласьць.

Аднак, пасланцы лістоў мелі прычыны гэтак рабіць. Яны былі сябрамі й не жадалі, каб іхнае сяброўства перачырквала нейкае пачуцьцё. У дні вайны іх не падзялілі кулі ворага. Дык як-жа цяпер гэта маглі зрабіць зусім неварожыя вочы, каханьне?..

Яны нагэтулькі былі сябрамі, што і з Алесяй пазнаёміліся разам. Навет іхныя дасягненьні былі сяброўскія. Не вялікія, не малыя, але сардэчныя. Вялікшых дасягненьняў пакуль ня меў ніводзін.

У гэтым найменш віны мела сама Алеся. Блізу ўсе спатканьні адбываліся тройкай, бо ніводзін зь сяброў не жадаў навет выпадковыя сустрэчы праводзіць удваёх. Шчасьце трэба было здабыць фронтам, а не за плячыма ў іншага.

Гэткая тактыка, зразумела, не дала вынікаў ніводнаму. Заміж чаканага вялікага пункту зьявілася шматкроп'е. Трэба было нешта рабіць, каб абярнуць яго прынамся ў вялікі пытальнік.

Яны гэтак і пастанавілі зьвярнуцца да ўкаханай дзяўчыны зь вялікім пытальным лістом. Каб ніхто зь іх не адзначыўся больш, ды каб і Алесі было лягчэй сказаць сваё «не», яны ўмовіліся паўстрымацца ад асабістага зьяўленьня. Апрача таго, кажны зь іх у цішы сэрца пастанавіў ісьці далей. Каб ня вельмі выявіць свае разьлічэньні, побач із сьветлым заклікам трэба было адзначыць таксама цяжар будучыні й цёмныя бакі.

Гэткая ўмова, магчыма, ня сьветчыла аб асаблівай ведзе душы маладое дзяўчыны. Затое гэта давала бліскучае сьветчаньне запраўднага сяброўства і гэтак рэдкай сярод мужчынаў салідарнасьці.

Адзін із сяброў пастанавіў ісьці далей. Ягоны сябра й супарат быў вясковец, хоць і собсьнік сярэдняе гаспадаркі, а ён меў дом у вялікім беларускім горадзе, добрая практыка, а галоўнае — зігацелі агні вялікага гораду. Гэтак ён і пастанавіў у сваім лісьце менш выявіць агні, але больш сьцені. Так ён заспакойваў свае сяброўскія пачуцьці й меў-бы глыбокае задаваленьне, калі-б Алеся больш паслухалася ягонага закліку, а ня прывабы вачэй агнянога гораду.

Ён гэтак і пісаў:

«Я быў-бы вельмі шчасьлівы Вашым «але». Я зраблю ўсё, каб даць Вам жыцьцё любай і каханай жонкі.

Але Вы павінны ўвайсьці ў яго з адчыненымі, а не завязанымі вачыма. Замужнае жыцьцё гарадчанаў звонку выглядае прыгожым і бліскучым. Аднак, яно часта — толькі прыгожая шалупіна жыцьця, што ня здольнае стацца поўным сужыцьцём. Вы, пэўна, яшчэ вышэй уздыймеце чорныя бровы, каб яшчэ ўніклівей прачытаць гэтыя словы, якія здадуцца Вам досыць змрочнымі. Таму паспрабую іх растлумачыць.

Да жыцьцёвага шчасьця й дасягненьняў сужэнцы мусяць ісьці шчыльна разам і поплеч. А горад часта змушае крочыць кажнага асобна. На гэта шмат прычынаў. Некаторыя зразумееце самі пасьля, некаторыя пастараюся растлумачыць ужо цяпер.

Горад імкнецца да смакіраўніцтва і не даецца нашаму кіраваньню. Ён азначае таксама парадак і тэмпы нашага жыцьця, якое ў запраўднасьці заўсёды ўсхваляванае, надмернае, часта ў нявыяўным пасьпеху. Гэта — шпаркае, бязьлітаснае змаганьне імкненьняў і пачуцьцяў. Хто ўцягнуты ў гэты тэмп змаганьня, той мусіць трымацца, каб трапіць заўсёды далей наперад. Інакш шпаркая машына жыцьця цябе выкіне. Вось гэтая машына гораду часта захапляе мужоў, а затым нярэдка й іншых жонак.

Сем'і звычайна не нагэтулькі заможныя й незалежныя, каб абаім сядзець у хаце. Праца-ж звычайна ня гэткая, каб яе маглі рабіць абое разам. Таму ў вялікай машыне дзён сям'я рэдка сходзіцца разам. Ёй найбольш належаць сьпешныя раніцы й змораныя вечары.

Нас змушае сьпяшацца ўсё па новыя дасяганьні праца, абявязак і само сьпяшаньне вялікае працы.

Замаладу мы сьпяшаемся й працуем, каб вучыцца, здабываць веду, як мага барджджэй — адпаведную пасаду й заработак. Потым мы ўжо ня можам зьменшыць тэмпу, бо здабытае імкнешся ўтрымаць і пашырыць.

Затым прыходзіць час, калі бачыш, што ўсё дасягнутае толькі міраж, калі яно не прыдаецца роднаму народу й ня зробленае любай рукой і сэрцам. Я быў-бы рады, калі-б Вы пажадалі ажывіць гэтае жыцьцё й даць яму прамяністасьць Вашых дарагіх вачэй.

Я ведаю, што гэтае шчасьце мне трэба яшчэ здабыць, заваяваць. Ведаю таксама, што Вашае сэрца хоча здабыць іншы — магчыма, больш паважнае прапанаваньне шчасьця. Гэта змушае мяне больш паўстрымвацца, чым перабольшваць свае абяцаньні.

Я гэтак жадаў-бы, каб магчымае сямейнае жыцьцё само сталася прыгожым і поўным ды ня было толькі звыклай шалупінай, якую замала напаўняе жывое жыцьцё. Калі-ж із часам нас, супраць нашага жаданьня, захопіць за сабой усемагутная плыня гораду? Калі й нашае сямейнае жыцьцё з часам абернецца ў сьпешныя раніцы, змораныя вечары й падвойна адзінотныя дні? Гэткая парная адзінота часам агортае нас і ў сьпешным спатканьні ды ў сумным таварысьцьве натоўпу знаёмых або чужых.

Чым больш вакол нас людзей, тым больш напару пачуваешся адзінотным у горадзе. Чым больш агню ва-

кол нас, тым больш ён нас спальвае й тым паражнейшым і адзінотнейшым робіцца нашае жыцьцё.

Сямейныя часам спатыкаюцца тут, як паасобныя параплавы, якія выплываюць із хваляў гораду. Яны нагэтулькі зморапыя ў сваёй язьдзе, што няздольныя навет узрадавацца супольнаму спатканьню й адпачынку. А гэтая радасьць мусіла-б быць тым вялікшая, калі аб іхным спатканьні супольна лятуцелася ды калі ў гадзіны расставаньня іх узмацоўвала вытрываласьць сэрца. А часам навет ціхі гэраізм.

Вось гэтулькі патрабуе ад сужэнцаў сям'я, якую асьвятляюць агні й тэмп гораду. Ці Вы маглі-б імі задаволіцца, ці згодныя пачаць змаганьне за нешта вялікшае, вышэйшае? І ці я буду тым чалавекам, побач зь якім Вы жадалі-б пачаць гэтае змаганьне? Прашу падумаць аб гэтым ціха ў сваім сэрцы, а потым моцна і пэўна паведаміць мне сваю пастанову.

Каб быць запраўдным мужам, трэба мець запраўдную жонку, якая ўжо ад пачатку можа сьмела сказаць — «але», а магчыма яшчэ сьмялей — таксама — «не».

Алеся часінку падумала й адчыніла другі ліст. Магчыма, ён дапаможа знайсьці адказ першаму?

Яна чытала:

«Мне патрэбная жонка, а маёй гаспадарцы гаспадыня. Не пачувайцеся занепакоенай гэтым заклікам. Замаладу мы часта яшчэ ня ведаем, дзе схаваныя нашыя запраўдныя здольнасьці.

З Вас можа быць цудоўная жонка й гаспадыня. У Вашым поглядзе шмат лятуценьняў і яскравасьці, кволасьці і ўпорыстасьці. Я ў Вас не сумляюся.

Барджджэй Вам ува мне — «вялікім практыку», як Вы пасяброўску клічаце мяне. Але я раблюся ўсё часьцей нясуверным сабе й «вялікаму практыцызму». Гэта даводзіць гэты ліст...

Апрача таго, цяпер цьвітуць яблыны. І я ў белым садзе праседзеў дзьве прыгожыя гадзіны, хоць на гонях і сенажацях чакала сьпешная праца. Яблыны скідалі свой цьвет, і мне здавалася, што ліюцца белыя сьлёзы. Чаму? Як я паважыўся гэтак доўга сядзець адзін у гэткай прыгажосьці. Я толькі цяпер зразумеў гэта.

Што рабіць, калі сярод мноства адчыняе вочы адна, толькі адна. І гэтая адна не нарадзілася каля яблынавага саду?

Із саду пайшоў у хлеў. (Але — проста туды). Мне здавалася, што так робіць новая гаспадыня, і мне хацелася дасьледзіць ейныя крокі. Ад цьвету да гаспадараньня. Каровы любяць, каб іх часта адведвалі. Затым агледзеў гоні, сенажаці і ўсюды бачыў ідучы напярэймы — Вас. Крокі гаспадара й гаспадыні ў працы разыходзяцца, але найчасьцей яны сустракаюцца. Іхныя вочы сустракаюцца, люструючы радасьць.

Усё гэта было-б добра, але... Дрэвы надзеі нельга гадаваць гэтак сьмела й аднаму. Вам гэтак блізкія агні гораду. І ў бліску агнёў Вам адчыніў сэрца гэткі сьмелы й добры чалавек, як мой сябра.

Што я магу прапанаваць Вам на замену? Гоні, высокае неба й зоркі. Яны аднак найзырчэй зьзяюць увосень, калі іх не зацягнуць чорныя хмары.

Цяпер прапаную Вам руку, сэрца й яблынавы сад. Гэта — белы рай адзінотнасьці. Як-жа добра ў ім удваёх! Гэта было-б надмеру добра, каб гэта можна было... Каб Вы ведалі, як цяпер цьвітуць белыя яблыны!»

Алеся чытала і ўсьміхалася. Выбар спачатку здаваўся гэткім цяжкім, што замест двох яна пачала думаць аб трэйцім. Якім сьмелым, адчыненым, праўдзівым быў першы ліст! Змагар здаваўся ёй заўсёды вялікім, а цяпер ён яшчэ больш вырас у ейных вачох. Ягоная галава выцягнулася навет панад помнікамі Беларусі. Побач зь ім яна сталася яшчэ меншай.

Гэткаму чалавеку патрэбная была зусім іншая, вялікшая й мацнейшая сяброўка. Яна была дзеля іншага, шмат прасьцейшага шчасьця. У садзе агнёў гораду яна пачувалася добра. Гэта праўда. Але няўзнак для самой, у душы выраслі вялікія й гаманлівыя сады лятуценьняў. Яна яшчэ ня ведала іхнага ймя. Яго мусіў адгадваць ейны суджаны. Гэта сьветчыла-б, што ён добра прыгледзеўся да ейнага сэрца. Ейная матуля эглядзелася зь ейным бацькам пад шумаценьне белага цьвету. Ці ня гэткай была і ейная доля? Ці ён не згадаў ужо ймя ейнага белага саду?... Ды калі белы цьвет ужо асыпаўся?...

Яна пасьпешна ўзяла кавалачак паперы й пачала хапаючыся пісаць. На белую паперу алавок накідаў сьляды пытаньняў:

«Ці белы цьвет яшчэ не асыпаўся? Ці здолеюць заўтра дачакацца мяне белыя яблыны, ці спаткаюць яны мяне?...»

Гэта-ж ня было дзіўным пытаньнем?

Ня дзіва зрабіла й сама дзяўчына, бо яна любіла родны край.

---

**НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА**

# ВАЗЬМУ ПЯРО

**ВЕРШЫ**

### Я — ПІШУ

Моўчкі адыходзіць небам дзень,
Вядучы на паваду рудое сонца.
Плямы сьценяў сініх дзе-ня-дзе
Залілі ўжо залаты сасоньнік.
А ён спаць ня хоча. Сонцу ўсьлед
Пахне цёплаю мядовую смалою
І ўсё шэпча, мо начы й ня ўтон
Аб уцехах сонечных, маўляў малое.
Спаць ня хочацца і мне. Вазьму пяро,
Расьцьвіце мо на паперы колькі зорак,
Як вышэй, дзе звонкі, срэбны рой
Ужо вылецеў страчаць вячорны морак.
Так... ідзе паволі небам ноч,
Вядучы на паваду бялявы месяц.
У сутоньні сонным сьпіць даўно
Сьцішаны сасоньнік... Голаў зьвесіў.
Я-ж пішу...
Навошта я пішу,
Для каго? Па шчырасьці, — ня знаю,
Бо-ж ня вершы ў сьвеце узьнімаюць шум,
І ня рыфмы шум той сунімаюць.

### ДОЖДЖ

Срэбрам тоўчаным асыпаў дождж
Шыбы задымелага бараку.
З гэткай шчырэю, пякучаю жадой
Ён даўно, даўно ужо ня плакаў.
Плач удосыць...
Я, — я не з такіх.
І з табой напэўна не заплачу.
Я ня плачу, я раблю, калі
Мяне жаль агортае гарачы.
І тады
Мой кажны крок — сьляза,
Кажны ўчынак — кропля залатога ляку,
Вось як тыя, што дні два назаць
Ня сьціхае дождж на шыбінах бараку.

### КАЛЮМБ

Знаёмы краявід: барак, падгнілы плот,
Дзьве-тры бязьлістыя, маркотныя таполі,
Калода зь кіненай пры ёй старой пілой,
Кашуля ў латах на шнурку... Што-ж болей?
Ах, лужына яшчэ, ледзь-ледзь не акіян,
Мутная, рыжая, бяз конца і бяз краю,
Ды вечар сіні, зыркі... Колькі я
Такіх, чужых, — праводжу й сустракаю!

Ля лужыны — дзятвы! У хустках, каптанох,
Із лапкамі сьсінелымі й насамі.
Сьмяюцца, плёхаюцца, б'юцца, хоць даўно
Час у цяплейшы кут — да печкі і да мамы.

Штораз цямней... Чырвонае крыло
Заходу сасьлізнулася з баракаў.
Павеяла важкой, вільготнай мглой... Праз плот
Пайшлі малыя... Ціха, як пасеяў макам.

Ды хто-ж гэта сапе над лужынай? Адзін,
Маленькі карапуз стаўляе цэглы рубам
І скача праз ваду, далей, далей. Глядзі,
Ці-ж ён ня чуецца цяпер Калюмбам?

Чароўны сьвет нязнаных далячынь!
Прадонныя, усьпененыя тоні!
Што там? У далечы-ж! Пачын
Яшчэ ня ўсё: канцы — ўсяму карона!

І б'ецца сэрца дробнае тугой
Па чымсь нязнойдзеным яшчэ, хоць прачуваным.
Далей! Хай хлюпае у боціках. Яго
Ня спыніш. Ён — здабыўца сяньня!

Ды пахіснулася зьнянацку цагліна
І — боўць! — у лужыну здабыўца нецярплівы.
Прарэзьлівы дзіцячы плач узьняў
З тапаляў стаю галіцаў крыклівых.

Нярадасны канец імкненьняў, мрой... але...
Ці-ж не праняў бы й нас ён холадам і сумам?
І ціхай я іду да хаты. Ўсьлед
За ім, нядойшлым, сплаканым Калюмбам!

## СЛАВА

Добра жыць на зялёнай зямлі
З сэрцам простым, малым, чалавечым.
Расьцьвісьці, і зярнят насьпяліць,
І у вечнасьць
Сплысьці, як лісьцё.
Ня ўзірацца ў блакітны туман
Недасяжных, далёкіх сузор'яў.
І уцехі, і крыўды прыймаць
Із пакорай,
Як гнецца трысьцё.
Але гора таму, у каго
Не на меру прыкроена сэрца,
Ў кім адвечны шугае вагонь,
Хто й памерці
Ня ўмее і жыць,
Хто ня стоміцца загрудзі браць
Наймацнейшых,
каб лёс наш палынны
Ўрэшце вывесьці, — хіба-ж пара! —
На гасьцінцы
З вузенькіх сьцяжын.
Гора тым, хто сьніць сінь, далячынь
Непазнаных усьпененых мораў,
Хто імкнецца зь зямлі уцячы
У міжзор'і,
Хай трапіць на дно.
Сто раз гора таму, хто сваіх
Любіць больш, чымся собскае цела,
Каго пенным віном не ўпаіць
На вясельлях
Чужых шаптуном.

Адно дзіўна, а славяць здаўна
Не пакорных, што гнуцца да стомы,
Не таго, хто насьпеліць зярнят
І лісьцём скіне душу сваю.
Казак, песьняў аб гэткіх няма.
Ні цымбалы аб іх не зазвоняць,
Ні дзяўчаты, зару пераймаць
Ідучы на загон,
Не сьпяюць.
Не, плятуць у нас славу чамусь
Тым якраз, каму мрояцца ўзвышшы,
Хто ня гразьне ў жыцьцёвую муць,
Дзід ня крышыць
За скарбы зямлі.
Пяюць песьні у нас аб сьвятых
Змагарох, палыменных, шалёных
Пераможцах, паэтах, — аб іх,
Аб натхнёных,
Мы славу сплялі...
Хай жывецца-ж на жытнай зямлі
Добра з сэрцам малым, чалавечым.
Хай, хто ўмее зярняты сьпяліць,
І у вечнасьць
Сплывае лісьцём.
Мы глядзелі
і будзем глядзець
У туманы няўхопных сузор'яў,
І ня будзем з пакорай цярпець
Зло й дакоры,
Гнучыся трысьцём!

## БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

Есьць людзі, што ў Цябе і вераць і ня вераць,
Якім ты «сіняю вачэй яшчэ не расьцьвіла».
Іх лёс — нярадасны,
Іх шлях імглісты, шэры,
Ці нам каменьні ў сэрцы іх шпурляць?
Ды ёсьць і іншыя,
якіх ты узьлюляла
Найшчырэйшай песьняй матчынай, якіх
Карміла лустай жытнаю бяз мала
Да ўчора...
і што кажуць сяньня: «Кінь,
Якія мы твае?
А ты якая наша?
Цябе няма, цябе хтось выдумаў на сьмех!»

І шчэрацца, і прадаюць Цябе, а часам —
Клыччом за горла...
Зрадзе на сацьмець!
Даруй ім, Краю наш, калі патрапіш.
У нас — прабачаньня для іх няма.
Не абатром з балота й ног мы нашых
Аб душаў іхных выцерты лахман.
Мы верым, Ты сама іх некалі ўкараеш,
Прапаліш роспаччу ім сэрцы ўгрунт.
Для нас, выгнаных сяньня з Краю,
Была Ты,
й ёсьць,
і будзеш,
Беларусь!

---

С. ЮСТАПЧЫК

# БЕЗРУЧ

**АПАВЯДАНЬНЕ. *)**

I.

Стася Крыўчык, або, як яе тут звалі, проста «Таська», старэйшая піянэр-важачая махорчнае хвабрыкі «Сьмерць фашыстым», пахопіста зьбегла рыплівымі драўлянымі сходамі, быццам уцякаючы ад каго ці чаго, і такжа імкліва ўварвалася ў свой «маладзежны» «габінэт» — адбіты фанераю цесны закутак пад сходамі на цёмным і запаскуджаным хвабрычным калідоры.

Як ніколі бадай, было ёй прыкра пасьля гэтае во гаворкі-«споведзі», наганы ў свайго палітычнага начальства й «духовага апякуна», парторга хвабрыкі. І яна адразу хапілася за першае, найбольш даступное і ўжо даўно прывычнае, што магло хоць крыху прагнаць гэтую прыкрасьць. Скручваючы «казіную ножку» й насыпаючы ў яе буйных карашкоў «айчыннае» хвабрычнае прадукцыі із сьвежа пачатага пачка, яна сама сабою перанеслася да таго, чым пачалася сяньняшняя «споведзь». Таварыш Архарэйчыкаў, «Ай-халерачка», як больш зласьліва, чым пясьліва перакручвалі міжсобку ягонае й без таго падкручанае прозьвішча работніцы, пачаў сяньня, дабіраючыся «да каранёў», якраз ад гэтых няшчасных карашкоў... Як гэта можна, каб піянэрважачая, якая так прыкладна заўсёды і ўсюды носіць яшчэ піянэрскі чырвоны гальштук, адначасна ня толькі не давала прыкладу, але сама так нахабна парушала адзін з асноўных піянэрскіх законаў: «Піянэр ня курыць».

Падумаць, які... маралісты. Як-бы піянэрважачая, дык яшчэ старэйшая важачая, мусіць навек заставацца піянэркаю, быццам тэю старою дзеўкаю, і шанаваць гэныя «законы», якія сама тая малеча імкнецца скрозь і адразу парушыць, можа яшчэ ахватней таму, што яны — «законы». Зрэшты, і Стася сама пачынала — дый ці толькі гэта... — яшчэ піянэркаю... Але й цяпер яна пры сваіх гадунцох ніколі ня курыць. Наадварот, пільна сочыць захаваньне ўсіх «законаў», і гутаркі праводзіла — усё, як трэба... Што праўда, дык шыла ў мяшку ад гэтых шылахвостаў ня вельмі што схаваеш.. І было-ж, што якраз па такой маральна-навучальнай гутарцы гэтае вашанё, Віцька, як-бы й ня лыс, спытаўся: «Тася, а чаму ў цябе пальцы такія рудыя, як у...» І ён зацяўся перад параўнаньнем ,ато хто яго ведае. што яшчэ на думцы меў.. Усё дагледзяць! І ўсё гэта — з такім бязьвінным, анельскім выглядам, як і пры іншай гаворцы: «Стася, а чаму ў нас мамкі розныя, а бацька адзін — таварыш Сталін?» А такі ўжо здаецца, цяльпукаваты, шапятлявы Савук — і той «памог» ёй: «Бо насы бацькі на вайне, а яны — дык... не». Вось тут і паспрабуй выкруціцца з гонарам, гэта табе ня з пальцамі... А мо яшчэ й «арганізавана», згаварыўшыся, яе «разыйгралі». Зрэшты, у глыбі Стася тады толькі сьмяялася й адчула аж здавальненьне ад такое ўжо «палітычнае падкаванасьці» гэтых сваіх «кноцікаў», як яна іх сабе звала. І тым больш там-жа, у глыбі, так абуралі ўсе тыя «законы» й «споведзі» а ўжо як сяньня...

Стася моцна зацягнулася ядучым карашковым дымам. «Кінуць трэба!» Ну, гэта няхай сабе сам кідае, што там хоча ці каго хоча... Навет есьці пакінуць могбы, мо іншым пабольшала-б... А зь яе гэтага ня выб'е навет, як калісь цётка, у якой гадавалася, біла, залавіўшы на першых спробах, дык толькі хіба ўбіла, а ня выбіла. Дый у сяньняшнім, такім галодна-посным жыцьці — гэта-ж адзінае, ня тое, каб забаўка ці прыемнасьць, а проста падтрыманьне навет. Балазе яшчэ тут, на хвабрыцы, каля гэтага ходзячы, — хоць адно яно, у чым нястачы няма. А што, трэ было спытацца, калі-б кінула, мо цукеркі ёй прыносіў-бы? Як цяпер гэтай сваёй варопаўцы булачкі із «зачыненага» аж у цэх ціхама плішчыць... Толькі што дэ салодкага Стася нек змалку ня сквапная, а ўсё больш на горычы й гадавалася...

Ды ці варта над гэтым так доўга галовіцца? І ў «споведзі» не яно-ж галоўнае было а толькі пачатак, зачапка... Дый сам «Халерны» мусіць толькі для вагі прыплёў, каб падабрацъ адно да аднаго як мага больш прыкрасьці... Бо ці-ж сяньня курыць Стася, і ці сяньня ён аб гэтым даведаўся?

Яна зацягнулася яшчэ мацней... Пальцы, праўда, вельмі ўбурэлі ад гэтых карашкоў і «казіных ножак», праўда, як у нечым... Дый бяз гэтага ці можна было-б сяньня пачуваць іх зусім чыстымі? То-ж бо так і змушаюць лезьці проста гэтымі пальцамі ў нешта такое... і поркацца, цёпкацца, пэцкацца там...

«А як із заданьнем?» Вось яно якраз — гэткае «заданьне»: улезьці ў душу чалавеку й старацца нйўзнак выцягці адтуль ды канечна сама чорнае, навет гадкае, паскуднае — як пальцамі ўсяроўна... А чалавек ужо й так, дармо, што малады, а скрыўджаны доляй, вайною, скалечаны, абязручаны ёю... І — свой чалавек. За гэтулькі год упяршыню назваў яе так, як дома калісь звалі, як сама ўжо блізу што й забылася: Стася... «Мы-ж, здаецца, землякі з Вамі, Стася?»

І ў яе перад вачыма паўстаў такі заўсёды засмучаны, як жаласьлівы нейкі ці жалю годны — і тады, як пытаўся гэта... Каму якая небясьпека ці прыкрасьць можа быць ад такога? А гэта-ж яго якраз, здэмабілізаванага дзеля інваліднасьці й прысланага сюды, на хвабрыку, за інжынэра, яго, ардэнаносца навет, адразу-ж «абранага» за «правадыра моладзі» — «камсорга», а ўсяроўна — партыйнае начальства даручыла «пільна вывучаць» Стасі... Што-ж, калі ходзіць аб вывучэньне — дык і вывучала, дый з усё большай цікавасьцяй, толькі — для сябе...

А «на споведзі» сяньня сказала, што... Нічога ня можа сказаць, апрача добрага. Праўда, засьцераглася: «яшчэ»... Бо-ожухна, і ўдаўся-ж у сваю ўлюблёную філёзофію «Ай-халерачка!» Ажно ў глыб вякоў сягнуў, самога Рыму хапіў старавечнага. Яшчэ Рымляне, кажа, вымагалі, каб пра нябожчыкаў — толькі добрае гаварыць, або нічога. Пра жывога-ж чалавека заўсёды нешта сказаць можна, і заўсёды нешта благое... Калі пра жывога кажуць адно добрае, або нічога ня кажуць, значыцца, ён ужо нябожчык...

Стася ўсьміхнулася й цяпер, успомніўшы, як тут у яе прамільгнула й ледзь ня выскачыла, бы ў таго піянэра Віцькі: «А як-жа із... таварышам Сталінам?»

Ды той раскручваў усё далей: «Ого, гэты яшчэ далёка не нябожчык, дармо, што адну руку ўжо адчэкалі. Гэта толькі звонку выглядае такі ціхамля. Заўсёды такія ціхія пад глыбокі карэнь рыюць. А гэты можа, мусіць навет пад найглыбейшы пароць. Ня можа быць, каб, пакрыўджаны, не затаіў крыўды й злосьці... Сваёй-жа артылерыяй, ня варагавай, руку адарвала... Ордэн што — ня носіць навет ніколі, а зноў-жа, чаму ня носіць? А чаму няма запраўднага разгортаньня камсамольскае працы, мабілізацыі масы работніцаў-камсамолак на ўдарны штурм выкананьня пляну, выхад із заўсёднага прарыву — што, на гэта — дык канечна абедзьве рукі трэба? ў камсамоле — парарастак, а пра партыю — ані мур-мур»... Спрабавала бараніць, хоць і асьцярожна, ды лепш-бы й зусім ня кратала — толькі сама напрасілася на большую прыкрасьць сабе-ж. Так плюгава прыплюшчыўшы свае кругленькія трусіныя вочкі, круцячы, як заўсёды, пальцамі «млынок», гадзенька высмакаваў: ці не закахалася ўжо яна ў гэтым інжынэрыку?

Поскудзь!

І з гэтага навет — адразу робіць ужо й «заданьне»: «Трэба выкарыстаць і гэта, калі так сталася»... Плюнуць, харкнуць трэ было ў гэтыя плюгавыя вочкі, «вы-

*) Першыя разьдзелы друкаваліся ў рататарным часапісе «Шыпшына», але зь некаторымі зьменамі артадаксальнае цэнзуры гэнага часапісу. — Аўтар.

карыстаць» іх так, да чаго толькі й годныя... Як адно стрымалася... Праўда, нагаварыць — нагаварыла, насыпала добра...

...Не, а паважна бяручы — каб закахацца ў такім... Шкадаваць хіба — можна, паважаць — дык напэўна... «Безруч няшчасная» — прадражнілі работніцы, і зь нейкай аж нянавісьцяй, хоць не зрабіў-жа аніводнай зь іх анічагенька... І, мусіць, якраз таму... Маладыя дзявулі, на цяперашнім бязмужчыньні, як згладанелыя, кідаюцца на кажнага, хай-бы й бязрукі... А тут — адразу выявілася, што яшчэ горш, як бязрукі...

Ну, Стася дык гэтым ня цікавіцца. Хоць і «каханьне» — якое кніжнае слова! А ў гэных «халерных» вуснах — проста зьдзек, як і ўся тая «філёзофія»... Дый наагул, ці было калі ня гэткім і ня ў кніжках? У сваім, не такім ужо бедным на розныя дазнаньні жыцьці Стася бачыла толькі, як «гуляюць»... Ну, і сама, пэўна-ж... таксама «гуляла», ды навет ня зусім, каб з адным толькі... Цяпер — вайна разьмяла-раскідала ўсіх, і навет ані ўспамянецца, ані ікнецца... Наагул зусім да гэтага аніякай цікавасьці няма... Мо таму, што ніразу яшчэ да нічога не «дагулялася»... А «не дагулялася» таму, што...

— Тася, «парцёр» клічуць-

Стася аж здрыгнулася — за ўсімі думкамі яна й не спасьцерагла, як гэта ўсунула галаву сюды «прыбіральніца-кур'ер», цётка Лахуціха.

— Іду.

Ізноў! І якая там яшчэ яго «халерачка» ці трасца хапіла? І што — працяг, паўтор, «новая кружэлка», ці мо — «адбой»? Дудкі! На добрае што, дзеўка, не спадзявайся — «ай-халерачка»-ж!»

Параю зацяжак узасаб Стася дакурыла сваю «казіную ножку» і, прытушваючы яе ў вечку нейкае бляшанкі, што заступала тут попелку, другой рукой, міжнародным і адвечным дзявоцкім звычаем дастала кішэнны люстэрак. Адтуль глянуў на яе знаёмы круглавіды, жаўтаваты крыху ад прафэсіі тварык. Прывычна паправіла завіткі ў тон яму жоўтых-жа, колеру сьпелага жыта, кудзеркаў, што выбіваліся, выпушчаныя, быццам-бы й незнарок, спад павязанае па валасох хусьцінкі. З тонкіх наздрынаў узарванага крыху ўгару насочка таксама выбіваліся яшчэ апошнія, такія самыя завіткі-кудзеркі шызаватага дыму.

— Кірпатая! — звычайнай поўгрэблівай-поўпясьлівай «самакрытыкай» закончыла Стася свой абеглы агляд, і паймчалася на гару, па гэтак часта за дзень аббяганых рыплівых сходах.

II.

— Ну, і «перавыканала норму» дзяўчына — аж сіня ад махры! — і камсорг, інжынэр Бярэзьвіч — тая самая «безруч няшчасная» — намагаўся сваёй адзінай рукой адкруціць заклямку ў вакне й адчыніць яго, каб крыху праветрыць кагадзе пакіненыя Стасяю іхныя агульныя «ўрадавыя апартамэнты» — той «маладзежны габінэт» пад сходамі. Ды аднэй рукой, яшчэ левай наверх, ня было як даць рады. І гэта ўжо было больш прыкра, як той карашковы дым — прыкра так балючым, частым цяпер адчуваньнем свае няпоўнавартаснасьці, тае «няшчаснае безручы»...

Расьцьвелены, пакінуў інжынэр непадаўкое вакно. Наагул, як гэта часам дурніна ўмее паварочвацца калі ня прыкрасьцяй, дык прыкраватасьцяй. Вось і гэтая дзяўчына. Сама — нішто, слаўная можа навет дзяўчына. Ды напару рэзьне так нечым, ня зусім, каб вульгарным, але каля таго — не дзявоцкім нечым. «Карашкі» — гэта яшчэ дармо, тут ужо барджджэй прафэсія можа — усе-ж работніцы тут прывыкаюць спажываць сваю-ж прадукцыю, але бывае часам нешта такое ў гаворцы, у вабыходках штосьці... Найчасьцей сама яна, мусіць, і ня ўсьведамляе гэтага, хоць калі-ні-калі й відаць, як паўстрымваецца яшчэ — шануючыся й яго, пэўна... Ды чаго спаганяць зь яе — гадунца дзіцячага дому, ледзь ня вуліцы. Ня ўсім-жа далося ўзрасьці так, як яму — на кніжках і вершах, на вынесе духовай адзінотна загубленага сярод бурапены «вялікай эпохі» археічнага оазісу «дому вучоных»... Не, усё-ткі дзяўчына — нішто, свойская дзяўчына, і мае рэдкую цяпер здольнасьць пасвойму адчуваць і думаць навет. Каб гэта так была ў жыцьці цікавасьць і ня было гэтае во абязьвечанасьці —«безруч няшчасная!» — можна-б і бліжэй падыйсьці, з удзячнаю навет задачаю — адшліфаваць гэты, хто яго ведае, — мо й запраўдны, прыродны самародак, згладзіць гэныя кантаватасьці, узгадаваць чалавека й прыяцеля... А як цяпер — дык лепш ня трэба, ня варта наражацца на ўсё магчымае. Балазей так, толькі із самым сабой, у самым сабе, хіба што —назіраць спакойна збоку, із сьцюдзёным, чыста-навуковым цікаваньнем дасьледніка... Толькі гэтак.

На камсоргаўскім стале ляжала сьвежая паперка з райкому. Ну, але, зноў сход у сыботу склікаць. Даклад таварыша Наваліхіна, самога сакратара РК — «Задачы мірнага будаўніцтва й камсамол». Божа мой, якая нуда! Усё адно й тое, адно й тое, даўно ведамае, сотні-тысячы разоў перачутае — усёдна, ці «мірнае», ці «ваеннае», ці яшчэ й «даваеннае». Як-бы барджджэй збыць гэтыя ўсе пачэсныя й непачэсныя «грамадзкія павіннасьці»! Адно, што — не выпадае... Ну, але із партыяй — няхай гэты Архарэйчыкаў дасьць сьвяты спакой, усяроўна, нічога ня выскурае... Трэ будзе біць усё ў вадзін бубен — «не пачуваю сябе дасьпелым, годным, адпаведным»... І досыць ужо — досыць і наваяваўся, і калекім навек застаўся — няхай іншыя каторыя, каму й падабаецца...

— Ага, вось яна! Ну й надымілі-ж Вы тутака, таварышка важачая — зусім не папіянэрску! Я ўжо хацеў вакно адчыняць, ды... ляўшун я цяпер, а тут трэба, відаць, моцнае правіцы, — прывітаў камсорг сваю супрацаўніцу, якая вярнулася із другой «споведзі» ўжо ня так узбуджанай, а наадварот, барджджэй стомленай, нек абвялай.

— Ах, і Вы таксама на мяне, і ўсё з тым самым! Ну, і надыміла, ну і буду, — раптам пачала раздражняцца яна, — буду, што буду, і ня буду, чаго ня буду, і клямка. І як усе і ўсё дадзела, апрыкрала, абрыдзела — вух! — і Стася апусьцілася на сваё крэсла ды закрыла твар рукамі.

Бярэзьвіч не чакаў такога звароту й пачуўся вельмі ніякавата. Ён зусім не хацеў выгаворваць дзяўчыне й крыўдзіць яе, дый тон узяў якраз проста жартаўлівы, сяброўскі. Але, відаць ёй нехта ўжо «стварыў настрой», і жартаўлівасьць лучыла зусім няўпотрап. Трэ было залагоджваць.

— Што з Вамі, даражэнькая? Ці ня скрыўдзіў хто? Мо ад нас — ад «старэйшага брата» — памога якая была-б на часе? А я-ж нічога, і што дым — пустое... Наадварот, магу вось навет пачаставаць Вас зараз нейкім «вышэйшым гатункам» — сяньня адзін із «баёвых сяброў» пакінуў, спэцыяльна на пачастунак гасьцей...

— Не дзякуй, і я нічога... Проста так, бывае-ж... — Стася адняла рукі й слаба ўсьміхнулася яму. — Не, дзякуй, нашыя карашкі лепш, — адмовілася яна ад працягванага камсоргам пачастунку рэдкімі цяпер на вольным рынку папяросамі «вышэйшага гатунку».

— Ну, пэўна-ж, Вы — патрыётка нашае хвабрыкі, гэта вельмі ўхвальна, а ўсё-ткі — «на міравую», як кажуць, — набіваўся ён.

— Не, праўда-ж, не абразьцеся, але ўсе гэтыя «гатункі» — як сена, не накурыцца так, як гэтай во нашай «айчыннай крупкай», — Стася і ўзялася ўжо за гэты свой ласунак, зусім забыўшыся на так і не праветраны пакой. — І наагул, — Вы доўга маніцёся тут сядзець? — зьмяніла яна гаворку, закурыўшы.

— А што, і праўда «выкурыць» надумаліся? Што-ж, калі мая асоба тут непажаданая, ці што... дык я зараз-жа...

— О, не, які Вы заўсёды... Вось Вам хочацца сьвежага паветра, і я прайшлася-б цяпер з ахвотаю...

— Гэта значыцца — разам? Выбег на ўлоньне прыроды ў прыемным таварысьцьве? На гэта я заўсёды гатовы з радасьцяй, а сядзець — і праўда, няма больш

чаго, можна сяньня зачыняць каапэратыву й разьвеяцца крыху...

— Дык — гайда-ж! — ажывілася Стася. — Мо памагчы што? — запрапанавала яна, як заўсёды, бачачы, як няспрытна яму ўпраўляцца аднэй рукою, ды не адчуваючы, што для яго гэта кажны раз толькі прыкры напамінак на ягоную недалужнасьць.

— Не, шчыра дзякую, дам рады і ўваднаруч. Вось толькі прашу прабачыць, што не магу запрапанаваць рукі, як гэта належыцца выврабленаму кавалеру на праходцы. Хіба што гэтае вось пустое рукаво? — ня зьбіваўся ўсё-ж із жартаўлівага тону інжынэр.

— Ну, гэта зусім не канечна, — расьсьмяялася Стася. І тут-жа спахмурнеўшы, пачала гаварыць, ізноў не ўважаючы, што гаворыць сваё, якое аднак іншаму можа быць і прыкрым: — А ведаеце, што ня толькі Вам нязручна... бяз рукі. Вось і я нядаўна, сяньня, адчула, як гэта прыкра часам — ня мець рук. Ну, гэта што, што ў мяне вось яны, тут абедзьве... — яна зацягнулася й гаварыла далей з дымам: — Не, няма, і ў мяне няма такіх рук, якімі можна было-б — разумееце — шалёстаць некага вось так, па мардасах, у правую і ў левую, і правай і левай, ці навет душыць, душыць, каб аж вочы налаб... Такая.. безруч няшчасная, — закончыла яна, і ўжо тут толькі схамянулася, што можа й нядобра сказала. Асабліва з гэтай «безручай» — хоць, бадай, ці ведае ён сваю тутэйшую мянушку.

Аднак, зірнуўшы на Бярэзьвіча, Стася пазнала, ці барджджэй адчула, што яму навет спадабалася гэтая палкая ейная тырада, і ён зусім спачувае і ейным словам і ёй наагул.

— Эге, Вас ткі сяньня нехта пачаставаў чымсьці смачненькім, што аж такія першабытныя інстынкты... І дарма, зусім дарма ня хочаце зьверыцца мне пасяброўску — заўсёды лягчэй разважыцца ўдваіх.

— Якраз, Вы тут — самы той, каму можна з гэтым зьверыцца...

— Даражэнькая, мне выпадае ўжо тут і пакрыўдзіцца...

— Не, о не, я зусім ня ў тым сэньсе.. І наагул, давайце аб гэтым больш ня будзем, зусім ня будзем, добра? Ды нічога й няма такога, нічога й ня было, усё пройдзе, усё прайшло ўжо навет... І, нарэшце, калі йсьці дык ісьці — наперад, таварыш кавалер, «старэйшы брат», кіраўнік і так далей — наперад, на сьвежае паветра!

І Стася зьлёгку падпіхнула яго да выхаду, паўабняўшы на мамэнт аднэй рукою за плечы.

## III.

Аніяк ня спалася Стасі пасьля гэтай, неспадзявана аж за поўнач задоўжанай праходкі зь Бярэзьвічам. Гэта была ўжо ня першая іхная праходка — Стася практыкавала іх зрэдку й раней, калі толькі ўдавалася выцягнуць на сьвежае паветра наагул ня вельмі ахвочага да такіх пагулянак, больш даматурлівага інжынэра. Практыкавала, пэўна-ж, у парадку таго «вывучэньня» й «заданьня», як і гэтым разам, пасьля апошніх «споведзяў» парторга й ягонае нагонкі. Хаця якраз гэтым разам ёй асабліва ніякава было прызнацца навет самой сабе ў такіх спачатных пабуджальных матывах усяго сяброўства зь інжынэрам. Супакойвала адно, што сяньня гэныя матывы ня былі наперадзе, наагул адыйшлі вельмі назад, дый нарэшце зыйшлі зусім прочкі, адцісьненыя нечым іншым і большым. Можа, тым самым... «кніжным»? І ў гэтым прызнацца было-б, бадай, яшчэ ніякавей, прост ужо аж нек сорамна, навет — крыху старшнавата... А тыя... тыя гадкія й чужыя матывы, калі можа й былі, дык хіба толькі на сама на пачатку, пад сьвежым уражаньнем «споведзяў» і «заданьняў», дый барджджэй зусім падсьвядома, ці проста зь інэрцыі, мо й з традыцыі, з прывычкі ўжо...

А так-ого! — за гэтым разам Стася магла-б выканаць тое «заданьне», выканаць навет бліскуча, што аж самога «Ай-халерачку» запраўдная халера хапіла-б... Толькі, што якраз цяпер, калі Стася магла-б гэта зрабіць, яна ня можа, ня можа ўжо й ня будзе, нізашта ня будзе...

Яна зноў запаліла сьвятло й зноў, каторы ўжо раз гэтае начы, бралася за сваю неадменную «казіную ножку»... Але не памагала, нэрвы ня суцішаліся, толькі цяжэла галава, а сон ня йшоў, быццам ня мог прайсьціпрабіцца праз рой гэтых мяшаных і часам навет супярэчных пачуцьцяў і думак, што апанавалі й ніяк не адпушчалі.

Найчасьцей усплывала наўзьверх і найбольш спраўляла прыкрасьці пачуцьцё нейкай абразы, дзявоцкай крыўды, якое давялося перажыць ад яго ўчора. І тут Стася навет далучалася зусім да тых сяброўак із хвабрыкі, што зласьліва дражнілі інжынэра «Безруч няшчасная». Запраўды, якая недалужная безруч, «безмуж», ці што. Калі дзяўчына сама й зусім шчыра, зусім бескарысьліва, зусім падсьведама, навет неспасьцярожна для сябе самой хацела... ну, прыгарнуць яго, падзявоцку прылашчыць і самой прылашчыцца пад уражаньнем узаемнага «раскрыцьця душы», калі знайшліся й супольныя перажываньні, невясёлыя сытуацыі, падобныя горнасьці, маленькія ўцехі ў мінулым — ён аж зьбянтэжыўся, аж спалохаўся, аж запрасіўся: «Ня варта, Стася, ня трэба так... Лепш бяз гэтага, проста, як сябры, як людзі, цьвярозыя людзі, што запраўды паважаюць і цэняць адзін аднаго, дый толькі...». І тут-жа спалохаўся яшчэ больш, як-бы й схамянуўся, пачаў прасіць выбачэньня, тлумачыцца, каб не зразумела блага, як нейкую сухасьць і чэрствасьць, ці няпрыязнасьць. І яна — і яна, заміж таго, каб зараз-жа пакрыўдзіцца й горда пакрыўдзіцца — таксама пачала і таксама зьбянтэжана лапатаць аб нейкім выбачэньні яе, таксама перапрашаць — яго... У чым? Што выявілася дзяўчынаю, гэта значыць — самой сабой, і то — зусім шчыра й неадвольна? А-ёй, якою-ж удалася тады дурной-дурнілкаю! І за гэна, за гэтае нейкае дзявоцкае самазьневажэньне, пачувалася найбольшая крыўда й навет злосьць да яго, да тае «безручы няшчаснай». Гэта было страшэнна прыкрым, пагатоў, што не падтрымвалася нічым больш ува ўсёй учарайшай гутарцы, а было толькі эпізодам, благім эпізодам на фоне ўсяго іншага, такога добрага й сьветлага. Дык і нельга было спыніцца на ім, каб хоць, можа й штучна, разьдзьмухаць у запраўдную злосьць ды на ёй ужо задаволіцца й супакоіцца. Мо гэтак і найлепш было-б для яе із шмат-шмат якіх бакоў (навет і з боку «заданьня» — якога-б ня было, а ўсё-ж — абавязку...). Але спыніцца нельга было, як і нельга было зусім прагнаць — праганянае, варочалася-ўсплывала зноў, зноў дапякала. Не памагала й развага з другога боку, цьвярозая развага, якая зусім добра казала, што злосьць тут павінна быць, навет вялікая злосьць, гнеў, мо й сьвяты гнеў — ды не на яго, а на абставіны, на тыя абставіны, што спрычынілі й тую «безруч» і гэтае «заданьне», і вызначаюць увесь ход і характар іхных узаемадачыненьняў, дый жыцьця кажнага зь іх упаасобку наагул. Бо гэта была толькі развага. Як можа быць гнеў, жывая злосьць на няжывыя абставіны, а не на людзей, на пэўнага чалавека? І калі навет і тут за абставінамі ў рэшце рэштаў стаяць таксама людзі — таксама чалавек навет, той чалавек, імя ягога страшна навет вымавіць самой сабе ня ў добрым злучэньні, не ў арэоле хвалы й бадай сьвятасьці, — таварыш Ст.. — дык як дабрацца туды з гэтай злосьцяй? Такая злосьць, задалёка сьціраваная злосьць, толькі варочаецца на самую сябе, на сваё собскае бясьсільле, на тую ўсеагульную «безруч», пра якую сказала яму ўчора пад уражаньнем на выхадзе, і так спадабалася гэтым, што ўспомніў слова-ў-слова на праходцы й хваліў, як надзвычай трапна сказанае...

...Але, гэта быў вораг. Ня ейны, пэўна, а іхны — зрэшты, такі самы, як і яна, толькі, што яна да ўчарайшага, да гэтае гаворкі зь ім, не прадумвала ніколі глыбака гэтага, ня злучала паасобных пачуцьцяў і перажываньняў у сьцяг-ланцуг, у сыстэму суцэльнае варожасьці. І гэта мо была найбольшая роўніца сутыку між ім і ёю, якая цягнула за сабою ўсё. У гэтым так неспа-

дзявана ўчора й раскрыліся адно перад адным. Ён прызнаўся ёй навет у тым, што так старэнна й так удала хаваў ад усіх датуль. Расказаў, як ні за што, ні праз што хапілі былі ягонага бацьку-прафэсара, калі сам ён яшчэ быў хлапчуком, зьвінавацілі ў нейкім нацыянал-дэмакратызьме, і недзе схавалі-зьнішчылі. Як затаіў ад таго часу крыўду й мусіў таіць навет самы факт, каб здабыць сабе вышэйшую асьвету ці інжынэрскі дыплём. Як ненавідзеў, але й дрыжэў, і як цешыўся, што так добра ўдалося, і дагэтуль ніхто й не падазрае, яна толькі знае цяпер адна й першая, але-ж яна... І пэўна — думала сабе ў дужках — яна — не, цяпер — не, але — магла-ж бы... А далей расказаў, як і на вайне адразу хацеў падацца ў палон, каб не змагацца разам із сваймі крыўднікамі, з бацькавымі забойцамі. І толькі, калі ў вадным, часова адбітым ад Немцаў мястэчку пабачыў на свае вочы трупы пастраляных гітлераўцамі палонных, у што раней ніяк ня верыў — пачаў ваяваць із перакананьня, хоць і па баку сваіх старых варагоў, за іх. Прызнаўся, як ненавідзіць гэтую ахвярваную яму бляшку — ордэн, якой проста хацелі адкупіцца за калецтва, непапраўнае й неакупнае, пагатоў, што прычыненае не супраціўнікам у баі, а сваймі-ж, у выніку хваленае «арганізаванасьці», «прадбачлівасьці», «спраўнасьці», «стратэгічнае ўвязкі»...

Вось каб гэта ўсё апісаць таму «халернаму» ў справаздачы-характарыстыцы, якую вымагаў ад яе на заўтра канечна, паклікаўшы ўчора за другім разам! Не, цяпер ужо ня выскурае нічога. Ворага чуе, разгадаў, разьнюхаў, ды няхай паспрабуе — укусіць. Што праўда, дык і пераацэньвае, хоць правільна здагадваецца аб галоўным. Не, на большае, як здацца ў палон — такога ня стане. Ні на пратэст, ні на бунт, ні на сабатаж навет... Дый ня толькі для яго, а й для ўсіх — у вабставінах гэтае ўсеагульнае «безручы» — ці магчымая гэта рэчы? Хіба, што толькі для зусім бясьцямных, для вар'ятаў, дык які з гэтага толк?

Толькі што не ў вадным ім разгадаў ворага парторг: ці не разгадвае, ці не разгадае і ў ёй? Асабліва, калі заўтра не дастане вымаганае характарыстыкі — а не дастане-ж, прынамся такой, як хоча і як трэба дый можна было-б даць — не дастане, хоць-бы й луснуў. І тут Стасю мучыла ўжо другое: чаму яна, у вадказ на поўную інжынэраву шчырасьць, ня была сама шчыраю зь ім да канца, чаму не расказала ўсё пра сваё «заданьне»? Бо гэта-ж ня проста так, бо відаць-жа, цяпер асабліва — зьбіраюцца над ягонаю галавой хмары, калі так сьпешна спатрэбілася характарыстыка, і канечна адмоўная, калі на яе так націскае «Ай-халерачка»... І найгорш, што, як цяпер перакаалася сама Стася — не без асноваў гэта ўсё, далёка не... Дык пагатоў трэ было перасьцерагчы, папярэдзіць яго. У яе ўжо навет зусім было на языку, асабліва, калі ўзгаварыліся былі пра той ордэн, і яна пачала раптам прасіць яго, каб усё-ж хоць калі-не-калі, а начапляў тую бляшку дзеля гадзіся. Ён ніяк ня мог зразумець, чаму ёй так на гэтым залежыць, а яна не магла вытлумачыць, не расказаўшы хоць-бы пра ўчарайшую гаворку з парторгам. І хоць вельмі карцела ёй расказаць, але нек паўстрымалася, упёршы ўсе свае тлумачэньні ў дзіцяча-дзявочае, удана-наіўнае наравістае «так, ну так, проста так», чым расьсьмяшыла яго й можа навет паўней дасягнула гэтае свае маленькае мэты: із сьмехам дакляраваў навет заўтра зрабіць ёй прыемнасьць і здаволіць гэтую дзіцячую прыхамаць... А каб расказаць усё — было сорам... Дый ці-ж ня сорам запраўды, што прыймае на сябе, бярэць да выкананьня такія «заданьні», замест таго, каб горда адшпурнуць адразу самую прапанову — бо такія-ж «абавязкі» не ўваходзяць у ніводзін пісаны статут ніводнае партыйнае ці адпартыйнае арганізацыі. Ды то-ж бо й то, што няпісаныя рэчы заўсёды мацнейшыя, і ад іх — паспрабуй — выкруціся... І перад імі — безруч, усё тая самая безруч...

А зрэшты, так яму, можа, і трэба — хоць-бы ў вадплату за тую ейную крыўду... І Стася на мамэнт пачула навет нейкае імсьлівае задавальненьне ў гэтым, задавальненьне як-бы ад свае вышэйшасьці, якую выявіла быццам-бы тут над ім: аказалася на язык мацнейшаю, дзяўчына — за мужчыну, ня ўсё яму выпахтала, як ён ёй... Ды гэта толькі на мамэнт: усё-ж трэ было-б сказаць, і мусіць, трэ будзе... Заўтра хіба?

...А наагул — усё гэта — што такое й што тут да чаго? Асабліва ня гэта, што вось можна назваць, выказаць і разважыць над ім, і мучыцца можа, ня спаць — а нешта іншае, што неяк цягнецца-сьцелецца па-за гэтым, нейкае яшчэ цьмяна-нявыразнае, шэрае, а якбы прыемна-мяккое, ваўністае, і бадай ня мучыць, і ня шчыміць, а нек абвівае, агортае... Хіба? Але, у кніжках, у кіно паказваюць — нешта падобнае? Ды ці праўда, што гэта так ужо кніжнае, што ня можна пакахаць і такога, як думала яшчэ ўчора?

Стася зноў загасіла сьвятло. І раптоўная цемра, быццам сьціраючы з дошкі памяці ўсе думкі й развагі, працёрла-высьвятліла, так-жа раптам, гэтак яскрава-выразна — як жывы — на ўвесь рост — ягоны вобраз. І навет больш, як на ўвесь рост, як-бы яшчэ ўзрослы раптам увышкі, выпраставаны, не засмучона-мэлянхалічны і не жартаўліва-гіранічны, а нейкі загадна-валадарны. І той і ня той... Можа, больш навет ня той — нат няма гэтага пустога рукава, затканага ў кішаню — няма «безручы няшчаснай»... Ды не — і той, тыя самыя, прасьветленыя з нутра, інтэлігентныя рысы твару, тыя самыя глыбокія чорныя вочы, той самы пагляд іх — пранікілвы, з нутра ў нутро... Той, той — дармо, што працягвае тую правіцу, якой няма ў яго, працягвае й кліча-паказвае — устаць і йсьці — клічагадвае... І Стася пойдзе за ім, зусім пакорная, радая навет гэтай пакорнасьці — гэтай безручы новай, што хіба зь яго на яе перайшла, толькі слаўна-салодкая такая... Але, пойдзе, ужо йдзе, падаецца некуды ў тое, што цягнецца-сьцелецца, нейкае яшчэ цьмяна-нявыразнае, шэрае, а прыемна-мяккое, ваўністае, і ўжо ня мучыць, ані ня мучыць, а абвівае, агортае-ахутвае нарэшце ў жаданы, а моцны прадранішні сон.

## IV.

Стася спала доўга і, пэўна, спала-б яшчэ даўжэй, магла спаць, прынамся, бо ў цэху ў яе якраз быў выходны, а зь піянэрыяй таксама нічога тэрміновага не прадбачылася. Але яе ўзбудзіла, і ледзь дабудзілася, «прыбіральніца-кур'ер», цётка Лахуціха, і зноў із тым самым: «парцёр» клічуць, і то як найбарджэй. Толькі во з гадзіну сядзеў зачыніўшыся із сваёю варопаўкаю, а цяпер Стасю кліча. Глядзі, мо дабірае сабе, каторая зь дзьвюх мілей, бо нешта па Стасю ўчасьціў і нат із цёпленькае пасьцелькі зрывае? — хітра падміргвала языклівая, ласая на ўсякія плёткі й чуткі цётка Лахуціха. Іншым разам Стася мо й абрэзала-б добра гэтую старую лахту на такіх дурных здогадках, але сяньня прачнулася яна адразу, хоць і гвалтам узбуджаная, а нейкая такая супакоеная й недражлівая, што ўсяго толькі пажадала, каб той, хто паслаў цётку сюды, «дабраў»-бы сабе лепш скулу на як выгаднейшым месцы. Лахуціха ахвоча далучылася да такога зычлівага пажаданьня, і засьпяшалася далей у сваіх «кульерскіх» справах.

Зусім супакойнай і роўнай у настроі пайшла Стася на хвабрыку, ані не загадваючыся й ня турбуючыся, навошта яна спатрэбілася зноў і то так тэрмінова. Па ўчарайшым такім хаосе ў начных думках і пачуцьцях сяньня нек сама сабою ўстанавілася ў яе спакойная й празрыстая, запраўды ранішняя яснасьць. Нагэтулькі яснасьць і нагэтулькі празрыстая, што ані ня было патрэбы навет уфармоўваць і выражаць яе сабе самой у думках ці словах. Патрэбныя водрухі й чыны, здавалася, самі мусілі-б выплываць із гэтае яснасьці на выклік тых ці іншых абставінаў, і выплываць зусім аўтаматычна ў зусім адназначна, безь якіх-небудзь хістаньняў. Гэта быў такі глыбокі й такі адхланны супакой, супакой поўнае пэўнасьці ў сабе і ўва ўсім, чысты, як кажуць, «сьвяты супакой» — настрой, якога даўно Стася ня знала й якому цяпер толькі ціха цешылася.

Яна й ішла памаленьку й нек асьцярожна, быццам баючыся навет шпаркім і пахопістым рухам зварухнуць, парушыць гэтае прыемнае духовае адхланьне.

— Што гэта значыць — дрыхнуць аж дагэтуль і сьпяшацца, як на заўтрае трэба, калі клічуць тэрмінова? — сустрэў яе, прамацваючы наскрозь сваймі гадзенькімі кругленькімі вочкамі, «Ай-халерачка». Толькі сяньня й ягоныя вочкі, здавалася, адскоквалі адразу ад новай, супакойна-выпрастанай Стасінай паставы. — Ёсьць навіны, — працягнуў ён, бяручыся за сваё звычайнае ўлюблёнае кручэньне «млынка» пальцамі зашчэпленых на чэраве рук. І можа ў тон гэтаму заўсёднаму свайму «млынку» парторг меў звычай гаварыць так манатонна, проста «дудукаць», што не заўсёды можна было ўхапіць у ягонай гаворцы пэўную якую-небудзь інтанацыю. І цяпер, Стася ня ведала, што гэта — ці ён пытаецца пра навіны ў яе, ці сам хоча нешта новае паведаміць. На ўсякі выпадак, яна роўна й памалу, дабітна адказала:

— У мяне ўсё пастарому.

— Не, ёсьць навіны, — выясьніў ужо за гэтым разам, прыцiскаючы, сьцьвярджальнасьць сказу парторг. — А як характарыстыка, гатова —

— Не.

— Калі будзе —

— Зусім ня будзе. Ніколі, гэта значыць.

Тон быў ізноў роўны й дабітны, станаўкі, не пакідаючы нічога да разважаньня. Парторгавы пальцы спынілі «млынок».

— Гэта значыць — што гэта значыць, — працягнуў ён ізноў свае ці то пытаньні, ці то адказы, сам сабе борзьдзенька тымчасам адказваючы ў думках: тыя дні дзеўка круцілася, як скурат на агні, і ўжо мала было надзеі, а цяпер, відаць, і зусім затармазіла-застапарыла. Што-ж, можа й лепш — няма чаго больш і нам круціць...

Пальцы аднак ізноў аднавілі сваю работу кручэньня, і то борзьдзенька-борзьдзенька.

— Ёсьць навіны, — паўтарыў трэйці раз і ўжо зь нейкім злавесным адценьнем «Ай-халерачка», працягваючы Стасі нейкую рудую вокладку, у якой была ўсяго адна, і то ня вельмі даўгая, друкаваная на машынцы паперка.

Стася была пэўнай, што гэта нешта, датычнае да ейнага «заданьня», да Бярэзьвіча й ягонай характарыстыкі, і пачала, хоць паранейшаму спакойна, але зь цікавасьцяй чытаць. Толькі там пісала зусім не пра яго... а якраз пра яе, пра Стасю Крыўчык... і нешта такое — зусім небагавое...

— Я нічога не разумею, — і яна ўзьняла свой яшчэ спакойны, ясны пагляд, сустрэўшыся з удвая гадзенькімі цяпер, нек зларадна-бегатлівымі вочкамі «Ай-халерачкі».

— І я таксама нічога не разумеў. Дык што тут вельмі разумець: або-або, як кажа дыялектыка, — тут парторг крыху зацяўся, але зараз-жа, разважыўшы, што бадай ці ведамая дзяўчыне розьніца між дыялектыкай і мэтафізыкай у высьвятленьні «Кароткага курсу гісторыі ВКП», а калі й ведамая, дык што з таго — пацягнуў далей: — Або я буду зараз-жа мець падпісаную поўным прозьвішчам і з належнымі фактамі характарыстыку на гэтага белапольскага агента Беразьняка, — парторг быў непамкі на прозьвішчы, — і тады ўсё гэта йдзе пад сукно, або — я маю ўжо другі матар'ял, і ведаю, чаму не магу мець першага, і ведаю, што маю рабіць і з другім і зь першым. Ясна —

— Маеце сабе ваш матар'ял, — Стася із сьцюдзёнаю пагардаю шпурнула яму на стол вокладку з паперкай, навет не дачытаўшы яе да канца, — толькі бадай, ці ўдасца вам пашыць што людзкае з такога «матар'ялу». Дрэнь, тандэт. Нейкі сваяк... ведама ўсім, што ў мяне ніякіх... А гэты яшчэ — не пад госам пара — недзе ў Нямеччыне... ды «зраднік радзімы», ды ня хоча вяртацца на бацькаўшчыну — якая нясусьветная лабуда! І што мне тут?

— Ціха-ціха, гэта яшчэ мы будзем паглядзець...

— Глядзеце сабе, колькі хаця, аж пакуль вам... не павылазяць.

— Хаміцё ўжо, дзяўчына, грубіяніце, ня добра. Дык як — будзе ў нас гаворка —

— Я ўсё сказала, і цяпер магу хіба толькі «хаміць» ці «грубіяніць», як самі кажаце.

— Раю падумаць, моцна раю застанавіцца й падумаць.

— Няхай лепш конь думае, у яго галава вялікая, як кажуць.

— Дык-жа й паехаць можаце на гэтым коніку зь вялікай галавой, даражэнькая, далёка паехаць можаце. І ня туды, дзе вашыя, знаныя ці нязнаныя там, сваякі, а ў зусім адваротным кірунку, мо й да бацькоў бліжэй.

— Прашу не чапаць маіх бацькоў, бо й я ад мацярок зачапіць магу, умею, — абурылася нарэшце Стася, для якой кажны непаважны напамінак аб бацьках, якіх яна зусім не памятала, быў заўсёды вельмі балючым і дражлівым.

— Ціха-ціха, зачэпім, калі трэба, і гэных. Толькі спакайней і думаючы. Яшчэ ня позна, сяньня, заўтра — цэлы дзень... Або-або... Будзе або-або, гэта гавару я вам тут зусім пэўна, як тое, што я — парторг хвабрыкі «Сьмерць фашыстым», Саламон Саламонавіч Арха-ярэйчыкаў, — закончыў ён, узвышаючы тон на сваёй улюбёнай формуле як-бы нейкае ўрачыстае прысягі, у якой чамусьці заўсёды асабліва расьцягваў і падчыркваў сваё прозьвішча.

— Сяньня парторг, а заўтра... ну, ды годзе тут із вамі — магу йсьці? — Стасі надакучыла гэтая важданіна, гэты нудны «млынок», які пагражаў зусім папсаваць такі слаўны, роўны ранішні настрой.

— Можаце йсьці, можаце хадзіць, можаце прыйсьці — хадзеце сабе здаровенькі тымчасам.

За дзьвярыма парткому да Стасі адразу й зусім зьвярнулася ранейшая роўнасьць. Карцела толькі — найперш — закурыць, а тады — зараз-жа адшукаць, каго трэба, і сказаць цяпер усё тое, што ўчора яшчэ трэ было сказаць. І гэтае, што сягоньня, цяпер, гэтыя «навіны». І наагул — усё-ўсё. Можа навет больш, як усё, бо можа й тое, што цягнулася-слалася ўчора, прыемнамяккое, ваўністае, абвівала й агортала, толькі ўжо сяньня — зусім спавіло па руках і нагах, зусім-жа выразнае, ані ўжо ня цьмянае, яснае й сьветлае, сьвежае, як гэтае во раньне.

## V.

Камсамольскі сход махорчанае хвабрыкі «Сьмерць фашыстым» слухаў даклад сакратара райкому таварыша Навалі хіна пра задачы мірнага будаўніцтва й камсамол. Хоць, што праўда, дык слова «слухаў» магло-б тут толькі вельмі ўмоўна абазначаць тое дачыненьне, зь якім ставіўся сход да дакладу — зрэшты, ня толькі гэты сход і ня толькі да гэтага дакладу. Напачатку, праўда, заўсёды слухалі ўсе, прыслухоўваліся з увагай і навет як-бы зь цікавасьцяй. Але гэта была барджджэй нейкая павіннасьць ветласьці, даніна прыстойнасьці, аддаваная толькі напачатку. Тым больш, што неўзабаве бясконцыя тоны сталі й іншыя «паказальнікі», паўтараныя рыхт-у-рыхт за друкаванымі ўсюды, галошанымі праз радыё на ўсіх скрыжаваньнях і растанёх афіцыйнымі матар'яламі, і нічога-нічога новага, свайго, і манатоннасьць, і некрасамоўнасьць прамоўцава — не маглі не рабіць свае справы, і сход пакрысе ажываў для собскага, незалежнага ад дакладу жыцьця. Пачынаўся лёгкі ды штораз мацнейшы шумок, які ападаў толькі пасьля пэрыядычных «званкоў» старшыні чым-небудзь аб шклянку, каб пасьля зноў ажываць пакрысе й зноў дужэць.

Дзяўчаты жвава абмяркоўвалі міжсобку вонкавы выгляд і фізычныя якасьці і дакладчыка, і ўсіх іншых сяброў прэзыдыюму, што тырчэлі проста перад вачыма, так і мулялі вочы. І тут дакладчык таварыш Навалхін усё-ж прыцягваў да сябе найбольш увагі, праўда, не сваім дакладам, а тым, што быў яшчэ «не заняты», «свабодны» і мог яшчэ «злавіцца на кручок», хоць і вельмі-ж нявыглядны, нейкі вірлавокі й лапавухі ды страх як неахайны ў вопратцы. Што да «Ай-халерачкі», які красаваўся тут-жа напаяўку, круцячы свой ве-

чны «млынок», дык ён меў ужо сваю абраньніцу з пакавальнага цэху, яна сядзела ў першым радзе лавак і, адзіная можа, слухала ўважліва, усьпёршы галаву на локаць. Мог-бы й лепшую сабе знайсьці, не такую падсьлёпаватую ворапаўку, ну, але й сам-жа ня вельмі што якое, толькі слава — парторг. А гэны вунь небарака — камсорг, глядзеце, штось сяньня ордэнам бліскаціць — дзеля якога гэта сьвята? І вылізаны нейкі, як каровіным языком — у — у — «безруч няшчасная»! Ні ён каму, ні яму хто. А што з Таською, кажуць, апошнім часам нешта злыгваецца, дык гэта, мусіць, толькі па камсамольска-піянэрскай лініі... Калі-ж і не — дык няхай сабе дзеўка мае, цешыцца, няхай Бог дае, ніхто не пазайздросьціць...

І пакрысе, ад выстаўленых, як на агляд, у прэзыдыюме кавалераў дзяўчаты пераходзілі да іншых знаёмых, на старане, якіх таксама ненадоўга ставала — падчысьціла вайна мужчынскі род... Дык заставалася брацца за самых сябе, перапалоскваць кастачкі сябровак, або, узьбіўшыся на ўдзячную, заўсёды такую актуальную ў дзявоцкім жыцьці й запраўды невычарпальную тэму строяў і прыбораў, жвава дзяліцца дазнаньнем, абмяркоўваць і крытыкаваць розныя спосабы й прыхваткі танна й прыстойна апранацца, кравечыць саматугам із старога, ато й проста як зь нічога.

Бярэзьвіч сядзеў у прэзыдыюме за старшыню, у моц свайго камсоргаўскага абавязку, і таксама ня слухаў дакладу, збрыдлага яму адразу дробна-хвалькоўскім узьвялічаньнем ваенных перамогаў, як быццам-бы забясьпечаных толькі собскімі сіламі «магутнай індустрыі», гэтымі «тонамі сталі», «пад кіраўніцтвам мудрай партыі бальшавікоў», тымчасам як ён сам увачавідкі бачыў на фроньце, як здабываліся гэтыя хвалёныя перамогі вылўчна на заморскай і зброі, і аснаджаньні, і матар'ялах, і ежы навет, а на сваім собскім целе й крыві дазнаў усю мудрасьць усякага «кіраўніцтва». Ды няхай сабе, цяпер загадана забывацца на такое, дый яму што па гэтым?

Ён часта кідаў пагляды на Стасю, якая сядзела адна на ўслоне каля вялікай кахлянай грубкі, выторкнутай глыбака на залю, і бадай заўсёды спатыкаўся зь ейным поглядам. У цэлай залі і, здаецца, у цэлым сьвеце яна была яму цяпер адзіным найбліжэйшым чалавекам, як і ён ёй. Якраз учора яны асьветчыліся адно аднаму ўва ўсім, адразу, аднячасна і можа навет аднолькава неспадзявана для самых сябе. Прынамся ён, усё яшчэ хваравіта паражываючы сваё калецтва, ніяк ня мог, не дазваляў сабе проста спадзявацца на запраўднае, шчырае каханьне да сябе хоць якое-небудзь жанчыны. І гэтую-ж дзяўчынку яму спачатку навет хацелася астудзіць, аддаліць, хацелася падазраваць у няшчырасьці — і ці-ж ня меў-бы ў гэтым рацыі, хоць адпачатку, як сама прызналася яму цяпер? Але ўзьнялося недзе з прадоньняў нейкіх душы нешта неспатоленае, здушванае гадамі і вучэньня і вайны, гвалчанае сілаю абставінаў і — сілаю волі, закалахванае й прысыплеванае зманнымі й няспраўджанымі-ж, жорстка ашуканымі надзеямі на будучыню, — узьнялося й апанавала валадарна ўсёй істотаю, апанавала і... «абязручыла», чыста абязручыла... Не, няпраўда, не абязручыла — якраз наадварот, як-бы зьвярнула адчуваньне й валоданьне ўсёй ранейшай поўнавартасьцяй, узьняло самога ў собскіх вачох. І ці-ж не аплачваецца, дый яшчэ з коптарам — страціць руку, а знайсьці сабе чалавека — сяброўку, вечную й верную сяброўку, кахаючую й каханую? Не, канцы ўжо цяпер, клямка тэй безручы, «безручы няшчасны»!

І навет тое, што над галовамі абаіх зьбіраліся хмары, што можа найбольш і падштурхнула іх да канчальнага збліжэньня, — выдалася, па цьвярозай, як думалі, развазе такім нязначным і нявартым ніякага адмысловага клопату. Што-ж, правакацыя й шантаж — такія абыдзённыя, звычайныя нашым часам рэчы, трэба толькі быць да іх станаўкім і пільным, трымацца адно аднаго, і можна зусім не паддацца навале. І галоўнае — якраз не паддацца першаму ўражаньню, першаму націску, ня кінуцца адразу ў паніку. А там і расьцягне хмары, разьвідняе, і ўсё будзе добра, і напэўна яшчэ лепш, як было раней.

Гэтаксама пачувалася й Стася. Праўда, ёй, можа, як дзяўчыне, яшчэ часам паскрэбвала нешта, як кашэчай лапкаю. І асабліва цяпер, у гэтым мамэньце, калі яна ўздумалася раптам, што тая паперка з «навінамі» пра яе, якою хацеў шантажаваць «Ай-халерачка» і якую яна, так шкада, не дачытала да канца — тая паперка магла быць не такой ужо фантастычнай і «ліпавай», як здалося адразу й здавалася дасюль. Гледзячы на лапавухага дакладчыка таварыша Навaліхіна, яна раптам пачала ўспамінаць, што ў ейнай цёткі, у якой яна гадавалася, асірацеўшы маленькай, аж пакуль не ўцякла ў дзіцячы дом, ратуючыся ад вечных упічваньняў і лупцовак, — гадаваўся й такі-ж вось, падобны лапавухі, толькі што не вірлавокі, а проста смаркаты — сынок, мала не равесьнік ёй, і значыцца, брацеьнік. Можа гэта ён і ёсьць цяпер той «зраднік радзімы», аб якім пісала ў «Халераччынай» паперыне? Ну але, так і ёсьць, яго звалі Гурык, і там — Габрыель Крыўчык — пэўна-ж, адно і тое. Толькі адразу надум ня прыйшло, бо ад часу сваіх уцёкаў Стася парвала ўсе сувязі зь цётчынай сям'ёй, ніколі ня цікавілася ёй і ня думала, асабліва дачуўшыся крыху пасьля стараною аб цётчынай сьмерці. Дык і той смаркаты Гурык зусім бадай і забыўся, а калі й можна было яго выцягнуць аднекуль із пыльных закамаркаў памяці, дык толькі як такога смаркатага шчанюка, якім быў і якога цяжка было-б адразу зьвязаць із гэтым Габрыелям — «зраднікам радзімы». Адно дакладчыкавы вушы сяньня памаглі навязаць гэтую сувязь. Аднак, што ў гэтым такога? Зусім яшчэ нічога, нічога страшнога, бо сувязі-ж між імі якраз і ня было, і ніхто давесьці ня можа... Хоць усё-ткі ўжо гэта дрэнь, усё-ткі ўжо нешта ды ёсьць, а яна думала, што чыстая фантазія й шантаж толькі... І ёй пачало карцець, каб барджджэй скончыўся гэты нудны сход і можна было-б падзяліцца зь Бярэзьвічам гэтым, ня зусім прыемным, адкрыцьцём...

Тым-жа часам, таварыш Навaліхін, зірнуўшы на гадзіньніка й жахнуўшыся, што гаворыць ужо куды даўжэй, як спадзяваўся, і што, галоўна, найвышэйшы час ужо сьпяшацца ў іншае месца, куды, ён добра ведаў, ня варта ніколі пазьніцца — пачаў выразна камячыць і гамтаць свай даклад ды, за пару часінаў расправіўшыся з новымі й адвечна-старымі задачамі камсамолу й папрасіўшы выбачэньня, што ня мае ўжо, нажаль, часу быць на спрэчках, якія, як спадзяецца, павінны жвава разгарнуцца вакол такое важнае тэмы, — пакінуў залю пад даўгія й бурлівыя ўсеагульныя воплескі. Зрэшты, бурлівасьць гэтых воплескаў зусім не вымярала сабой здаволенасьці аўдыторыі ад дакладу, ані навет глыбіні пачуцьця палёгкі ад шчасьлівага й ранейшага, як спадзявалася, канца даўгой і нуднай таўчаніны вады ў ступе, ані, прынамся, размаху распружаньня застаялай энэргіі, а проста выражала мэханічную ўжо прывычку, традыцыю апошніх год: воплескі наагул або маглі быць «бурлівымі й незмаўкальнымі, зь пераходам у авацыю», або іх зусім быць не магло.

Бярэзьвіч таксама «бурліва» балабоніў аб шклянку, суцішаючы разбушаваную камсамольскую стыхію, сам суцешаны, як і Стася, што справа як-ні-як збліжалася да жаданага канца, і неўзабаве можна будзе ім спаткацца. Праўда, яго, як старшыню сходу, чакала яшчэ даволі нудная працэдура выцягваньня за язык прамоўцаў для тых «спрэчак», у якіх аб нічым нельга было, дый ня было аб чым спрачацца, заклiканьня на ўсе лады да выказваньня, «крытыкі й самакрытыкі». Але сяньня ён не маніўся быць у гэтым асабліва настырлівым і мерыўся барджджэй пакіраваць справу да рэзалюцыі й зачыненьня сходу, не спадзяючыся ніякіх перашкодаў у гэтым кірунку.

Толькі, што «чалавек мяркуе, а Бог выракуе»... Праўда, у тым, што знайшлася адразу, без угаворваньня, дабраахвотніца «спрачацца», ня было яшчэ нічога нязвычайнага й магло зусім ціхамірна скончыцца, бо гэта была знаная актывістка й «прысяжная» ўдзельніца «спрэчак», таварышка Панасік — якраз тая сымпа-

тыя парторга «Ай-халерачкі», ягоная «варопаўка», якую ўспаміналі й сяньня дзяўчаты. Таварышка Панасік, у недалёкай мінуўшчыне Пінхасік, бліскаючы вялікімі рагавымі акулярамі, што хавалі ейныя падсьлёпаватыя вочкі на войстрым, хітравата-хіжацкім, як лісічыным усяроўна абліччы, пачала ад кароткага паўтарэньня й перетаўканьня ўсяго, ужо расплясканага й размазанага дакладчыкам. І гэта быў зусім нармальны, навет канечна-патрэбны пачатак кажнага, ці, прынамся, першага выступленьня ў «спрэчках»: трэба-ж было перш-на-перш салідарызавацца з дакладчыкам у цэлай «генэральнай лініі». На гэтым часта й канчалася ўся «спрэчка» і ўсё выступленьне, як магло яно скончыцца й цяперака, не надоранае асаблівою ўвагаю супраць дакладу й не адпраўленае ўжо ніякімі воплескамі. Дык ізноў пачаўся той самы «працоўны шумок» аўдыторыі, але раптам ён пачаў сьціхаць сам сабою, без умяшаньня старшынёвае шклянкі, бо таварышка Панасік, скончыўшы сваё ўступное паўтарэньне, выразна манілася «крыць». А гэты пераход да «крытыкі» і тым самым да асобаў заўсёды насьцярожваў аўдыторыю й працінаў яе запраўднай цікавасьцяй, праўда, ня вышэй, як цыркавога характару. І цяпер усе прыціхлі й напружана ўслухваліся. Бярэзьвіч, крыху ўстрывожаны, зірнуў на Стасю й спаткаўся з такім самым ейным поглядам: кажны зь іх пачынаў непакоіцца, каб «самакрытыка», асабліва, зважаючы на асобу прамоўцы, вельмі-ж блізкую да самога «Ай-халерачкі», не зачапіла як-небудзь каго-колечы зь іх, і кажны баяўся найбольш за другога..

А таварышка Панасік гаварыла аб тых каведных варагох мірнага будаўніцтва, якія ёсьць і ў іхных камсамольскіх радох на хвабрыцы, ад якіх, пэўна-ж, усё зло ўсякіх прарываў і зрываў, але якія маскуюцца, хаваюць сваю варожасьць і свае сувязі з чужым і варожым элемэнтам, і ад якіх можна ўсяго спадзявацца. Калі-ж яна падчыркнула, што тым небясьпячней, калі гэткія асобы прадзіраюцца навет да адказных становішчаў і асабліва да такіх далікатных, як справа камуністычнага ўзгадаваньня нашае зьмены, нашае надзеі, крыніцы жывых сілаў і камсамолу, і партыі, і ўсяе краіны, прадзіраюцца й вядуць беспакаранна сваю маральна-раскладальную работу ў чыстых дзіцячых душах, — усіхныя вочы пакрысе пачалі, хоць найбольш яшчэ зь нездаўменьнем, зварачацца ў Стасін запечны куток. Але «варопаўка» тут раптам абарвала сваё выступленьне, кінуўшы правакацыйна, што яна ня хоча называць прозьвішчаў, а думае, што тыя, каго гэта датычыць, самі ведаюць і самі выясьняць усю справу зараз-жа, перад сходам. Яна села, усьпёрлася й таксама ўзорылася праз свае акуляры на Стасю, якая пад гэтым шыпульлем колькіх дзесяткоў упёртых у яе вачэй адчула проста няўхільную патрэбу ўстаць і даць адразу-ж тыя жаданыя выясьненьні.

Бярэзьвіч з усё большай трывогаю сачыў неспадзяванае і яму і Стасі разгортаньне падзеяў, памыкаўся ўмяшацца, навет «зазваніў» моцна аб шклянку, хоць цяпер у залі панавала поўная ціша, хацеў, зачапіўшыся за фармальны бок, адпіхнуць справу хоць у «бягучыя» й «розныя», навет пазбавіць Стасю голасу, бо яна пачала ўжо гаварыць, зусім не папрасіўшыся ў яго, у старшыні. Але тут-жа разважыў, што гэта можа толькі пагоршыць справу, папсаваць, і лепш няхай ужо йдзецца, як пайшлося...

Стася пачала гаварыць блытаючыся й як запраўды злоўленая на нечым. Яна адразу зазначыла, што ведае, якія зьявіліся тут супраць яе закіды, але ўсё гэта ня тое... Ізь дзівом і нездаўменьнем аднак пачуў Бярэзьвіч, як яна раптам заявіла, што ў яе можа й быць сваяк, брацельнік Габрыель Крыўчык, але яна ня мае зь ім ніякае сувязі яшчэ адмалку, ня знае, дзе ён быў і дзе ёсьць цяпер, дык і адказваць за яго ня можа. Бярэзьвіча гэта прыкра рэзнула, бо Стася-ж перад ім уважала была гэнага Габрыеля за чыстую фантазію «Ай-халерачкі» і, выходзіць, была зь ім ізноў няшчырай?.. Ці што іншае цяпер надумалася?... Наагул, блытае дзяўчына і ўблытаецца...

Але, апанаваўшы сабой і словам, Стася станоўка адкінула ўсе падозраньні й скончыла сваё кароткае выступленьне пры выразным спачуваньні залі. Дзяўчаты наагул любілі яе, як «зусім сваю дзеўку», і любілі нагэтулькі, наколькі ня прыялі гэнай праклятай «варопаўцы», што вылезла тут із сваім падтыканьнем, ды, пэўна-ж, не ад сябе, а ад свайго «халернага хахаля», які так ухвальна ківаў ёй гадкай сваёй мазгавешкаю.

— А чаму грамадзянка Крыўчык увесь час хавала, і сягоньня схавала сваё кулацкае паходжаньне, аб чым ёсьць пэўныя дадзеныя? — не хацела пакінуць сваю ахвяру «варопаўка».

Стасі гэта была ўжо поўная навіна, а пэўна-ж, із тых самых «навінаў», якімі пачаставаў яе парторг яшчэ пазаўчора, не дарма-ж так шкадавала, што не дачытала да канца. І яна адказала адразу-ж зь месца:

— Я зусім ня памятаю сваіх бацькоў і ня ведаю нічога такога пра іх, дык для мяне поўная навіна тое, аб чым кажа тут таварышка Пінхасік.

— Не таварышка, а грамадзянка, — аж віскнула неяк «варопаўка», асабліва падцятая, відаць, успамінаньнем свайго запраўднага, але нялюбага прозьвішча, хоць у Стасі яно выскачыла зусім незнарок. — Гусь — сьвіньні не таварышка! — абурылася яна.

— Але, але, зусім правільна, — аж усьцешаная, падхапіла рэпліку Стася, — не таварышка. А хто з нас дзьвёх якой з гэных мілых жывёлінак сваявейшы — няхай сход разьбярэцца. Можна й прагаласаваць навет, — і яна села пад сьмехатлівы порскат дзяўчатаў і навет пару неадвольных воплескаў, спраўцаў якіх дарма намагаўся вылавіць вачыма сам «Ай-халерачка». Ён узьняўся тут на ўвесь свой, як здавалася яму, грозны рост і, узвышаючы голас, вякнуў:

— Прашу не абражаць сход!

Зусім не абражаны, а наадварот, толькі падвяселены сход прыціх аднак пад грaзою начальніцкага покрыку.

— А галасаваць мы будзем, бясспрэчна будзем, бо справа зусім ясная, — абнізіўшы ўжо тон і пакінуўшы ў ім толькі ранейшую станоўкасьць, пацягнуў «Ай-халерачка». — Крыўчык сама прызналася тут, хоць і няпоўна і не ўва ўсім. Я дазволю сабе пазнаёміць сход із тымі матар'яламі, якія надыйшлі да нас у гэтай справе.

І ён пачаў чытаць тую самую паперку, якое ўчора Стася не дачытала да канца й пасьля шкадавала. Але яна й цяпер ня слухала зусім гэтага чытаньня, бо ўжо, пасьля сяньняшняга адкрыцьця свайго забытага сваяцтва, верыла й так у магчымую правільнасьць усяго-ўсяго, што пісала й магло пісаць у гэнай фатальнай паперы. І якраз у гэтым мамэньце яе займала ўсё гэта зь іншага боку: як гэта дзівосна супадае ейная жыцьцёвая лінія зь лініяй ягонай, Бярэзьвічавай, супадае навет ужо ад сама ад пачатку. Тая самая крыўда за бацькоў! Стася паверыла зусім у тую магчымасьць свайго паходжаньня, якую выткнулі яны тут сяньня. Яна ўспаміnала, што чамусьці й праўда ў цётчынай сям'і аніколі ані словам не ўзмаўляліся пры Стасі аб ейных бацькох. І ёй здалося цяпер, што хоць дасюль ёй і ня было ведама пра нешта падобнае, але якраз гэта яна, гэная крыўда бацькоў, няўсьведамленая й непамшчоная крыўда, вяла яе дагэтуль, вызначала ейныя думкі й пачуцьці, прывяла й да Бярэзьвіча, а ня супраць яго, павядзець яе, іх абаіх, і некуды далей... Толькі куды?...

Стася схамянулася ад сваіх думак адно тады, калі «Ай-халерачка» пачаў галасаваць сваю прапанову аб ейным выключэньні з камсамолу.

— Хто супраць, — ставіў ён адразу пытаньне рубам, палегчаным, даўно ўзвычаеным для крытычных і далікатных выпадкаў спосабам. Усе прыгнечана й панурана маўчалі. Толькі ў прэзыдыюме адразу-ж высака ўзьвілася адна-адзіная рука, тым больш адзіная, што другое ейны собсьнік і ня меў — рука Бярэзьвіча.

— Няма? Аднагалосна, — хацеў ужо падсумаваць парторг, ня бачачы Бярэзьвіча, што сядзеў крыху глыбей за яго, адзадзя.

— Ёсьць, — нейкім мэталёвым адценьнем зазьвінеў з-за яго голас, — ёсьць. Гэта я, — дабітна праказаў у поўнай цішы, устаючы, Бярэзьвіч. — І я заяўляю, што дам і далейшы ход сваёй нязгодзе, і пэўны, што да-

магуся скасаваньня несправядлівай ,борздасьпелай і безь мяне, як камсорга, падрыхтаванай пастановы.

— У гэтым можна было й не сумлявацца, — скрывіўся «Ай-халерачка», падтрыманы толькі адзіным порскатам грэблівага сьмяшка свае «варопаўкі». — А дзе-ж Вы былі, камсорг, калі бяз Вас?

— Маеце яшчэ што-небудзь? — абарваў яго Бярэзьвіч, увахоДзячы зноў у неяк выпушчаныя ім з рук, якбы й запраўды ня было яго тут, абавязкі старшыні. — Тады зачыняю сход.

VI.

Бярэзьвічу не ўдалося выйсьці із сходу разам із Стасяю — з прэзыдыюму да дзьвярэй яму было найдалей, тымчасам як ёй якраз найбліжэй. Дык іх разлучыла людзкая маса, і Стася мусіла апыніцца вонках куды раней, у ліку першых, а яму, як ужо ён ня ціскаўся, усяроўна давялося быць адным з найапошніх. Не чакала яна й каля самога выхаду на дварэ — мусіць, ўважала за неадпаведнае й проста пайшла сабе знаную ім абаім, так часта хаджалаю, дый, зрэшта, адзінаю тут дарогаю, пайшла, пэўна, памаленьку, спадзяючыся, што ён лёгка й борзда здагоніць. Дык і трэ было зараз-жа хапацца здаганяць. І Бярэзьвіч кінуўся наценькі, ня зусім яшчэ разгледзеўшыся, пасьля сьвятла, у вячорнай, густаватай ужо, цемрані. Тут адразу-ж яго ледзь не падбіла чорная легкавая машына, гладка й нячутна бяручы зь месца ад'яжджаць і кіруючыся на горад. Хіба Наваліхінава, толькі чаму-ж ад'яжджае адно цяпер, калі ейны гаспадар пакінуў сход ужо ці цеперся? А можа так нейчая...

Давялося абагнаць «Ай-халерачку» із спадарожніцай, якія жвава зюзюкалі міжсобку, мусіць, аб сваёй сяньняшняй удалай «вылазцы», але прымоўклі на час, пакуль абмінаў іх Бярэзьвіч — можа разгледзелі, а мо й проста так. Абмінулася яшчэ колькі дзявоцкіх, большых і меншых грамадак — у ваднэй зь іх, відаць, пазналі й запорскалі здушанымі сьмяшкамі адзадзя, наўздагон «Безручы няшчасны». Стасі нідзе сярод іх ня было. Бярэзьвіч вярнуўся назад — не спаткалася яна й паміж рэдкіх ужо сустрэчных. Каля клюбу таксама ўжо не заставалася нікога. Пастаяў крыху, падаўся зноў, ужо памалей, тэй самай і зусім апусьцелай тымчасам дарогаю. Ніхто не спаткаўся, нікога не цямцелася й наперадзе. Што гэта мае значыць? Дзе яна дзелася, чаму не чакае, ня шукае яго, як ён яе? Дзіўна... І на сходзе дзіўна — як гэта раптам выпаліла аб тым сваяцтве... Наагул, відаць, усё-ж ня вытрывала дзяўчына, паддалася паніцы, і хто яе ведае, што думае цяпер і што робіць? І як блага, што яны абое апыніліся такімі непадрыхтаванымі да гэтага сходу, зусім ня лічачы на такі зварот, хоць павінны-ж былі на ўсё спадзявацца й да ўсяго рыхтавацца. Можа гэта й найбольшая ягоная, Бярэзьвічава віна, што прысыпіў і ў сабе і ў ёй гэтую, так патрэбную заўсёды, а ў такіх абставінах пагатоў, чуйнасьць, супакоіўшыся на тых, быццам цьвярозых, развагах, што нічога асаблівага ня можа быць, ня будзе. Хоць і як можна было чакаць, што якраз ужо, якраз на гэтым сходзе — які, здавалася-б, мог быць прыклеп? «Задачы мірнага будаўніцтва й камсамол»... Вось табе й «азадачылі»... І прыклеп лёгка знайшоўся... Дый навет зусім не ад таго боку, ад якога думалі — бо і Стасі і Бярэзьвічу навет здавалася, што першай, а мо й адзінай ахвярай мусіў быць якраз ён, тымчасам як яе, выглядала, толькі шантажуюць...

Аднак, урэшце, што такога асаблівага сталася? Падумаць — выключылі з камсамолу — вялікая рэч! І так-жа няшмат ужо заставалася й ёй да стану «перарасткі», а ніякіх-жа ідэйных ці навет практычных асноваў для таго, каб трымацца аберуч за гэты камсамол ці за далейшы «рост» і «пераpост» у кірунку наступное вышэйшае клясы — партыі — не выяўлялася. А калі так ужо й хацець трымацца, патрымацца яшчэ — дык ня ўсё-ж, нарэшце, і страчана, можна яшчэ ваявацъ, і адваяваць, ды навет па носе даць тым — ёнжа й прылюдна задакляраваў гэта на сходзе. І калі толькі Стася захоча... Трэба толькі канечна знайсьці яе зараз-жа, знайсьці й супакоіць. Адразу-ж супакоіць, навет не распытваючыся, чаму зрабіла так, а ня гэтак — усяроўна, сама пасьля раскажа, напэўна раскажа.

Аднак, шуканьні не давалі ўсё ніякага вынiку. Навет на Стасінай гасподзе, куды, не бяз хістаньня, адважыўся-ткі зайсьціся — упяршыню. Яшчэ не вярнулася, апошнімі днямі нешта позна вяртаецца... Пэўна-ж, гэта Бярэзьвіч добра ведаў і сам... Найлепшым было-б пачакаць тут ці пілнаваць дзе паблізу, каб пераняць адразу. Але гэта ўжо было-б зашмат, не выпадала-б. І Бярэзьвіч ізноў пачаў свае бязвыніковыя абходы, манячыся ўсё-ж наварочваць пэрыядычна яшчэ пад Стасіну гасподу, дзе можна было-б хоць калі, але нарэшце злавіць яе. Толькі калі, у часе гэтых абходаў, ужо безь вялікае надзеі спаткаць дзяўчыну дзе-небудзь па дарозе, незнарок забрыў нек пад сваё собскае жытло і раптам зглядзеў сьвятло ў сваім вакне — як пяруном ударыла: гэта-ж і яна магла так бегаць за ім, як ён за ёй, разьмінаючыся, і таксама дабрацца да ягонага пакою, як ён да ейнага, толькі з большаю навагаю — і вось чакае тут... А ён, як боўдзіла, як дурань апошні... Борзьдзенька, задыхаўшыся яшчэ больш ад хваляваньня, як ад руху, узьбег Бярэзьвіч па крутkіх і хісткіх драўляных сходах да сябе на гару, пахопіста рашчыніў дзьверы...

Але, былі госьці, ды не яна... Два нейкія незнаёмыя ў чорных палітонах. Адзін, мажнейшы й грубейшы, у шапцы, зусім як дома расьпёрся на крэсьле й заглыбіўся ў ягоную «Тэхнічную Энцыклёпэдыю», ніяк не рэагуючы на зьяўленьне гаспадара. Другі, шчуплейшы й страйнейшы, бяз шапкі, чытаў загалоўкі на кніжных каранцох на этажэрцы, адразу павярнуў галаву і зь гетлай усьмешкай пайшоў напярэймы.

— Ах, а мы якраз чакаем... Гэта-ж самі будзеце інжынэр Ладзіслаў Бярэзьвіч?

— Але, я...

— Дык вось, гэта да вас, — і ветлы незнаёмы працягнуў яму невялічкую паперку.

«Ордэр на рэвізію й арышт»... «Арышт» было падчыркнена чырвоным і аж двойчы — навошта? Ці каб ён адразу-ж звярнуў увагу, што тут — не пярэлікі, ці каб яны, гэтыя, не забыліся можа як ненарокам забраць арыштанта з сабой пасьля рэвізіі? Сьмешна..

— Што-ж, калі ласка... — працадзіў інжынэр, аддаючы назад паперку. Пытацца асноваў? Ці ведаюць іх гэтыя папіхайлы, і наагул, якія тут могуць быць асаблівыя асновы?

— Ванюха, годзе табе, давай да работы! — адарваў сябра ад «Тэхнічнае Энцыклёпэдыі» той, што паказваў ордэр. Гэны, панура мармытнуўшы нешта сабе пад нос, таксама панура ўзяўся за «работу» пертрасаньня, найперш гэтых-жа кніжок.

Бярэзьвіч асеў у спарожненае грамадзянінам Ванюхам крэсла й бязуважна пазіраў, як неспадзяваныя «госьці» гаспадараць у яго, перагортаюць балоны ягоных кніжок, выбіраючы й вытрасаючы зь іх ды старэнна адкладаючы на бок кажную пісаную паперынку. Зусім так, як тады, калі бралі бацьку... Толькі, што там мелі такі клопат із вялізарнай прафэсарскай бібліятэкаю. Ну, у яго ўпораюцца борзда...

Вось што із Стасяю? Каб і запраўды толькі не надумалася шукаць цяпер яго тут... Чакай! Ізноў Бярэзьвіча стукнула, бы пяруном, як кагадзе, калі заглядзеў сьвятло ў сваім пакоі: тая чорненькая легкавая машына, што ледзь не падбіла яго пры выхадзе з клюбу... Напэўна-ж не Наваліхінава... Ці не яе, ці ня Стасю хапілі туды адразу, прыпілнаваўшы на выхадзе? «Хапун», «чорны воран»... Ну але, барджджэй за ўсё, бо — як ваду... Яму навет здалося цяпер і адразу моцна паверылася, што сам-жа й бачыў ці чуў яе нек пры гэтым, толькі не прапусьціў тады праз сьведамасьць, не спадзяючыся аж такога, а хапаючыся здаганяць... Але, значыцца абаіх. А ён яшчэ думаў «ваяваць», «адваяваць»... Папаваюй цяпер! Ізноў — безруч, няшчасная безруч... Дый ці была калі ня безруч? Толькі кароткая ілюзія, часінны самападман.

Упараліся запраўды борзда. Грамадзянін Ванюха ўжо, моцна сапучы носам, сьпісваў адкладзеныя рэчы ў пратакол — відаць было, што працэдура пісаньня ў

сваёй цяжыні межавала для яго зь нялёгкай фізычнай працаю. Непакорныя літары стаўляліся памаленьку, з асьцярогаю, ня зусім зграбныя, але ўжо затое стаялі цьверда...

— На вайне страцілі? — спрабаваў навязаць гаворку той, што выдаўся «ветлым», ківаючы на пустое Бярэзьвічава рукаво.

— Але.

— Так, кажны з нас выйшаў з вайны бязь нечага — хто бяз рукі, хто бяз... — хацеў ён, відаць, удацца ў нейкую «філёзофію», але ня ўмеў закончыць свае сэнтэнцыі. — Дармо, можа ўсё гэта — непаразуменьне, высьвятліцца... — спрабаваў яшчэ падбадзёрыць, ці мо апраўдацца, — зусім таксама як тады, калісь, падбадзёрвалі бацьку такія самыя. Гэтулькі год — а як нічога ў іх не зьмяняецца!

Вочы «ветлага» тымчасам упёрліся ў ордэн, які насіў апошнімі днямі Бярэзьвіч, паддаўшыся тэй Стасінай прыхамаці.

— Таксама? За баёвыя заслугі?

Бярэзьвіч толькі моўчкі ськіўнуў галавой. Але-ж, за «заслугі»...

— Дазволіце адчапіць? — і рукі «ветлага» пацягнуліся да «высокай адзнакі».

Што-ж, няхай адчапляе. Тады «адчапілі» руку й за гэтую «баёвую заслугу» прычапілі блішчастую бляшку. Цяпер адчапляюць і яе... Усяроўна — безруч...

— Можа адчэпіце й гэтую? — працягнуў уголас свае думкі інжынэр, трасучы апошняй рукою.

— Калі трэба, адчэпяць і гэную, — узяў раптам голас асіплым басам нема-маўклівы датуль грамадзянін Ванюха і, памкнуўшыся спачатку ў кірунку да інжынэравае галавы із сваім кароткім і грубым ды заскаруплым нейкім пальцам-ківуном, усё-ж адумаўся, відаць, ды стукнуў ім у сваё собскае нявысокае чало, што аж, здавалася, затрубцела.

— Што ты, Ваня, ня трэба, — пачаў залагоджваць «Ветлы». — Ну, што-ж, усё гатова, дык зьбіраймася хіба, машына ўжо чакае, шофэр прасыгналіў.

І ён таксама ветла й далікатна пачаў памагаць складаць патрэбныя рэчы й апранацца.

— Дык пайшлі...

— Давай, давай, ногі-ж, нябойсь, яшчэ тэпаюць, — засіпеў ізноў Ванюха адзадзя.

На дварэ было зусім цёмна, цёмна-чорна. «Не, няма такіх рук, якімі можна было-б — разумееце — шалёстаць некага вось так, па мардасах, у правую і ў левую, і праваю і леваю, ці навет душыць, душыць, каб аж вочы налаб... Такая... безруч няшчасная», — усплылі-ўспомніліся яшчэ раз, быццам агнянымі літарамі выпісаліся ў гэтай цемры, нядаўныя Стасіны словы.

Машына запраўды ўжо чакала. Ну але, гэта была тая самая чорненькая легкавая машына.

14. 2. 46. Гоф, Нямеччына.

---

**УЛАДЗІМЕР КЛІШЭВІЧ**

# ВЕК НАШ СТРАШНЫ

**ВЕРШЫ**

Век наш страшны і век суровы.
Што дае ён людзям зямлі?
Толькі падаюць з плеч галовы,
Толькі рэкі крыві паплылі.

Косіць Молах людзей ашалелы,
Тых, хто ўчора жывымі былі
І валяюцца мёртвыя целы
На палетках нямое зямлі.
3. 10. 1943.

* * *

І плывуць законы у жыцьці сівыя,
Што былі калісьці сотні год назад.
На зямлі і песьні, як жыцьцё, старыя,
Толькі паўтараюць іх на новы лад.
20. 12. 1943.

### СЬМЕРЦЬ ЦЭЗАРА

Дзе просьба слоў людзём не памагала,
Заўсёды верх над сілай брала сіла.
У Касія мест слоў рука загаварыла,
Праткнуўшы сьпіну Цэзару кінжалам.

Забіты Цэзар на зямлі ляжыць,
Дыміцца сьвежая крывёю рана...
Палаюць воляю у змоўшчыкаў нажы
Над мёртвым целам грознага тырана.
18. 3. 1944.

У жыцьці і сьмяюцца, і плачуць,
Усё навокал разносіцца звонка.
Селянін, каб забыць на нястачу,
Залівае нутро самагонкай.

Не праходзяць бандыты міма —
Абдзіраюць, што толькі было,
А пад раніцу чорным дымам
Узьнімаецца ў неба сяло.
25. 12. 1943.

Ад жаху кроў у маіх жылах стыне.
Куды мяне нячыстая нясла?
Лягчэй было павіснуць на асіне,
Чым быць падобным да асла.

Здавалася мне, тут іначай,
Уклад жыцьця людзей другі.
Ну а цяпер душа крывёю плача,
Спаткаўшы новыя няволі ланцугі.

Тут зьдзек бязбожна чыніцца над намі
Канец яго, здаецца, нявідзён...
Загоны панскія залітыя сьлязамі —
Навокал чуецца цяжкі праклён.

Абшарпаны. Сьпіною сьвеціш голай...
Працуеш за вала ня менш.
Ды у вачох гаспадара — жывёла,
Не чалавек, а толькі унтэрмэнш.
Морунген, 22. 9. 1944.

### РАЗВАГІ

Гляджу, як Нэкар пеніцца імкліва,
Бяжыць у далячынь, няведама куды.
У хвалях мутнае халоднае вады
Агні дамоў калышуцца маўкліва.

Далёка цягнуцца абапал яго горы.
На берагох стаяць руіны-гарады.
І сьветка жудасьцяў, прыбыламу сюды,
Жахлівай мовай аб вайне гаворыць.

А я стаю і думаю ў трывозе:
Ляжыць руінаў дзікая пячаць
На чалавекам пройдзенай дарозе.

А словы мудрасьці адно гучаць
Над цемраю у цяжкай перамозе:
Хто меч падняў, той зьгінуў ад мяча.
Вюртэмбэрг, 1. III. 1946.

* * *

Дай мы, сябра, сягоньня харошую
Чарку вып'ем з табою дадна.
Замяло нам дарогу парошаю,
А дарога ў магілу адна.

Не жадаю нічога на сьвеце я,
Толькі выпіць ад смагі віна.
Хай жыве і красуецца трэйцяя
На зямлі між людзьмі вайна.

Не глядзі. Бо ня стаў-жа вар'ятам я,
А кажу тое, што ёсьць.
Загарыцца вайна праклятая,
Гэты дзікі і часты госьць.

Толькі трэба на неба прыглядзецца
І на зоры жыцьця паглядзець,
Кверху хвост падняла Мядзьведзіца —
Значыць быць на зямлі бядзе.

Зноў навокал пажар расьсьцелецца
К небу ўстануць агні-языкі.
Зьгіне ўсё у вар'яцкай мяцеліцы,
Застануцца адны мерцьвякі.

А таму я і хочу харошую
Выпіць чарку з табою дадна.
Хай заносіць дарогу парошаю,
Бо дарога ў магілу — адна.

Вюртэмбэрг, 18. 3. 1946.

* * *

Адплылі у нябыт, адляцелі
Па шырокіх прасторах тайгі
Дзікім сьвістам халодных мяцеліц
Хмары чорныя чорнай тугі.

Думкай я у мінулае гляну —
Хістка цёмны у буру ідзе
Параплаў сярод хваль акіяну
Бяз жыцьця, без надзей.

І плыве ён гадамі па моры
Неспакойнага часу жыцьця.
Гром у хмарах трывожна гаворыць,
А маланкі агнём зігацяць.

Палыхаюць маланкаю хмары
І сплываюць навалай вады...
Гром яшчэ раз магутна ударыў —
І над морам агонь і дым.

21. XI. 1944.

## СЯБРОМ

Адзіны лёс мы разам спатыкалі:
Гады турмы, выгнаньне у Сібір.
Міналі на шляху чужыя далі,
Нам ногі рэзаў азіяцкі жвір.

І мы ішлі схіляючы галовы,
Нясьлі ў грудзёх агонь сьвятых надзей.
Былі нам гонарам свабоды словы,
Таму няшчаснымі былі сярод людзей.

Гады ішлі. І нас вайна спаткала,
Перамяніла нам нанова кайданы.
Загінула, сябры, нас у вайне цімала,
А дзе магілы іх, а дзе ляжаць яны?

Шумяць трывожна Беларусі нівы,
Калыша вецер сонную траву.
Адзіны я з усіх сяброў шчасьлівы
І толькі тым, што на зямлі жыву.

Сябры мае жыцьцёвых незадачаў,
Прымеце мой на разьвітаньне сум.
Няволю цяжкую, надыйдзе час, адплачам,
А Беларусі сьцяг я далей панясу.

16. 5. 1946.
Атлянтычны акіян, параплаў «Марынэ Фляшэр».

---

**СЬВІТАЗЯНКА**

# ІРКА

**(НАРЫС).**

Разьвіднела. Першае праменьне сонца асьвяціла найвышэйшыя вяршаліны дрэваў. Па брукаваным гасьцінцы каціўся вазок, запрэжаны парай добрых коняй. Хурман дрымаў спакойна ў перадку, і толькі ад часу да часу, калі кола наедзе на камень і вазок падскочыць, узмахваў памалу пугай і сонным голасам цягнуў: «Но, но сівыя!» — ды зноўківаўся ў такт раўнамернаму тупату конскіх капытоў.

Уначы давялося яму выехаць на станцыю на спатканьне лясьнічага жонкі. У вазку й сядзела маладая жанчына, а побач зь ёю старэйшая, трымаючы на руках нейкі белы зьвітак, да якога маладая ледзь значна ўсьміхалася. З-за небасьхілу паказалася цэлае сонечнае аблічча, і жартаўлівы сонечны прамень зь цікавасьцяй павандраваў за позіркам і ўсьмешкай маладой жанчыны. Спаміж белых зьвіткаў выглянуў маленькі дзіцячы тварык. Дык вось чаго ўсьміхалася жанчына.

Коні беглі жвава, але жанчыне ўсё здавалася, што памалу.

— Не, гэтак марудна ехаць немагчыма, — паўтарала яна, не спасьцерагаючы, як ласкава глядзіць на яе сонца; — барджджэй да дому! — Там чакае муж, якому тэрміновая праца перашкодзіла выехаць самому на спатканьне...

Коні як быццам зразумелі жаданьні жанчыны, а можа, чуючы блізкі адпачынак на зялёным лузе, шпарка ірванулі наперад. Яшчэ колькі крокаў, і вось першыя дрэвы; вазок уехаў у раньнюю сьвежасьць лесу.

— Як спаткае лес маю малую? — прашаптала жанчына й прыслухалася да ляснога жыцьця. Ды лес зразумеў ейную трывогу. Не, такой, як яна, што жыла ў самым сэрцы ягоным і ніколі не зрабіла яму найменшае шкоды, такой ня можна скрыўдзіць. Ціхі шэпат прайшоў па лясным гушчары, і нізка схілілі свае галіны старыя хвоі, быццам хацелі сказаць: «Верым, што беларуская жанчына як трэба ўзгадуе сваю маленькую дачку»... Уздыхнула з палёгкай маці:

—Але, узгадую на верную дачку народу...

Дарога павярнула налева, зашамрэў пад коламі ліль-лёвы верас. Яшчэ адзін заварот, і з-за трох старых хвояў паказалася родная хата. На спатканьне йшоў малады залатавалосы лясьнічы. Пацалаваў жонку і ўзяў з рук старэйшае жанчыны белы зьвіток. Ізноў сонечны прамень паказаў сваю ласку, прасочваючыся праз гушчар і асьвятляючы маленькі тварык. Задрыжэлі радасна вяршаліны дрэваў, заблішчэла разнакалёрнай вясёлкай раса...

— Ну, як назавём нашую малую Беларуску? — усьміхнуўся лясьнічы...

* * *

Падрастала Ірынка. Уваходзіла ў таямніцы ляснога жыцьця. Як маленькі лясны чалавечак, выглядвала

спад галінаў яліны, каб падзяліцца з мамай сваймі спасьцярогамі. А старая хвоя расказвала свайй дачцы, як зьявілася сюды гэтая яснавалосая дзяўчынка, і лёгкі веснавы шум ішоў па лесе. Гэты-ж шум уначы быў Ірцы ціхой калыханкаю. Цэлыя дні была Ірка з прыродай, усё болей і болей пазнавала лес. «Лясная каза», нек празваў яе бацька. Яна ведала птушак і зьвяроў, іхнае жыцьцё. Сачыла працу лясных пчолаў і мурашак, адразьняла шкодных гадаў ад вужакаў, якіх не баялася.

Увосень, калі зашамрэе пад нагамі залацісты ліст, затанцуе ў паветры, Ірка любіла бегаць па лесе. Пасьля прыходзіла пара дажджоў. Вечарамі сядзела Ірка з мамай і татам ля камінку й слухала, як тата прыгожа расказваў казкі пра русалак, пра лесавіка. Лесавік нічога благога ня робіць добрым дзецям. І Ірынка ўляўляла, як яна падыйдзе да яго й скажа: «Дзедку, я знаю цябе», а старэнькі дзядок ласкава пагладзіць яе па галоўцы.

А за сьцяной шумеў ручай, якога восень напоўніла чыстымі дажджамі. А тады белы пух пакрываў усю зямлю, змаўкаў ручай і іншыя зімовыя гукі напаўнялі лес. Мароз. Ірка сыпле зерне для галодных птушачак. Калі тата выяжджае ў лес саньмі; бярэць яе з сабою. Потым ужо, у ложачку, захутаная ў мяккую коўдру, з заплюшчанымі вачыма, бачыць яна, як спад елкі вылазяць лясныя чалавечкі і прачышчаюць падарожным дарогу.

Час ідзець. Ірка ўжо вучаніца. Рана ўстаець яна й бяжыць у суседняе сяло ў школу. Яна не баіцца. Любіць услухоўвацца ў лясны гоман. Чуе, як будзяцца зосну першыя птушкі, як дзяцел, лясны лекар, абстуквае хворае дрэва. Блішчыць шэрань пад ранішнім праменьнем сонца. А вось і сяло, роўныя рады хатаў. Мінаюць яе адны па адных селавыя сані, праводзіць іх няскосчаны брэх сабакаў. Журавель рыпіць над студняю. Часамі вясёлы дзявочы сьмех уварвецца ў раньне.

Вось і школка. Ірка — «Лясная каза», як яе дражняць дзеці, як некалі й бацька празваў, убягае ў клясу й ветла вітаецца з усімі. Ды часу на гутаркі няма. Пачынаецца лекцыя. Ірка доўга не магла гутарыць добра папольску, але цяпер ужо апанавала. Толькі часта на лекцыі накручваюцца нейкія дурныя думкі: «Чаму настаўнік гэткі далёкі, ня гэтак гаворыць, як гавораць бацькі, або... лес. Нейк ня так... І ня гутарка. Не. А тон...» Ірка задумваецца.

— Дзеці, Беларусь ня можа існаваць, бо ня мае доступу да мора.

Ірка шырака адчыняе вочы, навет хоча ўстаць. Але чаго? Што яна скажа?.. Затое-ж дадому яна бяжыць вельмі шпарка. Ні птушкі, ні стук дзятлаў, ні чорныя альховыя шышачкі на сьнезе ня прыцягваюць ейнае ўвагі. І дзе той дом? Ніколі ня быў гэтак далёка... Ах, вунь мама на двары! Задыхаўшыся, ловіць маму за руку.

— Мама, настаўнік казаў, што Беларусь ня можа існаваць, бо ня мае доступу да мора. Ці гэта праўда? — настаражваецца яна.

Мама задумалася часінку.

— Гэта настаўнік памыліўся, Ірусь.

Ну але, пэўна. Мама-ж ляпей ведае. Трэба будзе сказаць яму аб гэтым узаўтра.

* * *

Вайна. Шмат зьменаў прынесла яна. Хоць нядаўна гэта яшчэ было, калі селавыя дзяўчаты закідалі яблыкамі «асвабадзіцельную красную армію», сустракалі ўсьмешкамі, вялізарнымі букетамі восенскіх яргіняў. Старэйшыя жанчыны з цэлага сяла выпякалі, хоць ня ведалі яшчэ ўдарніцтва, а ўсё-ж пастаханаўску, хлеб для галодных «байцоў». Нядаўна гэта было. Але ў суседнім сяле ўжо ня плуг гарэць зямлю, ня коняй паганяе сялянін. Трактар гарэць калгаснае поле. І то ня гэтак, як плуг. Аж да жоўтага пяску ўзьдзірае папар. Толькі дзе ня здолее захапіць, там патрэбныя коні. Нядаўна гэта было... Але ці адна ўжо хата стаіць пусткаю, ці адна сям'я, з акрываўленым сэрцам, пакінула родную старонку...

Але. Шмат зьменаў... Бацька Ірчын, якога нейкім цудам абмінуў прымусовы вываз, паехаў на ўсход «для павышэньня абразаваньня». Улады паслалі. Гэтак, зрэшты, сотні пасылалі...

І толькі цёмны лес ня бачыў гэтых зьменаў. Шуміць, як даўней, паважна, велічна... Восенскі шум... Ці дойдзе ён да нябёсаў? Мусіць не. Бо восенскія хмары засьцілаюць неба...

Ірка жывець з мамай. Ходзіць, як даўней, у школу. Толькі вучыцца ўжо не папольску — парасейску. Як жывець гэтая сям'я, ніхто ня ведае. Туман ахутвае лес, паказваючы, і то не заўсёды, толькі адны абрысы.

Вечар. У Іркі й мамы ейнай сьвята. Сяньня ў сельскую базу прывезьлі газы. Ірцы ўдалося дастаць цэлы літар. Цяпер гарыць у хаце лямпа, а Ірка голасна чытае маме Коласаву «Новую Зямлю». Гэта ўжо не маленькая дзяўчынка. Яна ўжо шмат што разумее...

* * *

Немцы. Ірка з мамай засталіся адны. Бацька не вярнуўся, дый ня ведаюць, дзе ён, апошнім часам лістоў не даставалі. На зямлі ізноў зіма. Ірка вучыцца ўжо не ў сяле, а ў горадзе. Вучыцца на мэдыцынскіх курсах. Колькі разоў гэтая школа пераносілася з аднаго будынку ў другі — ня зьлічыш. Лепшыя дамы адзін па адным забіраліся для Немцаў, для іхных жонак. Немцы гаспадарылі. Праз вокны школы відаць было, як яны абкружалі торговым днём рынак і забіралі ўсё, што лепшае. Эх, цяжка! Барджджэй-бы лета, ды ў родны лес. Туды яшчэ не дабраліся.

А ў лесе спакой. Ціха стаяць бязьлістыя дубы, бярозы, вольхі; хваляцца сваёю вопраткаю хвоі. Лес адпачывае, дрэмле... Але дрэмле чутка...

Улетку хацела вярнуцца Ірка дадому, ажно давялося навесну. Як грозная навальніца, прыляцеў набор у Нямеччыну. Заплакалі сёлы, гарады. Загаласілі... Дармо. Апошні сын, адзіная дачка — не глядзелі. Як рабочую жывёлу. Ірка ведала, дзе збаўленьне. У лесе.

А лес зашумеў першым веснавым пошумам, загаманіў людзкімі галасамі гушчар. Не адна Ірка ведала, дзе шукаць сховішча. Давялося моладзі кінуць родныя хаты. Адгэтуль гарачую малітву нёс лес пад нябёсы. Адгэтуль пачалася й нашая беларуская партызанка. Не, не бандыты, што рабуюць па сёлах. Свае, беларускія партызаны. Праўда, мала іх.

Па сёлах засталіся старыя й дзеці. Але ненадоўга. Сувязь з партызанамі не праходзіць дарма. Пачалася чыстка. Страшныя вобразы перасоўваюцца перад вачыма: паленыя жыўцом, растрэленыя, жыўцом закапаныя. Прасілі мёртвыя помсты, жывыя — выбаўленьня...

Тымчасам ад усходу насоўвалася зноў чырвоная навала. Нямецкія сілы слабелі. Адыходзілі, нішчачы ўсё па дарозе. І ня вытрывалі партызаны. Яшчэ віднеў на доме ўраду нямецкі штандар. Кінуліся бараніць блізкі горад ад апошняга бяшчынства Немцаў. Наперад! Засакаталі тоненька кулямёты, рогатам адказалі нямецкія мінамёты. Першы енк — першы забіты... Ня спыняе гэта іншых... Наперад і наперад...

У сівым халаціку сястры міласэрдзя ў першых радох снуе ціха дзяўчына. У даўгіх залацістых косах распальвае сонца праменьне, вочы адбіваюць блакіт неба.

— Ой, вады, вады сястрычка...

Вочы наплываюць сьлязьмі. О, Божа! — няма часу на сьлёзы.

— Зараз, зараз... будзе вада, — ласкавая ўсьмешка ўсьпляе да апошняга сну. І міжволі люструецца яна на твары памерлага. Далей, далей... Там, яшчэ там... Стогн... Усюды стогн... Халодны пот абцірае Ірка з чала. Адкідае нецярплівa залацістыя косы...

Ноч акрыла зямлю. Усплылі на неба зоры й пачалі свой адвечны нябёсны кагарод. Мо паможа ноч... Прадоўжным брэхам вядуць няскончаную спрэчку кулямёты. Бясконцая, страшная гадзіна і... чырвоны водбліск асьвяціў партызанаў. Ага, здагадаліся. Ды дармо-ж! Наперад... Яшчэ раз мільгануў на фоне чорнае ночы ў полымі страшэннага пажару нямецкі сьцяг... Нарэшце. Нарэшце...

На зямлю кладзецца туман. У ранішні золак урываецца радаснае — «Ура! Ура...». — «Ура! Ура!» — адказвае, спачатку слаба, а пасьля сьмялейшы, крык гарадчанаў... Дасягнулі...

Памаленьку ападае ранішні туман. Асядае на траву, на кусты, на забітых жаўнераў. Пад прыгнутай маладой бярозкай ціха ляжыць дзяўчына. Сівы халацік, чырвоны крыж на белай павязцы на рукаве. Сонца абдымае яе цёплым праменьнем, як тады... Першы раз... Першае падарожжа ў беларускі лес. Дарагімі дыямэнтамі мігціць у залацістых косах раньняя раса... Толькі вочы ня люструюць у сабе блакіту неба і ня песьцяць позіркам сваім раненых жаўнераў. На вайсковым мэдалі словы: «Лясная Каза». Па іх пазнае кажны партызан, аддасьць матцы... Не дачакалася разьвязкі. Ну, што-ж!

Жалобным шумам жаліцца лес.

---

МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# ВЫ ТАК РЭАГАВАЦЬ НЯ ЗВЫКЛІ

ВЕРШЫ

### СІНІЯ ВОЧЫ

Як цяжка да аматараў сяго́ньня не належыць
і не запэцкаць ног чужою тваньню.
О, як-бы я хацеў рассунуць межы
майго зямнога існаваньня.

Праз вашу тоўшчу цёмную прабрацца,
як прабіраецца праз хмары бліскавіца,
і ў тысячы градацый
яшчэ й яшчэ раз нарадзіцца.

І вось з вачыма сінімі у раньні росным
раскрыўся васілёк на перавале...
А людзі йшлі і пазіралі скоса, —
адны маліліся, а іншыя — плявалі.

Заўльгаў, 1948 г.

### ВЫГНАНЕЦ

— Адкуль-жа будзеш?
— З Украіны...
— А я сама — зь Беларусі...
— І маці й бацька мой загінуў...
— Загінулі й мае усі...

Сустрэліся й пайшлі маліцца...
За пазухаю — хатнія лісты.
А я маўчаў усё — як быццам
Сястрой маёй была ня ты.

Пайшоў сабе далей зь нічым я,
і у вадзе — ледзь-ледзь мільгне —
вялі паўзь берагу лагчыны
мой вобраз, незнаёмы мне.

Заўльгаў, 1948 г.

### МАНАХ

«Ня стала ў кляштары манаха —
гавораць, вінавата дама» —
перадавалася зь гіроніяй і страхам,
як грэшная і боязная тэлеграма.

Ішоў і млела пад каленьмі...
На павароце ў сэрца ўдарыла трывога
і тупіком, і сьмерцяй, і збаўленьнем —
расьпяцьце бронзавае Бога...

На мур глядзелі яго вочы —
вакно пабачыў і сьцяну ўсё тую.
Апоўначы манах пастукаў тройчы
у браму, ціхую й сьвятую.

Заўльгаў, 1948 г.

### КЛЯШТАР

Да кляштару замкнута брама
«Забараняецца ўваход».
Яна-ж дазволу і ня брала —
размаляваны рот.

Зь пярэдняй кішані дастала
ёй паслухмяныя ключы.
Паходкай царсьвеннаю, аднастайнай
за брамай зьнікла уначы.

Глядзеў усьлед яшчэ ёй доўга —
дрыжэла ў галаве імгла.
Шкада — ня быў я тым бульдогам,
зь якім ты ў браму увайшла.

Заўльгаў, 1948 г.

### ВЯСНА

З начы зямля была йшчэ мокрай —
дажджы шумелі уначы,
тады, калі нас цемра з вокнаў
манілася падсьцерагчы.

Сьвятло згасілі мы й нэ залі,
парваўшы стрыманасьці ніць,
каб многазначна не сказалі,
што нехта позна йшчэ ня сьпіць.

...З вакна глядзелі мы абое
уніз, і сад у вокны лез.
З пампушак белых, як з набояў,
страляў у нас пахучы бэз.

Заўльгаў, 1948 г.

### ПАСЬЛЯ ЎСЯГО

Наверсе тупацелі й бегалі злачынна —
маглі падлогу так працерці.
Як шафа у кутку з начыньнем,
маўчаў я, цішыню пазнаючы у сэрцы.

І ў мой пакой дзьвярэй не адчынялі,
і ня будзілі ў часе раньнім...
Не задаволены сваймі чынамі,
я цешыўся маім расчараваньнем.

І толькі зьлёгку здрыгваўся у крэсьле —
вы так рэагаваць, вядома што, ня звыклі.
У памяці маёй усё закрэсьліў
прабег шалёны матацыклю.

І вуліцы ізноў, аглухшы, апусьцелі,
і толькі за сьцяной хтось плёхаўся у ваньне...
Як добра, што яшчэ ў пасьцелі
ёсьць слодыч жудкая неіснаваньня.

Заўльгаў, 1948 г.

### НА ЗАХОДЗЕ СОНЦА

Як быццам зь неба яны зьлезьлі —
сьвятыя пасланцы:
для продажу, за агарожаю зялезнай,
паселі помнікі, як мудрыцы
чакаючы, калі і хто іх купіць:
— Ня бойцеся, глядзеце, выбірайце!
Даволі швэндацца вам купай,
зрайцы!

— Спалохаліся, га?..
Пабеглі, як чужыя
ад нашай гутаркі хаўтурнай.
Помнікі, усьлед выцягваючы шыі,
гугнавілі:
— Йшчэ вернецеся, дурні!

— Мы злосьці й болю вам ня чынім —
пасланыя мы з высі...
Ага, застаўся вось адзін хлапчына —
хадзі бліжэй і ня трусіся.

Я скамянеў ад д'яблаў гэтых нізкіх
і лысіна ў расе ўся.
І помнік, скочыўшы, халодны, склізкі,
на плечы мае ўсьсеўся.

— Нясі! — дыхнуў каменным целам
і ашчаперыў рукі...

. . . . . . . . . . . . . .

А сонца на заходзе крывянела
ад катаваньня й мукі.

Заўльгаў, 1948 г.

**У. ГЛЫБІННЫ**

# ЖАНЧЫНА Ў ПАЭЗІІ М. БАГДАНОВІЧА

У 1927-28 г. Інстытут Беларускае Культуры ў Менску выдаў поўны збор твораў Максіма Багдановіча ў двух вялікіх томах. Дзякуючы гэтаму, мы цяпер маем блізу ўсё, напісанае Максімам Багдановічам, зыбранае разам, пры тым шмат і такіх твораў, якія за жыцьцём паэты ня былі надрукаваныя.

Сярод апошніх ёсьць вялікі цыкль вершаў «Каханьне й сьмерць».

У І-ым томе твораў Максіма Багдановіча гэтая нізка вершаў друкавалася з аўтаграфу, перададзенага ў верасьні 1926 г. у Літаратурную Камісію Інстытуту Беларускае Культуры С. Некрашэвічам, які атрымаў іх ад ведамага беларускага бібліяфіла Р. Зямкевіча. Гэтыя вершы паэта думаў зьмясьціць у сваім першым і адзіным, добра ведамым нашаму чытачу зборніку вершаў «Вянок» разам із цыклем вершаў «Мадонны», як гэта відаць зь ліста В. Ластоўскага да паэты ад 24. 10. 1913.

Паводля датаваньня самым паэтам, вершы «Каханьне й сьмерць» напісаныя ім у жніўні-верасьні 1912 г. і ў часе напісаньня супадаюць зь «Вянком». Ды ня толькі час напісаньня, але й сама тэма дзяўчынымаці лучыць гэтыя вершы з разьдзелам «Вянка» — «Мадонны».

Абодва творы, што складаюць разьдзел «Мадонны» — «У вёсцы» і віршаванае апавяданьне «Вэраніка» — маюць прыгожыя вобразы дзяўчыны, у вабліччы якое паэта бачыць «выгляд мацяркі», перад якой ён заўсёды схіляўся і ўбагаўляў, знаходзячы ў ім

...штось вышэйшае, што Рафаэль вялікі
стараўся выявіць праз Маці Божай лікі.

Чароўны вобраз дзяўчыны Вэранікі нагадаў паэту выдатнейшыя ўзоры жаноцкага хараства ў вабразох Рафаэля, паэта надаў свайму вымыслу «пекнасьці» жывой».

...тэй, што з постацяй дзяўчыны
Зьлівала мацеркі чырты.
О, як прыгожы-дзіўны ты,
Двайной красы аблік ядыны!
Ажыў у ім твой вечны цэль,
Мадонн тварыцель, Рафаэль!

(«Вэраніка»).

Гэтак пясьняр красы жыцьцёвай імкнуўся й хіба найпаўней ды найпасьлядоўней выявіў гэты бок свае музы якраз у тэме дзяўчыны, якой ён заўсёды надаваў «высокай красы» жанчыны-маці.

Наагул лепшыя вершы пра каханьне ў беларускай паэзіі належаць пяру Максіма Багдановіча. Шмат якія зь іх пакладзеныя на музыку. Сярод апошніх — незраўнальны ў харасьцьве пачуцьця раманс «Зорка Вэнэра», які ўпрыгожвае ўсе вакальныя выступленьні беларускіх сьпявачак.

Але М. Багдановічу належаць яшчэ мала ведамыя вершы, якія мог напісаць чалавек, што ўмеў безаглядна, аддана й зь нячуванай сілай пачуцьця кахаць жанчыну.

Буду сьніць і днямі і начамі
І прыйду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі,
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

Гэта можа ўжо трагічнае пачуцьцё, але яму ніяк нельга адмовіць у магутнасьці й непераможнасьці. Аднак, бальшыні гэтых вершаў М. Багдановіча больш характэрнае тонкае пачуцьцё, стрыманае эстэтычным густам і прасьветленае высокім духам, ясным інтэлектам, што робіць самое пачуцьцё гарманійным і прыгожым, сьветлым і чароўным. Гэтак як-бы вуснамі паэты гаворыць рамантыка самое маладосьці.

Маладыя гады,
Маладыя жаданьні!
Ні жуды, ні нуды,
Толькі шчасьце каханьня.
Помніш толькі красу,
Мілы тварык дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.
Цёмны сад-вінаград,
Цьвет бяленькі вішнёвы, —
І агністы пагляд,
І гарачыя словы.
Будзь-жа, век малады,
Поўны сьветлымі днямі!
Пралятайце, гады,
Залатымі агнямі!

(1915-18 г.).

Так маладосьць заўсёды носіць у сабе прыгажэйшыя краскі жыцьця й творыць жыцьцёвую красу. Гэтай парою душа рашчыняецца на ўсё лепшае, чысьцейшае, прыгажэйшае, ідэальнае й зусім прыродна знаходзіць выяўленьне ў прыгожых пачуцьцях каханьня, якімі красіцца гэтая лепшая пара ў жыцьці чалавека.

Гэтыя вершы М. Багдановіча маюць і вялікае ўзгадавальнае значаньне, яны прышчапляюць маладому чытачу здаровыя, ідэальныя пагляды на хвалюючыя бакі жыцьця і ўзгадоўваюць пачуцьцё эстэтычнасьці, прыгажосьці ў дачыненьнях паміж людзьмі. Гэтыя творы вучаць глядзець на жанчыну, як на высокага сябру ў жыцьці, вучаць цаніць у дзяўчыне ня толькі каханага чалавека, але й бачыць у ейнай ролі жанчыны-маці вышэйшае прызначаньне.

Захаваўся цікавы дакумэнт — успаміны супрацаўніка яраслаўскае газэты «Голас», у якой супрацоўнічаў і паэта, А. Цітова — «З успамінаў пра М. А. Багдановіча». «У вадным з нумароў «Голасу», — піша А. Цітоў, — я прачытаў невялікі верш, у якім гаварылася пра жанчыну, што рыхтуецца быць маткай, якая сядзіць за «цёплай шклянкай гарбаты» і варожыць «па цененьніх чаінках»: што народзіцца — дзяўчынка ці хлопчык? Верш мне надта падабаўся, але аўтар схаваўся пад жаноцкім псэўдонімам.*) Я спытаўся ў Максіма Багдановіча, ці ведамы яму аўтар гэтага вершу. «Аўтар гэтага вершу — я», — сказаў М. А. — «Ведаеце, я надта люблю бачыць цяжарных жанчынаў. Я заўсёды гатовы перакланяцца перад такою жанчынай, якая рыхтуецца даць сьвету будучага сябра грамадзтва — чалавека. Запраўды, яна выконвае вялікае прызначаньне жанчыны».

Таму гэтай тэме й прысьвяціў М. Багдановіч колькі высокамастацкіх вершаў, якія ўвайшлі ў разьдзел «Каханьне», «Жанчына-маці» І-га тому ягоных твораў. У гэтым цыклі бярэць на сябе ўвагу верш «Больш за ўсё на сьвеце жадаю я», у якім паэта выказаў сваё інтымнае затоенае лятуценьне мець собскае дзіцё. Гэты прыгожы верш, варты таго, каб яго тут зацытаваць:

Больш за ўсё на сьвеце жадаю я,
Каб у мяне быў свой дзяцёнак —
Маленькая дачушка-немаўляшка,
Аня Максімаўна,
Такая прыгожанькая,
Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валаскамі й броўкамі,
Зь цёмнакарымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.
Зусім такая, як Вы,
Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай.

Нездарма колькі вершаў М. Багдановіча прысьвечана маленькім нованароджаным дзецям («Прычасьціўся целу мацеркі», «Ласун» і інш.). Усе яны атуленыя надзвычайнай любасьцяй і замілаванасьцяй да маленькіх дзяцей, агрэтыя лагоднай жартаўлівасьцяй і вялікім пачуцьцём да малых.

Далейшым разьвіцьцём тэмы каханьня зьявіліся ўспамінаныя на пачатку вершы «Каханьне й сьмерць». Тут ужо, можа як у ніводным творы сусьветнай паэзіі, глыбака й паэтычна разгорнутая тэма каханьня ў шлюбе, пасьлядоўна прадаўжаная ранейшая тэма аб дзяўчыне з «чыртамі мацеркі» да тэмы жанчыны-маці. Гэтая тэма прыцягвала ўвагу шмат якіх паэтаў-сымбалістых, аддалі ёй вялікую ўвагу й расейскія паэты

---

*) Верш «Осенью», падпісаны псэўдонімам «Ек. Февралёва». «Голас», 1916, № 154.

гэтае школы, як Валеры Брусаў (Habet illa in alvo), і заходня-эўрапейскія майстры слова, як Э. Вэрхарн, П. Вэрлен і інш. Аднак нідзе ў сусьветнай літаратуры няма гэткага праўдзівага ў сваёй рэальнасьці й гэткага тым-жа самым часам дабрароднага, мастацкага выяўленьня каханьня ў шлюбе, узвышанага верай у вялікае прызначаньне жанчыны-парадзіхі, верай у сьвятасьць жанчыны, як маці, што аддае сваё жыцьцё для жыцьця дзіцяці. Апісаная ў гэтых вершах гісторыя каханьня ў шлюбе мае сумную разьвязку — каханая памірае. Аднак, усе гэтыя вершы гучаць запраўдным гімнам чалавечаму пачуцьцю, жаноцкаму каханьню й ахвярнасьці ў імя дзіцяці. Слаўная доля загінутых у крывавым баі за свой край. Але ня менш слаўная доля й тых, хто спараджае новых сыноў і гэтым не дае загінуць краю й народу. Гэта вечная слава жанчыны-маці. З глыбокай пераканальнасьцяй гучаць паэтавы словы, быццам гімнам на славу цяжарнай жанчыне:

Ды слаўней цяжарнай доля, —
Ў сэрцы маючы любоў,
За дзіцё зазнаці болю,
За дзіцё праліці кроў.
Слава тым, хто сілу мае
Сьмерць няздрогнуўшы спаткаць,
Хто ў мучэньнях памірае,
Каб жыцьцё дзіцяці даць.

Толькі паэта з прыроджанай інтэлігентнасьцяй пачуцьцяў, дабрароднай душой, тонкай і філёзофскай натурай, ачышчанай ад усяго нізкога высокім інтэлектам, чалавек з пачуцьцём бязьмежнае пашаны й любасьці да жанчыны, мог гэтак тонка й далікатна падаць тэму, якая ў іншых магла-б набыць грубое эратычнасьці. Разам із тым трэба было добра пераняцца ўсімі сардэчнымі хваляваньнямі й перажываньнямі жанчыны, каб гэтак пранікліва, цёпла перадаць ейнае салодкае пачуцьцё дзіцяці, што сьпее ў яе пад сэрцам («Як хораша. калі дзіцё...», «Дзіцё, што ў каласе зярно»). Паэта знайшоў трапныя прыраўнаньні, удалыя вобразы для абрысаваньня стану маладое маці, якая «штодня марнее», аддаючы жыцьцё свайму дзіцяці.

Так крохкая, пушыстая багатка
Пад ветрам аблятае, каб магло
Яе насеньне узрасьці і кветнуць,
І толькі кволае сьцябло пасьля
Гаворыць аб жыцьці, дзіцём адданым.

Вершы гэтага цыклю, як «Да цяжарнай», «Трыялет», нагэтулькі тояць у сабе паэзіі й мастацтва, перадачы жаноцкіх пачуцьцяў, што становяць сабой наагул незраўнальныя ўзоры агульна-чалавечае лірыкі. А ўсё гэта, разам узятае, робіць цыкль «Каханьне й сьмерць» нагэтулькі вартасным для ўсяго чалавецтва, што ён заслугоўвае на пераклад ува ўсе эўрапейскія мовы. І трэба было-б нашым выдавецтвам, перадрукаваўшы, зрабіць гэты твор прыступным шырэйшым колам чытачоў, бо поўны збор твораў М. Багдановіча цяпер стаўся бібліяграфічнай рэдкасьцяй.

Нам хочацца на гэтым месцы заклікаць усіх інтэлігентных Беларусаў за мяжой зацікавіць творам «Каханьне й сьмерць», як і наагул творамі М. Багдановіча, эўрапейскія літаратурныя колы й намовіць іх зрабіць пераклады гэтага твору ў эўрапейскія мовы. Гэтым мы прычыніліся-б да справы ўзаемнага культурнага пазнаньня народаў Эўропы, а таксама й да справы рэпрэзэнтацыі беларускае культуры сярод эўрапейскіх народаў.

---

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ ПАНЯМЕЦКУ *)

## Gedichte von **Maksim Bahdanovič**
## aus dem Weißruthenischen übertragen
## von **Eugen Freiherr von Engelhardt**

**Meine Lieder.**

I.

Wenn die Trauer mir mein Herz bedrängt
All' das Leid umsonst gelebter Tage,
Klingt im Lied, das mir die Muse schenkt
Leise meiner Seele bitt're Klage:
Ob der Jugend, die ich nicht gekannt,
Ob des Glückes, das mir stets entschwebte,
Ob der Liebe, die ich noch nicht fand,
Ob des Lebens, das ich noch nicht lebte . . .

II.

Faßt die Trauer um mein Heimatland
Meine Seele, soll mein Lied nicht schweigen,
Daß ich treu zu meinem Volke stand
Soll es ihm und seinen Feinden zeigen.
Und mein Lied erklingt dann laut und klagt
Meines Volkes schweres Los und Leben.
Doch daß ihm das Morgenrot einst tagt
Diese Hoffnung soll mein Lied ihm geben.

**Emigranten.**

Es wandern gar viele Gesellen
Die von Gott und dem Teufel nichts wissen,
Ihre Welt sind: die Schiffe, die Wellen,
Und sie scheinen auch mehr nicht zu wissen.

Die Häfen, der Schnaps und die Weiber
Das ist ihnen Heimat und Leben.
Es werden zuletzt ihre Leiber
Dem endlosen Meer übergeben.

Doch wir sind von anderem Schlage:
Unser Land kann uns alle nicht nähren,
Und so müssen das Wandern wir wagen
Um der Not und dem Hunger zu wehren.

In fremden Häfen und Städten
Leben Jahre wir, schuften und sparen.
Doch wir, die vom Schicksal Verwehten
Wissen Treue der Heimat zu wahren.

---

*) Вершы гэтыя ўзятыя з падрыхтаванага да друку ў нямецкай мове зборніка вершаў Максіма Багдановіча ў перакладзе Аўгена Энгельгардта, ведамага аўтара вялікай нямецкай працы аб Беларусі „Weißruthenien", 1943. Перакладнік паходзіць зь беларускай Дзьвіншчыны, дзе нямецкі род Энгельгардтаў пражываў ад болей як трох стагодзьдзяў.

Праф. др. А. БЭР

# ЭЎРОПА Й АНТЫЭЎРОПА

**Ад рэдакцыі.** Уважаем за цікавае пазнаёміць нашых чытачоў з асноўнай часткай пададзенага нядаўна нямецкім інфармацыйным агенцтвам ДЭНА праекту скіраванага да чайвыдатнейшых сусьветных дзеячоў вонкавапалітычнага мэмарыялу незалежніцкай «Баварскай партыі» на тэму «Баварыя й Эўропа». Падаваная намі частка дае вельмі трапны й грунтоўны аналіз дзьвюх вялікадзяржаўных імпэрыялістычных сілаў — Прусаў і Расеі, што выяўляюць цяпер пагрозную тэндэнцыю зрастаньня ў вадзіны савецка-камуністычны імпэрыялізм. (Пра «Баварскую партыю» й ейныя асноўныя ўстановішчы гл., між іншага, у «Бацькаўшчыне», № 7 (10) — «Баварыя імкнецца да самастойнасьці»).

У 1945 годзе ўсе антынацыстаўска, а тым самым антыпруска, інакш кажучы — эўрапейска настроеныя Баварцы пачуваліся блізка да ўжыцьцёўленьня вялікае, глыбака ў эўрапейскай гісторыі ўкарэненае надзеі. Яны спадзяваліся канчальнага разьвязаньня Прусанямеччыны, палітычнае базы «Трэйцяга Райху», якая, як ужо сяньня даецца прадбачыць, ідэнтычная з Масквою што да свае эўрапейскае дзяржаўнае палітыкі (Эўразія). Кажнаму палітыку на ўзвышшы было й ёсьць ясным, што гітлераўская Нямеччына не становіць нічога іншага, як апошні вынік, таталітарную форму пруската ўльтранацыяналізму, дэспатызму й мілітарызму, падобна як бальшавіцкая Расея — гэта прыродны нашчадак расейскага дэспатызму — царызму.

Кажны эўрапейска думаючы дзяржаўны муж ведае, што сьцяг войнаў ад 1866 г. быў тыпова-прускім, антыэўрапейскім, пры чым Прусы напалі на Баварыю (1866), дэградавалі яе да васала (1871) і нарэшце да правінцыі (1918). Прусы выйгралі ўсе гэтыя войны супраць Баварыі й Эўропы калі не вайскова, дык, у канцавым выніку, палітычна й эканамічна. Памылкі, зробленыя з боку Заходніх Дзяржаваў, асабліва па першай сусьветнай вайне, знайшлі глыбокую гістарычную ацэну й асьвятленьне. Прызнана, што Вэрсальскі мірны трактат быў чыста эканамічнай умовай, далёкай ад запраўднае палітычнае канцэпцыі, каб дасягнуць эўрапейскага й стратэгічна-прафіляктычнага значаньня, ды наадварот, нават прычыніўся да таго, каб прышчапіць вялікапрускаму народнаму прастору новыя нацыяналістычныя імпульсы, без таго, каб адначасна адабраць у яго магчымасьць новага фармаваньня ягонае агрэсыўнае палітыкі. Вэрсальскі мір быў ледзь замір'ем, якое Прусы выгодна выкарысталі, як сон сьвету, як толькі перахаджалы, бяз значаньня перапын у цягласьці прускае наступальнае палітыкі. Яшчэ й сяньня, здаецца, Заходнія Дзяржавы не прызнаюць ніякага звароту ў кірунку свае эўрапейскае палітыкі, які так напрошваецца ўсім знаўцам і нават пэўнай частцы шырокіх масаў. Хіба прадстаўнікі Заходніх Дзяржаваў ня ведаюць, што носьбіты прушчыны расцэньваюць страту другое сусьветнае вайны адно як «няшчасны выпадак», які мусіць быць адроблены пры спрыяльнай нагодзе? Што гэтыя спадары толькі блага прыхоўваюць сваю нянавісьць да Заходняе Эўропы пад сваім дэмакратычным і сацыялістычным насовам? Сьвет ізноў даецца ашукваццa Прусам.

На завароце XIX стагодзьдзя ў фатальную догму разьвілося гледзішча, быццам эканоміка мае прымат над палітыкай — тэза, бліскуча зьняпраўджаная наступнымі падзеямі (таксама, як узброеньне й вайна Гітлера зьняпраўдзілі легенду «вэрсальскага дыктату»), якая аднак палітычным забабонам XX веку вядзе й далей высокую палітыку старымі блуднымі шляхамі, замыкаючы яе ў мус дэманічнае фікцыі палітычнае канечнасьці. Сяньняшняя так званая «рэальная палітыка» больш, як калі-небудзь, падпадае пад ідэялёгічны псыхоз веку, хоць ейныя прадстаўнікі цешаць сябе ілюзіяй, быццам яны вольныя ад гэтага. Хто спрабуе праламаць гэтае, ужо ў падсьведамасьць увагнанае упярэджаньне, гэты псыхагенэтычны камплекс — выглядае сяньня на гарэтыка, як у панурым сярэднявеччы нейкі багаатступнік. Месца Бога займае сяньня гаспадарства, або ўсё тое, на чым сяньня будуюцца гаспадарстваўскія ідэі ці тое, што ад іх выводзіцца. Разглядаць працэс гэтае «сэкулярызацыі» ня нашае заданьне й намер. Можна аднак падчыркнуць, што зародкі сяньняшніх нявідомых палітычных вялічыняў, мадэрных дэманаў, былі закладзеныя ў позным сярэднявеччы. Іхнымі першымі пладамі былі рэфармацыі, г. зн. разрыў духовага адзінства Захаду. Бальшавізм у гэтым раскладальным працэсе становіць апошнюю, але найадназначнейшую, найтатальнейшую й найнебясьпячнейшую спробу. Толькі поўны адварот ад палітычнага зьместу й разьвіцьця апошніх сту год перашкодзіць таму, каб палітычны гэрмафрадыт, пад дыктатурай якога пакутуе Эўропа й які сымбалізуецца ў розных партыях, неадменна прыняў постаць азіяцкага фашызму, і Масква ўступіла ў спадчыну Рыму на ўсходняй паўкулі. Гегемонія Прусаў згасіла паймо «Эўропы» й правяла міжнародную анархію. Дух гэтае эры яшчэ ня сходаны. Але ён мусіць быць сходаны, бяз увагі на ўсе аблыжныя клічы аб «нацыі», «адзінсьцьве» й г. д. Сыцюдзёна й кансэквэнтна, як Масква, мусіць Эўропа дзеіць.

Падобнае разьвіцьцё, як Прусы, прыняла Расея, толькі што ўнармаванае (паводля ейных прасторавых шырачыняў і глыбакосьцяў ды паводля азіяцкае часасьведамасьці), на даўжэйшыя тэрміны. Як калісь Прусы, духова падрыхтаваныя паўночнай рэфармацыяй і палітычна пасрпыяныя ў засені 30-гадовае вайны, узялі нівэлюючa-нацыяналістычную філёзофію засіўленага «свабодай» дэспатычнага духу францускае рэвалюцыі ды ёй апэравалі, зьмяняючы колеры, — гэтак сяньня Масква зьвязвае прускую гаспадарстваўскую этыку й адціснутую ёй камуністычную ідэялёгію (прускае гаспадарства разьвілося з карэньня і ў стылі сялянскае эканоміі, адкуль і фікцыйны прымат эканомікі!) з ультранацыяналістычным гаспадарстваўскім кумірам у тое, што пагражае Эўропе, як бальшавізм. Найбольшы вораг свабоды народаў і міру заўсёды — гамагенныя масы й зроджаныя з адмоўленага прыродай трызьненьня роўнасьцяй **імкненьні да «адзінства»**, дыктатура, зраўнальніцтва. Гэты прынцып, што ўвёў вялікія грунтоўныя войны новых часоў, супраць якіх зьбляднелі ў намерах, ахвярах і г. д. усе ранейшыя войны, — цягнецца чырвонаю ніткаю празь гісторыю заходняе новачаснасьці. Быў-бы час пазнаць гэта ўва ўсёй глыбіні й цяжыні, а тым самым і выцягнуць высновы для палітычнае практыкі.

Палітычная (а зь ёй і эканамічная) раўнавага Эўропы тым самым залежыць ад укладу сілаў, якія ўважаюцца за эўрапейскія ці за антыэўрапейскія. Хто знае Эўропу й несхвальшаваны заходні дух, той ведае, што Прусанямеччына (Вялікапрусы) не рэпрэзэнтуе ані адзінага народу, ані нацыі ў запраўдным сэнсе, а становіць сабою няпрыродную, палітычную мусавую й мэтавую канструкцыю, якая паўстала пад дзяржаўнапалітычнай рэжысурай Прусаў і ў гэтай форме захоўвалася ды будзе захоўвацца. Вонкавае вязьмо штучнае мовы, што зьвязвае «Немцаў», вядзець да сафізму «Нямеччыны», гэтае найбольшае фальсыфікацыі гісторыі новага часу. Але нават супольная прыродная мова, як ведама, не заўсёды супадае з паймом «нацыі». Створ «Прусанямеччыны» ня можа разглядацца, як саюз раўнапраўных народаў і гаспадарстваў, апекаваных і кіраваных аднэй, усіх раўнамерна падпарадкуючай інстанцыяй (як гэта ёсьць у ЗША), а якраз наадварот: тут мы маем супрацьпраўныя, на груньце зламаньня ўмоваў, войнаў і г. д. праведзеныя анэксіі, або васалаў

і правінцыі Прусаў пад іхным панаваньнем, пад іхным бізуном, з мэтаю пры памозе ўсяго гэтага й ваенных вычынаў паярэміць цэлую Эўропу пад «ахову» прускае гэгемоніі й партыкулярыстычнага валадарства бэрлінскіх Прусаў — гэткім парадкам, маем гістарычную паралель Маскве. Відавочны адсюль прускі партыкулярызм і сэпаратызм супраць Эўропы — выяўны сакрэт гісторыі. Такім парадкам, улучэньне ў «Райх» у запраўднасьці значыць «упрусаўленьне», што йдзець у пары з эксплёатацыяй і эканамічным зьбядненьнем «улучаных» краёў. У выпадку Бавcovарыі эканамічны гвалт Прусаў пайшоў гэтак далёка, што ў інтарэсах прускага капіталу было запыненае выкарыстаньне з дапамогаю сучаснае тэхнікі багацьцяў земных нетраў і прыроднае энэргіі (водных сілаў і г. д.). Цяперака Прусы, якія палітычна дзеюць і далей, дармо, што фармальна яны разьвязаныя, — спрабуюць усімі спосабамі сабатаваць гаспадарку Баварыі з мэтаю падарваць ейную самастойнасьць. Лёзунг «эканамічнага адзінства» відавочна служыць толькі наладжаньню эканамічнае гэгемоніі Прусаў, папярэдніцы гэгемоніі палітычнае.

Побач із Прусамі анты-эўрапейска працуе й дзеіць іхная азіяцкая сястра — Расея, што сяньня зарыентаваная мангольска й намагаецца скамбінаваць сваё гаспадарстваўскае ўнясьце (сваё «Боскае паймо») із прускім і тым самым паставіць Прусанямеччыну, г. зн. Прусы зь іхнымі «набыткамі», пад рэжысуру Масквы. Чым мацней патрабуюць «адзінства Нямеччыны», тым больш працуюць на руку Маскве. Спробу Заходніх Дзяржаваў зарганізаваць Заходнюю Нямеччыну як супрацьвагу й буфэрнае гаспадарства да Расеі трэба разглядаць, як памыльную палітычную спэкуляцыю. Ніякая калекая Нямеччына ня будзе заходня арыентавацца на даўжэйшы час, а на груньце ўмацаваных у ёй прускіх элемэнтаў і зьвязанага з гэтым палітычнага веравызнаньня, аўтаматычна прыхінецца да прускага, пад расейскае вяршэнства пастаўленага камплексу краёў, г. зн. нутрана, а неўзабаве па тым і вонкава адлучыцца ад Эўропы. Масква ведае гэта й таму ўсімі псыхалёгічнымі спосабамі выступае за адзінства Прусанямеччыны, за падпарадкаваньне сярэдняэўрапейскіх народаў духу Бэрліну, што будзе спутаны з Масквою, калі ўжо ня спутаны зь ёю.

Трэба адабраць Сярэдняй Эўропе ўсялякую магчымасьць загарэцца зноў прускім, далёка ня чужым Расеі духам, бо гэты дух несумяшчальны з душою Эўропы, а хіба толькі з маскальскай ідэялёгіяй. Нездарма забясьпечыла сабе Масква межы, у якіх апынілася пруская Анты-Эўропа. Не здарма гадуе Масква сяньня новы, нацыяналістычны патрыятызм на панславянскім груньце, і адначасна, з дапамогаю прускіх нацыянал-сацыялістых і мілітарыстых — прусаччыну. Акупацыйныя ўлады, здаецца, паддаюцца фатальнай памылцы што да нутраное магутнасьці й пашырэньня гітлераўскае й перадгітлераўскае ідэйнае спадчыны ў масе прускага або пруска-накіроўванага жыхарства. Ужо заснаваная супольная духовая, нат псыхічная й палітычная база між абодвума сьветамі па гэты й па той бок «зялезнае заслоны», г. зн. стары, сяньня толькі ў розных колерах выяўляны гітлерапсыхоз. Колеры неўзабаве зьмяшаюцца ў вадзін адзіны. Але «зялезная заслона» будзе ўзьнятая ў мамэньце, калі Заходнія Дзяржавы страцяць і здадуць свае апошнія шансы. Бо «зялезная заслона» завешаная адно й адзіна для Заходніх Дзяржаваў. І апошнія мусяць удзячна прыняць гэта й адказаць. А тымчасам яны шчыра намагаюцца прадзіравіць або ўзьдзерці гэтую заслону ў марнай надзеі адкінуць яе на ўсход...

Заходнія Дзяржавы робяць усё, каб патураць працэсу зьліцьця прусаччыны й расейшчыны, ведама, верачы, што перашкаджаюць яму. Але ніколі ня ўдасца ім гэты твораны й заплянаваны заходня-нямецкі камплекс, як такі, здабыць для Эўропы. Стаўшы на собскія ногі, ён будзе самаўладна, г. зн. пад уладаю прускага духу, што сядзіць у ягоным сэрцы і ў мазгох, — ісьці свайімі шляхамі. А гэтыя шляхі вядуць — па ўсё большым палітычным адхоне — на Бэрлін, на Маскву. Рэчка цячэць так, як прызначана ёй дадзенымі абставінамі. Палітыку на ўзвышшы ўдаецца й заўсёды ўдасца рэгуляваць палітычную рэчку, адводзіць яе ад пэўнага кірунку. Сяньня трэба тварыць адхон у кірунку да Эўропы, які аднак прабягае супрацьлежна да кірунку на Маскву, а таксама супрацьлежна Гітлеру, супрацьлежна Бісмарку, супрацьлежна мінуламу стагодзьдзю.

Сяньня, у груньце бяручы, робіцца тая самая памылка, як пасьля 1918 г., толькі на месца Бэрліну ,прамінулае сярэдня-эўрапейскае інстанцыі, выступае Масква, будучая эўрапейская інстанцыя. Дазваляецца бесьперашкодна зрастацца часова й вонкава яшчэ разьдзеленым прусканацыяналістычным духам ды ймкнуць да Бэрліну (ці ягонага прадмесьця Франкфурту), а тым самым — да Масквы — хоцькі ці няхоцькі. І як па першай сусьветнай вайне, ці як у 1933 г., ізноў сьціхаюць галасы сумленных перасьцерагальнікаў і прыяцеляў Эўропы...

Баварскі народ, «памятаючы сваю больш, як тысячагодную гісторыю», пасьля сусьветнае вайны 1939-1945 г. г. даў сабе дэмакратычную канстытуцыю. У ёй між іншага, запісана: «Баварыя — вольнае гаспадарства», «Баварыя — народнае гаспадарства». Тым самым Баварыя собская, самастойная міжнароднапраўная адзінка. Было-б у найвышэйшай меры нядэмакратычным ізноў адбіраць у баварскага народу гэтае міжнароднапраўнае становішча й падпарадкаваць прусацкаму зраўнальніцтву, якое апошнім часам стаецца маскальскім. Гэтым рабілася-б благая паслуга і Эўропе ды сьвету. Хто касуе дэ-юрэ ці дэ-факто сувэрэнітэт паасобных эўрапейскіх краёў — паслабляе цэлую Эўропу і ўзмацняе Азію.

Кажнаму, хто ў супрацьвагу да «прастадушнае прэсы» (ужываючы выраз вялікага бачаньніка Чэрчыля) ужо 10, 15 год, як ясна пазнаў палітычнае палажэньне Эўропы, але не бярэцца на ўвагу — палітычная сьлепата, як і палітычны аптымізм сяньняшняе дэмакратычнае грамадзкасьці азначае ў найвышэйшай меры балючую зьяву. Не падлягае ніякай няпэўнасьці, што Сталін — па вылучэньні свайго эўрапейскага канкурэнта Гітлера — надумаўся ўступіць у панаваньне над «цьвярдыняй Эўропы». Ён, калі не абсалютна тымі самымі мэтадамі, дык усё-ж у істотным з дапамогаю прускае ідэі й таксама «Райху» пераймае спадчыну й ролю Гітлера, і якраз выкарыстоўваючы дазнаньні «вучня» Гітлера — без адкрытае вайны й з бальшай асьцярожнасьцяй. Страх вайны — добрая прыкрыўка, моцны адводны мамэнт. На месца нацыянал-сацыялізму напорна прасоўваецца ягоны кроўны сваяк — бальшавізм, паслугоўваючыся пры гэтым прусанямецкай ідэялёгіяй, як пажаданым авангардам, і пасьля вымаганым Заходнімі Дзяржавамі прускім «Райхам», як адзіным у сваім родзе серадком. Сталін у душы можа быць толькі ўдзячны Заходнім Дзяржавам за іхнае вялікадушнае паможнае становішча — акурат таксама, як некалі быў ўдзячны Гітлер.

Калі Эўропа не задумаецца, калі за балбатнёй пра «сэпаратызм» малых і сярэдніх гаспадарстваў не пазнае праўды найпагразьнейшага эўрапейскага сэпаратызму — спадчыны Гітлера, калі й гэтым разам праслухае або на сьмех выставіць сумленных перасьцерагальнікаў, — тады занепадзе Захад у лятуценьні ягонае інтэлігенцыі яшчэ ў XX веку, і гісторыя апошніх сту год застанецца як надарма напісанай. Гітлер хацеў «выскрабаць» гарады Эўропы. Сяньня тыя ,што мо мелі-б абавязак арыентавацца на гісторыю, выскрабаюць вызначальныя гістарычныя лініі. Тым самым яны выскрабаюць самых сябе й свае народы.

Гэта край Берыі, найбарждзэй узрастальнае сяньня сілы ў сьвеце. Гэтая сіла рухаецца туды, дзе грамадзтва раскладаецца, або хістаецца, або слухае дурняў і разбурае, што йшчэ засталося. Патрыёты, падобныя да Міколы Петкова ў Баўгарыі — застрэленыя. Кампрамістыя, як Ян Масарык, выкінутыя (камуністычнымі рукамі, або собскім адчаем) з вакна. Людзэі, падобныя да Галіча (чэскі кампазытар), якія могуць выказаць пачуцьцё народу — замоўклі. Марш Берыі будзе трываць, пакуль разумы, даляры, сіла й прабуджаная маральная сіла Захаду ня спыняць яго.

Але ня кажны і ў дэмакратыі турбуецца аб Берыі. Калі прэзыдэнт Труман заявіў, што ён ня хоча бачыць камуністых у кітайскім або ў якім-хоць іншым урадзе, дык Генры Ўолес назваў гэтае жаданьне, як «цалком безразважнае й аблыжнае».

Прыемна бачыць, што перадавое грамадзтва Захаду пабачыла тую небясьпеку, якую нясець із сабой маскоўскі імпэрыялізм. Мы сьветкі таго, як апошнім часам урад ЗША прыймае адзін па адным контразахады супраць маскоўскай экспансіяніcцкай палітыкі: павялічэньне вайсковага бюджэту, павялічэньне паветраных сілаў, увядзеньне абавязкавай вайсковай павіннасьці й шмат іншых мерапрыёмстваў, якія, трэба спадзявацца, дапамогуць у будучыні зрабіць канцы панаваньню маскоўскага камунізму. Мы сьветкі таго, як гуртуюцца прадстаўнікі тых падняволеных Масквой народаў, якія апынуліся тут, на эміграцыі, каб у будучыні супольнымі сіламі адстояць сваю незалежнасьць ад маскоўскага ката. Мы таксама знаем, што МВД Берыі мае свае вочы й вушы сярод эміграцыі, ня выключаная тут і нашая Беларуская эміграцыя. Ня трэба забывацца кажнаму сумленнаму Беларусу, што й сярод нашых людзёў могуць быць такія-ж Азэфы Берыеўскай «охранкі».

---

## АД РЭДАКЦЫІ

**Гэты нумар «Сакавіка» меўся быць прысьвечаным у васноўным Максіму Багдановічу й выйсьці да 21-х угодкаў ягонае сьмерці (25. 5. 1948). Тымчасам цяжкасьці з мэталем у друкарні, а зараз-жа за імі й цяжкасьці з паперай затрымалі ягоны набор і друк. Нарэшце да іх далучыліся й давяршылі ўсё фінансавыя цяжкасьці ў сувязі з валютнай рэформай у Нямеччыне, змусіўшы нас спыніць зусім далейшы набор нумару й выдаць тымчасам толькі тое, што ўжо было набранае — г. зн. у васноўным адзін першы аддзел арыгінальных мастацкіх твораў і толькі адзіночныя рэчы з наступных аддзелаў. Да іх давялося далучыць у якасьці новага аддзелу — «На палітычныя тэмы» — два даўжэйшыя артыкулы з матар'ялаў газэты «Бацькаўшчына», якія ўжо ляжалі набраныя ў ейным запасе, але пры цяперашнім ушчыльненьні гэтае газэты, выкліканым тымі-ж фінансавымі цяжкасьцямі, бадай ці могуць знайсьці ў ёй адпаведнае месца. У гэткім выглядзе й мусім выпусьціць нумар, ня трацячы веры й надзеі, што дапамога добразычлівых чытачоў і іншых нацыянальных дзейнікаў, да якіх і зварачаемся на гэтым месцы з просьбаю падтрымаць нас як мага, дазволіць нам у наступных нумарох часапісу ізноў выраўнавацца і не дапусьціць вярнуцца назад «у першабытны стан» ратартарнага выданьня, у якім зьявіўся быў наш найпершы нумар у 1947 г.**

---

## ЗЬМЕСТ: